Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
“ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ”

**С.В.МАРОЗАВА**

# Берасцейская царкоўная унія 1596 г. у беларускай гістарыяграфіі

**Вучэбны дапаможнік
па спецкурсе “Гістарыяграфія Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г.” для студэнтаў спецыяльнасці
Г.05.01.00 - Гісторыя**

Гродна 2002



**УДК 947.6:930**
**ББК 63.3(4Беи)**
М25

Рэцэнзенты: доктар гістарычных навук, прафесар У.М.Міхнюк;
кандыдат гістарычных навук, прафесар І.І.Коўкель;
кандыдат гістарычных навук, дацэнт В.Ц.Леанавец.

Рэкамендавана саветам гістарычнага факультэта ГрДУ імя Я.Купалы.

**Марозава С.В.**
Берасцейская царкоўная унія 1596 г. у
М25 беларускай гістарыяграфіі / С.В.Марозава. – Гродна: ГрДУ, 2002. – 132 с.

ISBN. 985-417-271-6

У вучэбным дапаможніку ў агульным кантэксце развіцця ўсходнеславянскай гістарыяграфіі асвятляецца працэс даследавання айчыннай навукай XIX-XX ст. заключанай у 1596 г. у Берасці царкоўнай уніі на ўсім працягу яе гісторыі (да дэнансацыі 1839 г.). Ахарактарызаваны этапы вывучэння праблемы, прааналізаваны канцэпцыі вядучых спецыялістаў і этапныя творы, адлюстраваны сучасны стан і акрэслены перспектывы далейшай распрацоўкі праблемы. У дадатку прыводзіцца спіс найноўшых публікацый беларускіх аўтараў па гісторыі Берасцейскай уніі.

Прызначаецца студэнтам, аспірантам, даследчыкам і аматарам айчыннай гісторыі XVI–XIX ст.

УДК 947.6:930
**ББК 63.3(4Беи)**

ISBN. 985-417-271-6 

# Уводзіны

Заключаная ў 1596 г. на саборы ў Берасці і скасаваная ў 1839 г. на Полацкім саборы унія праваслаўнай і каталіцкай цэркваў з'яўляецца адной з пераломных падзей беларускай гісторыі. Яна ўцягнула ў сваю арбіту шмат якія краіны і народы, палітычныя і рэлігійныя сілы, геаграфічныя і культурныя абшары. Чатыры стагоддзі пасля 1596 г. беларускае духоўна-культурнае і грамадска-палітычнае жыццё так ці інакш было пазначана ўплывам Берасцейскай царкоўнай уніі, якая пасля хрышчэння сталапа масавасці ахопу насельніцтва і трэцяй па значнасці другой пасля распаўсюджання каталіцтва – пераломнай падзеяй усходнеславянскай канфесійнай гісторыі. За час свайго існавання уніяцтва значна пацясніла пазіцыі традыцыйных рэлігій на Беларусі і ў XVIII ст. стала канфесійнай дамінантай. Нягледзячы на шматразовую дэлегалізацыю (у 1839 г. на Беларусі, у 1875 г. на Падляшшы, у 1946 г. на Украіне), унія ў Берасці аказалася найбольш трывалай з усіх ранейшых спроб аб'яднання хрысціянства. Увабраўшы ў сябе і адлюстраваўшы многія з тых праблем і супярэчнасцяў, якімі жыло беларускае грамадства XVI – XIX ст., аказаўшы істотны ўплыў на геацывілізацыйную сітуацыю ва Усходняй Еўропе, яна належыць да тых гістарычных з'яў, якія яшчэ не адышлі ў мінулае, і існуе да нашага часу.

Вось ужо пятае стагоддзе уніяцкая праблематыка хвалюе царкоўныя і свецкія колы. Стаўшы ад свайго пачатку прадметам разладу, царкоўны новатвор 1596 г. і па сёняшні дзень выклікае спрэчкі па розных аспектах: філасофскіх, тэалагічных, культуралагічных, этнічных, палітычных, ідэалагічных і ўласна гістарычных. Мала якая з падзей беларускай мінуўшчыны можа паспаборнічаць з Берасцейскай уніяй узроўнем папулярнасці і няспынным ростам цікавасці ў айчынным і замежным даследчыцкім асяроддзі.

За чатыры стагоддзі, што прайшлі пасля Берасцейскага сабора 1596 г., яна назапасіла цяжкаагляднае мора літаратуры ўсходнеславянскага і замежнага паходжання, улічыць і абагульніць якую намагаюцца сёння вучоныя розных краін. З'явіліся агляды ўкраінскай,

польскай[1], заходнееўрапейскай і амерыканскай гістарыяграфіі[2] такой беларуска-ўкраінскай з'явы, якой ёсць Берасцейская унія. Сваё слова ў яе даследаванні сказалі беларускія навукоўцы XIX–XX ст., аднак гістарыяграфічным асэнсаваннем іх спадчыны яшчэ ніхто не займаўся. Між тым значная колькасць публікацый па праблеме і аналагічны даследчыцкі вопыт Украіны і Польшчы сведчаць, што зрабіць гэта надышоў час і ў нас, асабліва калі ўлічыць, што з 90-х гадоў тэма уніі 1596 г. перажывае другое нараджэнне ў навуцы і публіцыстыцы Беларусі, а канфесійная праблематыка і наогул выходзіць у разрад прыярытэтных у еўрапейскай гістарыяграфіі.

Вучэбны дапаможнік прызначаецца найперш для студэнтаў гістарычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, якія слухаюць спецкурс па гістарыяграфіі Берасцейскай царкоўнай уніі.

Спадзяемся, што гэтая кніга дапаможа тым, хто пачынае вывучаць у навучальных або навуковых мэтах занядбаную да нядаўняга часу канфесійную гісторыю Беларусі, зарыентавацца ў гэтым моры літаратуры па прадмеце, па міжканфесійным стасункам на Беларусі ў XVI–XIX ст.

Калі ўлічыць, што ніводзін спецыяліст па айчыннай гісторыі новага часу не можа абыйсці ўвагай царкоўна-рэлігійныя падзеі, заключаныя ў храналагічных межах 1596–1839 г., то дадзены дапаможнік паспрыяе больш глыбокаму ўваходжанню ва уніяцкую праблематыку. Гэты дапаможнік – своеасаблівая гісторыя Берасцейскай уніі, пададзеная ў выглядзе назіранняў, ідэй, трактовак, ацэнак яе даследчыкамі розных эпох і плыняў. Гістарыяграфічнае асэнсаванне аднай з актуальных, склададзеных, вострадыскусійных і балючых праблем беларускай мінуўшчыны, якая да таго ж пераўтварылася ў "вечную" тэму гістарычнай навукі, паспрыяе лепшаму разуменню ўсяго працэса развіцця айчыннай гістарыяграфіі тымі, хто яе вывучае.

---

[1] Chynczewska–Hennel T. Unia Brzeska XVII w. w polskiej historiografii // Białoruskie Zeszyty Historzcyne. – 1996. – № 2. – S. 31–40; Papierzyńska–Turek M. Wizje unii brzeskiej w swiadomości historycznej // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 1996. – № 2. – S. 41–50; Васюк Г.У., Кручкоўскі Т.Т. Брэсцкая царкоўная унія ў польскай гістарыяграфіі канца XIX – пач. XX ст. // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – С. 395–378; Mironowicz A. Unia Brzeska w swietle historiografii. Uwagi o stanie badań // Chreściańśtwo w swiecie. – 1988. – № 8–9. – S.161–175.

[2] Гудзяк Б. Західна історіографія і Берестейська Унія // Богословія. – 1990. – С.123–136.



# Глава 1

## Ля вытокаў навуковага вывучэння праблемы

Цікавасць да гісторыі Берасцейскай царкоўнай уніі, якая раней пачала выкладацца на паперы, чым была ўведзена на справе, мае ўжо 400-гадовую традыцыю. Гістарыяграфія уніі налічвае сёння многія сотні кніг і артыкулаў, вялікіх і кароткіх, самастойных і кампілятыўных, сур'ёзных і дылетанцкіх, аб'ектыўных і тэндэнцыйных, айчынных і замежных, якія з розных бакоў, у розных аспектах і планах трактуюць царкоўны саюз. Ацэнка ўплыву, ролі, вынікаў берасцейскіх падзей 1596 г. у далейшым развіцці Беларусі ў гэтых працах вар'іруецца ад непамернага ўзвялічвання да цалкам нігілістычнага стаўлення. Розніца поглядаў даследчыкаў на гэты важны факт усходнееўрапейскай гісторыі адлюстроўвае іх грамадскія, палітычныя, рэлігійныя, нацыянальныя сімпатыі і антыпатыі, тлумачыцца багаццем і рознароднасцю крыніц, што дазваляе вышукваць і высоўваць адно і абмінаць другое, і наадварот. Умоўна можна выдзеліць **рэлігійны кірунак гістарыяграфіі уніі**, для якога характэрна высоўванне на першы план абрадава-дагматычнага пытання, і **свецкі**, схільны да замоўчвання або прымяншэння канфесійнага боку.

Першы кірунак у сваю чаргу падзяляецца на тры пункты бачання і падачы царкоўна-рэлігійнай гісторыі: праваслаўны, рыма-каталіцкі і грэка-каталіцкі, кожны з якіх імкнецца падкрэсліць лепшыя бакі сваёй веры і выпукліць недахопы іншай. Асабліва гэта характэрна для праваслаўнага і рымска-каталіцкага бачання. Грэка-каталіцкі падыход спачатку два с паловай стагоддзі на практыцы, а потым яшчэ два стагоддзі ў навуцы намагаецца сцвердзіць паўнавартасць сваёй веры сярод традыцыйных, больш "моцных" сумежных канфесій. Уласна навуковы, пазаканфесійны падыход да канфесійнай гісторыі Беларусі зараджаецца ў пачатку XX ст., хаця рознага роду спрашчэнні, звязаныя з тымі ці іншымі канфесійнымі прыхільнасцямі, не зжыты да нашага часу.

Ва ўсходнеславянскім уніязнаўстве склаліся **тры гістарыяграфічныя комплексы**: першы аформіўся ў канцы XVI – першай палове XVII ст.; другі гістарыяграфічны вузел завязаўся ў другой палове XIX – першай трэці XX ст.; трэці аформіўся ў канцы XX ст.

Першыя адлюстраванні і інтэрпрэтацыі праблемы ўзыходзяць да вытокаў Берасцейскай уніі – яны пісаліся на злобу дня і з'яўляліся тады магутнай зброяй міжканфесійнай барацьбы. Як прыхільнікі, так і апаненты уніі ўзяліся за пёры, каб бараніць або руйнаваць яе. Тагачасная палемічная літаратура высвятляе шырокую панараму рэлігійна-культурнага быцця канца XVI – сярэдзіны XVII ст., спосаб мыслення і канфесійную свядомасць, міфы і фобіі, настроі тагачаснага грамадства. Канфесійна заангажаваныя, але заклапочаныя лёсам свайго народа аўтары абодвух лагераў уздымаюць на старонках сваіх твораў пытанні яго царкоўнай гісторыі і будучыні, адносін да ўласнай духоўнай спадчыны, нацыянальнага гонару, праблемы культуры, мовы, навукі, адукацыі; падвяргаюць вострай і бескампраміснай крытыцы царкоўныя парадкі на "Русі"; абмяркоўваюць юрыдычна-прававыя аспекты уніі, яе кананічнасць. Гэтыя патынні, востра паўстаўшыя ў сувязі з радыкальнымі зменамі ў царкоўным жыцці, разглядаліся скрозь прызму тагачасных рэлігійных канфліктаў. Найбуйнейшыя царкоўныя і літаратурныя аўтарытэты беларускага і ўкраінскага паходжання – уніяцкія лідары **Іпаці Пацей**[3], **Іосіф Руцкі**[4], **Леў Крэуза**[5], **Касьян Саковіч**[6], **Антон Сялява**[7] і інш. гістарычнымі, тэалагічнымі, юрыдычнымі аргументамі абгрунтоўвалі ідэю царкоўна-рэлігійнай і палітычнай кансалідацыі "рускіх" народаў ВКЛ на новай канфесійнай аснове. Яны даказвалі заняпад культурна-гістарычнай і рэлігійнай традыцыі Візантыі на фоне дасканаласці багаслоўя і свецкіх навук у каталіцкім свеце, у далучэнні да якіх бачылі выхад з сітуацыі культурнага запусцення Беларусі і Украіны. Берасцейскую згоду яны трактавалі як кардынальную рэформу занепалага праваслаўя, закліканую абудзіць духоўнае жыццё беларуска-ўкраінскага грамадства, вывесці яго са стану "невуцтва" і далучыць да дасягненняў заходнееўрапейскай культуры і навукі, зменшыць варожасць да "лацінства". Іх канцэпцыя грунтавалася на тэзе аб перавазе культуры каталіцкага свету і няздольнасці Візантыі – спадкаёміцы высокай культуры антычнай Грэцыі – аказаць ўсходнеславянскім народам дапамогу ў барацьбе з радыкальнымі рэфармацыйнымі плынямі, з абноўленым каталіцызмам, ва ўзвышэнні і развіцці духоўнасці і культуры. Перарыентоўваючы духоўна-рэлігійнае і культурнае жыццё беларуска-ўкраінскага рэгіёна на Захад, мясцовыя уніяцкія дзеячы ў той жа час стаялі за захаванне нацыянальна-культурнай самабытнасці краю. Адстойваючы тэзіс, што царкоўнае адзінства ёсць даўняя традыцыя ВКЛ, яны трактавалі Фларэнційскую унію 1439 г. як яго мадэль, а пагадненне 1596 г. – як вяртанне да даўніны і выкананне волі продкаў[8].

---

[3] Потей И. Уния альбо выклад преднейшых артыкулов ку зъодноченью Греков с костелом Рымским належащых // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1882. – Кн. 2 (Русская историческая библиотека. Т. 7). – С. 111–168; Потей И. Гармония альбо согласие веры, сакраментов и церемоней святое Восточное церкви с костелом Рымским // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1882. – Кн. 2 (Русская историческая библиотека. Т. 7). – С. 169–222; Потей И. Антиризис или Апология против Христофора Филалета // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1903. – Кн. 3 (Русская историческая библиотека. Т. 19). – С. 478–982; Потей И. Грамота киевского митрополита Мисаила к папе Сиксту IV, 1476 года. 1605 г. // Архив Юго–Западной России, издаваемый комиссиею для разбора древних актов. – Киев, 1887. – Ч. 1. Т. 7. – С. 193–231; Потей И. Духовное завещание. Апология унии. 19 ноября 1609 г. // Архив Юго–Западной России, издаваемый временною комиссиею для разбора древних актов. – Киев, 1883. – Ч. 1. Т. 6. – С. 391–395; Потей И. Отпис на лист неякого Клирика Острозского безъименного, который писал до владыки Володымерского и Берестейского // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1903. – Кн. 3 (Русская историческая библиотека. Т. 19). – С. 377–43; Потей И. Послание Владимиро–Волынского и Брестского епископа Ипатия Потея к князю Константину Острожскому … 1598 г. июня 3 // Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. – СПб., 1863. – Т.1. – С. 280–289; Pociej Hipacy. Antirresis abo Apologia przeciwko Krzysztofowi Philaletowi, który niedawno wydał książki imieniem starożytnej Rusi religiej greckiej przeciw książkom o synodzie brzeskim, napisanym w roku Pańskim 1597 / Oprac. J.Byliński i J.Dlugosz. – Wrocław, 1997; Pociej H.A. O przywileiach nadanych od krolow Polskich i przednieyszych niektorych dowodach ktore święta Unia wielce zalecaja y potwierdzaja. – B.m. i r. [1605].

[4] Рутский И. Sowita wina // Архив Юго–Западной России, издаваемый временною комиссиею для разбора древних актов. – Киев, 1887. – Ч. 1. Т. 7. – С. 443–510; Rucki J. Ustawy S.O.Bazylego W. – Polock, 1807.

[5] Krewza Rzewuski L. Obrona jedności cerkiewnej abo dowody, któremi się pokazuje, iż Grecka Cerkiew z lacińska ma być zjednoczona. – Wilno, 1617; Кревза Л. Оборона церковного единства (унии), или доводы, которыми доказывается, что Греческая Церковь должна быть соединена с Латинскою // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1878. – Кн. 1 (Русская историческая библиотека. Т. 4). – С. 157–312; Krevza L. A Defence of Church Unity // Lev Krevza's A Defence of Church Unity and Zaxarija Kopystenskyj's Palinodia. – Part I-II. – Cambridge, 1995. – P. 3–156.

[6] Сакович К. Киевский схизматический собор, созванный отцом Петром Могилой и происходивший в 1640 году, с 8 и до 18 сентября // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1903. – Кн. 1 (Русская историческая библиотека. Т. 4). – С. 21–48.

[7] Селява А. Духовное завещание // Историко–юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. – Витебск, 1871. – С. 256–285.

[8] Потей І. Оборона Флорентійского собору восьмого проти фальшивого [собору], недавно виданого ворогами з'єдинення – у Вільні – 1604 року // Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Sectio II. – Vol. XV. – Romae, 1996. – P. 396–459.

Не жадаючы чуць гэтых довадаў, іх апаненты – праваслаўныя палемісты, ураджэнцы Украіны і Беларусі **Іван Вішэнскі**[9], **Клірык Астрожскі**[10], **Марцін Бранеўскі**[11], **Хрыстафор Філалет**[12], **Захарый Капысценскі**[13], **Лаўрэнцій Дрэвінскі**[14], **Мялецій Сматрыцкі**[15], **Афанасій Філіповіч**[16] і інш. адмаўлялі патрэбу для свайго народа ў культуры і навуцы каталіцкага Захаду, звялі спробу кіраўніцтва Кіеўскай мітраполіі адрэгуляваць духоўныя працэсы ў грамадстве да ўзроўню куплі-продажу месц у сенаце Рэчы Паспалітай, расцанілі унію як параджэнне сатаны, як нацыянальную здраду, навязваючы масавай свядомасці думку, што тыя, хто пайшоў на унію, – "зляшыліся". Яны даказвалі яе некананічнасць, бескарыснасць, ракавы характар для сацыяльна-палітычнага і рэлігійнага жыцця Рэчы Паспалітай; ўсяляк дыскрэдытавалі унію, крытыкавалі ўсе яе новаўвядзенні, абвінавачвалі ў адмове ад культурна-рэлігійнай спадчыны продкаў, паганьбаванні нацыянальнага гонару.

Асаблівую цікавасць уяўляюць апошнія творы М.Сматрыцкага[17], у якіх ён змяніў сваю жыццёвую пазіцыю і культурна-рэлігійную арыентацыю.

---

[9] Вишенский И. Сочинения. – М. – Л., 1955.

[10] Острожский Клирик. Отпис на лист в бозе велебного отца Ипатиа, Володимерского и Берестейского епископа, до ясне освецоного княжати Констентина Острозского, воеводы Киевского // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1903. – Кн. 3 (Русская историческая библиотека. Т. 19). – С. 377-432.

[11] Broniewski M. Ekthesis, abo krotkie zebranie spraw, ktore się dziaty na partykularnym, to jest pomiastnym Synodzie w Brześciu Litewskim. Opracowali J. Byliński i I.Dlugosz. – Wrocław, 1995.

[12] Филалет Христофор. Апокрисис // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1882. – Кн. 2 (Русская историческая библиотека. Т. 7). – С. 1003–1820.

[13] Копыстенский З. Палинодия или Книга Обороны кафолической святой апостолской Всходней Церкви // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1878. – Кн. 1 (Русская историческая библиотека. Т. 4). – С. 313–1200.

[14] Древинский Л. Речь депутата и чашника земли Волынской на сейме 1620 г. // Бантыш-Каменский Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии, с показанием начала и важнейших, в продолжение оной чрез два века, приключений, паче же о бывшем от римлян и униятов на благочестивых тамошних жителей гонении. – М., 1805. – С. 69–73.

[15] Смотрицкий М. Antigrafi // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1903. – Кн. 3 (Русская историческая библиотека. Т. 19). – С. 1149–1300; Смотрицкий М. Verificatia niewinnosci // Архив Юго–Западной России, издаваемый временною комиссиею для разбора древних актов. – Киев, 1887. – Ч. 1. Т. 7. – С. 279–344; Смотрицкий М. Obrona Verificacey // Архив Юго–Западной России, издаваемый временною комиссиею для разбора древних актов. – Киев, 1887. – Ч. 1. Т. 7. – С. 345–442.

[16] Филиппович А. Диариуш // Коршунов А. Афанасий Филиппович: Жизнь и творчество. – Мн., 1965. – С. 97–179.

[17] Smotrycki M. Apologia. – Dermań, 1628; Collected Works of Meletij Smotryckyj. – Cambridge, 1987. – T. 1.



Такім чынам, ужо з канца XVI ст. у поглядзе на Берасцейскую унію выразна акрэсліваюцца **два падыходы: апалагетычны і крытычны, або дыскрыдытацыйны**. Прадстаўнікі кожнага з іх глядзелі на гэтую падзею найперш з пункту погляду адносін да культурна-рэлігійнай спадчыны продкаў: адны ратавалі за яе абнаўленне, другія – за кансервацыю. Ідэолагі кожнай з веравызнаўчых груп – праваслаўных і уніятаў – менавіта ў сваёй рэлігіі бачылі скарбніцу традыцый, элемент пераемнасці гісторыі, і менавіта на яе аснове бачылі шлях кансалідацыі канфесійна дэзынтэграванага народа.

Творцамі уніі рухала ўсведамленне пераймання задуме і справе продкаў: "…то вже и продкове наши давно промышляли…". На іх аўтарытэт спасылаліся ў саборнай грамаце 2 снежня 1594 г.: "…в которой едности … завжды продкове наши были"[18]. Сваё маральнае права вырашаць лёс усёй царквы і народа, пастаўленае пад сумнеў дарэвалюцыйнай расійскай і савецкай гістарыяграфіяй, яны засноўвалі на даўнасці унійнай традыцыі ў ВКЛ. "Гэта еднасць не ад нас пачалася, а тут у дзяржаве даўно была, але толькі злымі людзьмі затоена", – паведамляў у 1601 г. І.Пацей Л.Сапегу аб знаходцы ў Вільні і Лаўрышаве старажытных рукапісаў, што гэтую даўнасць пацвярджалі[19] .

Арганізатары уніі ўсведамлялі сваю справу як выкананне гістарычнай місіі не толькі ў межах уласнай дзяржавы – зняцце канфесійнай напружанасці, якая два стагоддзі была вызначальнай рысай жыцця Беларусі, – але і ў абсягу ўсяго хрысціянскага свету – аб’яднанне яго заходняга і ўсходняга адгалінаванняў праз "рускую" царкву. У берасцейскіх артыкулах-умовах яны агаварылі сваё права на ўдзел у будучым глабальным аб’яднанні хрысціянства, на хуткасць якога разлічвалі. Яны былі ўпэўнены ў міратворчай ролі і бяскрыўдным характары сваёй уніі, шчыра да яе імкнуліся і клапаціліся аб добрасумленных і прыстойных метадах распаўсюджвання.

На хвалі абуджаных нацыянальна-рэлігійных пачуццяў абвастраецца гістарычная памяць грамадства, закіпелі страсці вакол мінулага, праз прызму якога ўзнікла патрэба асэнсаваць дамову 1596 г., каб вызначыць месца сваёй краіны ў агульнарэлігійных працэсах.

---

[18] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. – СПб., 1851. – Т. 4: 1588-1632. – С. 77.

[19] Archiwum domu Sapiehów / Oprac. A.Prochaska. – Lwów, 1892. – T. 1: Listy z lat 1575–1606. – S. 279.

Гістарычнай аргументацыяй падмацоўвалі свае багаслоўскія, царкоўна-кананічныя і юрыдычныя выкладкі. Ідэолагі уніі націскалі на адзінства папства і патрыярхату ў часы хросту, на страту веры продкаў, якой яна была да расколу 1054 г., апелявалі да нацыянальнай гістарычнай традыцыі пераадолення аднабаковай арыентацыі на візантыйскі Усход. Асаблівыя страсці разгарэліся вакол спадчыны на "Літве і Русі" Фларэнційскага сабора 1439 г., рашэнні якога, прымальныя як для Рыма, так і для Канстанцінопаля, заснавальнікамі уніі ўспрымаліся як сведчанне самой гісторыі на карысць аднаўлення адзінства Кіеўскай мітраполіі з апостальскім прастолам. Яны заяўлялі пра сваю адданасць "духу і літары" фларэнційскага экуменізму, а сваю унію лічылі працягам спраў продкаў.

Гэты наймацнейшы аргумент павінен быў рабіць неабыякавае ўражанне на грамадства, бо праціўнікі рэлігійнага адзінства моцна рупіліся ў дыскрэдытацыі падзеі паўтаравяковай даўнасці. Паслы ад альтэрнатыўнага сабора 1596 г. заявілі каралю, што яны рады прыступіць да уніі, але паколькі "з гісторыі відаць, што гэта святое злучэнне колькі разоў не заключалася, усякі раз і разрывалася, таму што не былі ліквідаваны ўсе перашкоды да яго, то і мы, не жадаючы больш без патрэб ствараць такія нетрывалыя справы, жадаем прыступіць да гэтай згоды абачлівей, належнымі сродкамі і шляхамі, каб яна, зацверджаная на моцнай аснове, магла быць доўга і дай бог вечна"[20]. Апазіцыя аб'яднанню цэркваў была не супраць уніі ў прынцыпе, але супраць яе рэгіянальнага характару. Яна хацела універсальнага злучэння дзвюх галін хрысціянства, а адмове ад падначалення патрыярхам і прызнанню прымату папы процістаўляла згоду, заснаваную на парытэце двух суветных хрысціянскіх цэнтраў. У брашуры "История о листрикийском, то есть о разбойническом Ферарском або Флоренском синоде, вкратце правдиво списаная" (1598 г.), заснаванай на варожых да паразумення паміж Канстанцінопалем і Рымам афонскіх і маскоўскіх пісаннях, клірык Астрожскі намагаецца давесці некананічнасць саборных пастаноў 1439 г. І.Пацей адказаў яму навуковым трактатам "Абарона сабору Фларэнційскага осьмага" (1603–1604)[21], у якім даў гістарыяграфію сабора, прааналізаваў крыніцы і на канкрэтных і

[20] Кудринский А.Ф. Брестский собор: Исторический очерк. – Вильна, 1913. – С. 26.
[21] Потей І. Оборона Флорентійского собору восьмого проти фальшивого [собору], недавно виданого ворогами з'єдинення – у Вільні – 1604 року // Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Sectio II. – Vol. XV. – Romae, 1996. – P. 396–459.



аўтарытэтных сведчаннях яго рымскіх і візантыйскіх удзельнікаў даказаў яго гістарычную апраўданасць і царкоўную кананічнасць і вывеў генезіс Берасцейскай уніі з яго пастаноў. Гістарычныя выкладкі ананімнай "Перастарогі" (1605 г.)[22] і "Палінодыі" З.Капысценскага (1621 г.)[23] аб ненадзейнасці, нетраваласці, непрыняцці Фларэнційскай традыцыі на "Русі" абвяргала "Абарона царкоўнага адзінства" (Вільна, 1617 г.)[24], у якой Л.Крэуза даводзіў, што унія існавала на "Русі" заўсёды і што цяпер яна ўведзена законна і добрасумленна.

У тагачасных дыскусіях аб гістарычнай праваце, калі адзін бок настойваў на нікчэмнасці, а другі – на веліччы даўніны, павышалася гістарычная культура грамадства: адбываўся зварот да крыніц, да пазнання і перажывання мінулага далучаліся шырокія слаі насельніцтва.

Можна лічыць І.Пацея першым беларускім гісторыкам, які працаваў з крыніцамі і ўпершыню надрукаваў крыніцу з айчыннай гісторыі. Гэта знойдзенае ім у 1605 г. у Крэўскай царкве "Пасланне да папы рымскага Сікста IV" 1476 г.[25] – калектыўны ліст-заява прадстаўнікоў "рускага" духавенства і знаці ВКЛ аб падтрымцы Фларэнційскай уніі, натарыяльна засведчаны Пацеем у віленскім магістраце і тады ж надрукаваны ў старабеларускай, арыгінальнай, і польскай моўных версіях, з каментарамі, якія ўтрымліваюць элементы крыніцазнаўчага аналізу. Публікацыі папярэднічаў верш "Павучанне аднаго да сваёй Русі", які належыць пяру Пацея і выконвае ролю эпіграфа да ягонай інтэрпрэтацыі "Паслання…". Паэтычнымі радкамі аўтар дастаткова вычарпальна вымалёўвае сітуацыю ў этнакультурным жыцці "рускай" супольнасці ВКЛ і ўзнікшы ў дзяржаве культурна-рэлігійны антаганізм. Сэнс верша – абарона унійнай справы, палеміка з яе праціўнікамі:

"Няўжо ж вашы продкі памыляліся,

[22] Перестрога зело потребная на потомные часы православным христианам // Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комисиею. – СПб., 1851. – Т. 4. – С. 203–236.
[23] Копыстенский З. Палинодия или Книга Обороны кафолической святой апостолской Всходней Церкви // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1878. – Кн. 1 (Русская историческая библиотека. Т. 4). – С. 313–1200.
[24] Кревза Л. Оборона церковного единства (унии), или доводы, которыми доказывается, что Греческая Церковь должна быть соединена с Латинскою // Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Пб., 1878. – Кн. 1 (Русская историческая библиотека. Т. 4). – С. 157–312; Krevza L. A Defence of Church Unity // Lev Krevza's A Defence of Church Unity and Zaxarija Kopystenskyj's Palinodia. – Part I-II. – Cambridge, 1995. – P. 3–156.
[25] Потей И. Грамота киевского митрополита Мисаила к папе Сиксту IV, 1476 года. 1605 г. // Архив Юго – Западной России, издаваемый комиссиею для разбора древних актов. – Киев, 1887. – Ч. 1. Т. 7. – С. 193–231.

Што аб згодзе з рымлянамі пільна стараліся?
Пра гэта сведчыць той ліст іх, больш ста гадоў назад пісаны
І да Рыму імі да Сікста пасланы"[26] (пераклад з польскай – **С.М.**). Такім чынам, постаць аднаго з творцаў Берасцейскай уніі адкрываецца раней невядомымі гранямі – як археографа, крыніцазнаўца і паэта. Праваслаўная апазіцыя падвергла сумневу аўтэнтычнасць "Паслання", абвінаваціўшы мітрапаліта ў фальшаванні дакумента: маўляў, "в нем речь (стыль – **С.М.**) вся Потеева", хоць і пісаны старым почыркам і чарнілами. Найноўшае даследаванне Г.Я.Галенчанкі здымае шматсотгадовыя сумневы ў сапраўднасці гэтай крыніцы[27].

Берасцейская унія стала этапнай з'явай у фармаванні гістарычнай свядомасці грамадства і развіцця гістарычнай навукі. Салідарызуемся з украінскімі даследчыкамі І.Кійкам і С.Луканем, што з яе пачынаецца навуковая гістарыяграфія з умелым выкарыстаннем архіўнага матэрыялу, яго крытычнай праверкай і публікацыяй. Ля вытокаў айчыннага крыніцазнаўства і гістарыяграфіі стаяў І.Пацей. Пра значэнне гістарычных крыніц для даследчыка мінуўшчыны ён пісаў: "Калі хто апісвае якуюсьці падзею з папярэдніх стагоддзяў ... і не мае у сябе аніводнага даўняга сведчання, той хутчэй заслугоўвае кпіны і насмяяння, чым даверу"[28].

У далейшым ва уніяцкім асяроддзі сфармавалася цэлая плеяда гісторыкаў еўрапейскага ўзроўню: **Я.Суша**[29] (сярэдзіна XVII ст.), **І.Кульчынскі**[30] (першая палова XVIII ст.), **І.Даніловіч** (першая палова XIX ст.), **Ю.Пелеш**[31] (другая палова XIX ст.) і інш. Вучонага-

[26] Łuźny R. Adama Hipatego Poceja Parenetica. Z nowych odczytań najdawniejszej ruskiej literatury religijno–polemicznej // Unia brzeska. Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowińskich / Pod red. R.Łużnego, F.Ziejki, A.Kępińskiego. – Kraków, 1994. – S. 353.
[27] Галенчанка Г. Пасланне да папы рымскага Сікста IV. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1605 г. // Наш Радавод. – Кн. 8: Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст.: Матэрыялы міжнароднага круглага стала, Гродна, 28–30 верасня 1999 г. – Гродна – Беласток, 1999 (2000). – С. 79–107.
[28] Потей І. Оборона Флорентійского собору восьмого проти фальшивого [собору], недавно виданого ворогами з'єдинення – у Вільні – 1604 року // Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Sectio II. – Vol. XV. – Romae, 1996. – С. 404.
[29] Susza J. Cursus vitae et certamen martyrii b. Josaphat Kuncewicii. – Romae, 1645; яго ж: Saulus et Paulus ruthenae unionis. – Romae, 1655.
[30] Kulczynski I. Specimen Ecclesiae Ruthenicae. – Farnborough, 1970.
[31] Pełesz J. Geschichte der Union der ruthenischen Kirche mit Rom von den altesten Zeiten bis die Gegenwart. – Wien, 1878–1880. – Bd. 1–2.



базыльяніна Ігната Кульчынскага[32] (месцам нараджэння мяркуецца г. Гродна) маскоўскі гісторык Л.В.Аляксееў называе першым даследчыкам беларускіх старажытнасцяў[33].

Вяртаючыся да народжанай 1596 годам палемічнай літаратуры, трэба адзначыць, што яна яшчэ не даследавана як з'ява беларускай гістарыяграфіі і крыніцазнаўства. Даследуючы яе, трэба мець на ўвазе, што яна ў свой час фармавала грамадскую думку і ўплывала на ход падзей.

Палемічны тон першых пакаленняў уніязнаўцаў залішыўся ў літаратуры і да нашага часу. Апаненты ўзаемна закідваюць адзін аднаго аргументамі, якія, паўтораныя ў дзесятках і сотнях прац, прымаюць нават вучоныя, часам не спыняючыся перад тым, наколькі яны абгрунтаваныя.

У другой палове XVIII ст. гнеўна выступаў супраць уніі ў сваіх публіцыстычных працах магілёўскі ўладыка **Георгій Каніскі**[34], які даказваў яе незаконнасць на беларускіх землях і лічыў праваслаўе сімвалам іх незалежнасці ад "тлетворнага" ўплыву Захаду.

У Расійскай імперыі і СССР уніяцкай праблематыцы, якая надта ж закранала пякучыя пытанні сучаснасці, было наканавана доўгае і сумнавядомае жыццё. Навуковая распрацоўка праблемы пачынаецца з канца XVIII ст, калі змена рэлігійна-палітычнай сітуацыі ў гэтым рэгіёне Еўропы паставіла пытанне аб далейшым лёсе уніяцкай царквы і ажывіла цікавасць да яе гісторыі, і актывізуецца з 60-х гадоў XIX ст., што звязана з пачаткам другога этапа буйнамаштабных рэлігійна-палітычных калізій.

Паказальна, што ля вытокаў навуковага вывучэння беларускай гісторыі як самастойнага прадмета даследавання ў Расійскай імперыі стаіць праца пра Берасцейскую унію, цікавасць да якой абумоўлена ўдзелам Расіі ў яе лёсе. Яна напісана ў 1794 г. па загадзе Кацярыны II стацкім саветнікам **М.Бантыш-Каменскім** на аснове кампраментуючых уніяцкую царкву дакументаў Калегіі замежных спраў і пры-

[32] Марозава С. Кульчынскі Ігнацій // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 4 / Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш. – Мн., 1997. – С. 303; Казуля С. «Дзеля заслугі перад Богам і дзеля нашчадкаў»: Да 290-х угодкаў з часу нараджэньня Ігната Кульчынскага // Пагоня. – 1997. – 2–8 траўня.
[33] Алексеев Л.В. Игнатий Кульчинский – первый исследователь белорусских древностей // Древности славян и Руси. – М., 1988. – С.100–105.
[34] Записки преосвященного Георгия Конисского о том, что в России до конца XVI в. Не было никакой унии с римскою церковью. – М., 1847; Слова и речи Георгия Конисского, архиепископа Могилевского. – Могилев-на-Днепре, 1892.

значалася спачатку для службовага карыстання[35]. Сведчанні, што зыходзілі з уніяцкага лагера, да ўвагі не прымаліся. Праца, якая падавала гісторыю уніі як летапіс генацыду беларускага праваслаўнага насельніцтва, стала навуковым падмуркам урадавага курса на "выкараненне" уніяцкай царквы, а аўтар узнагароджаны брыльянтавым пярсцёнкам.

Другое выданне кнігі з'явілася ў 1864 г.[36], калі на афіцыйным узроўні пачалася новая хваля апалагетыкі царскай палітыкі на Беларусі. Збіраючыся на пасаду віленскага генерал-губернатара, Мураўёў-вешальнік вывучаў па ёй гісторыю падпарадкаванай яму тэрыторыі, узяў яе з сабой у Вільню як настольную кнігу і чэрпаў з яе аргументы для сваёй рэпрэсіўнай нацыянальна-рэлігійнай палітыкі.

З лёгкай рукі Бантыш-Каменскага уніяцкая царква на наступныя два стагоддзі займела ў афіцыйнай гістарыяграфіі імідж ворага беларускага народа і яго культуры. Ніякіх кніг у абарону уніі расійская цэнзура не дазваляла, статутам 1828 г. яна забараняла абмеркаванне царкоўна-рэлігійных пытанняў у друку, таму палажэнні першага расійскага уніязнаўцы паволі ўплывалі на фармаванне варожых адносін да гэтай канфесіі. Яе галоўная віна бачылася ў тым, што яно скіравала Беларусь у такое рэчышча рэлігійна-культурнага развіцця, якое разышлося са шляхам расійскай народнасці. Багатая на вытрымкі з крыніц і дакументальныя дадаткі, гэтая кніга аказала вялікі ўплыў на ўсю наступную ўсходнеславянскую гістарыяграфію і да нашага часу выкарыстоўваецца ў якасці крыніцы, найперш, прадстаўнікамі дыскрэдытацыйнага кірунку гістарыяграфіі.

Такім чынам, адначасова з урадавымі рэпрэсіямі супраць уніяцтва рэпрэсіраваць яго пачалі і гісторыкі

Царская ўлада і Сінод мабілізуюць "вернападдадзеных" гісторыкаў, пачынаючы з Бантыш-Каменскага, на выпрацоўку навуковага і ідэалагічнага абгрунтавання сваёй палітыкі аправаслаўлівання уніятаў. Падпарадкаваная апраўданню палітычнай, 1772-1795 гадоў, і культурна-рэлігійнай, 1839 года, інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі, доказу справядлівасці, законнасці і "благодетельности" ліквідацыі уніяцкай царквы, уся афіцыйная гістарыяграфія імперыі канца XVIII – пачатку XX ст. трактавала гісторыю уніі ў духу ўвараўскай формулы "праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць". Яна навязвае грамадскай свядомасці тэзіс аб выратавальнай ролі расійскага самадзяржаўя ў лёсе беларусаў і сваё разуменне этнаканфесійнай падаплёкі забароны уніяцтва. Яго сутнасць у наступным: на забраных у канцы XVIII ст. землях Рэчы Паспалітай жыў рускі, ці расійскі народ, які цярпеў рэлігійны ўціск, таму Расія мела маральны абавязак прыйсці гэтаму народу на дапамогу і гістарычнае права захопу тых зямель, а ліквідацыя уніяцтва зрабіла для яго магчымым вярнуцца да веры бацькоў і аднавіць падпсаваную уніяй "рускасць". З цягам часу такую трактоўку уніі прымаюць і айчынныя гісторыкі.

Аднак у першай палове XIX ст. спалітызаваную вялікадзяржаўную канцэпцыю гісторыі Берасцейскай уніі падрывалі **працы прафесароў Віленскага універсітэта** Міхаіла Баброўскага, Ігната Даніловіча, Ігната Анацэвіча, а таксама выдатных вучоных Платона Сасноўскага, Антона Марціноўскага. Усе яны – выхадцы з сямей прыходскіх уніяцкіх святароў, што ўжо само па сабе паказальна. Разам з прафесарам Язэпам Ярашэвічам і Тэадорам Нарбутам яны ўтварылі апазіцыйны ўрадаваму кірунак гістарыяграфіі і заклалі падмурак нацынальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі[37]. Унія здавалася ім той рэлігіяй, што спрыяла захаванню Літвой-Беларуссю сваёй незалежнай пазіцыі паміж Польшчай і Расіяй. З уніяй, з захаванымі ў ёй старымі звычаямі і абрадамі яны звязвалі гістарычную і нацыянальную асобнасць нашага краю. Калі першы гістарыяграфічны кірунак, які, у прыватнасці, прадстаўляла праца Бантыш-Каменскага, маляваў унутранае жыццё далучаных да імперыі тэрыторый пад мінулым уладаннем усялякімі змрочнымі фарбамі, то для другога, прадстаўленага віленскай прафесурай беларускага паходжання, характэрны настальгія і ідэалізацыя "старога добрага мінулага". Будучы самі царкоўнымі дзеячамі, Платон і яго бацька Антон Сасноўскія, а таксама Міхаіл Баброўскі імкнуліся захаваць беларускую плынь і стараславянскі дух ва уніяцтве, надта крытычна ацэньвалі дзейнасць базыльянскага ордэна і разглядалі мінулае сваёй Радзімы ў кантэксце мінулага і тагачаснага стану уніяцкай царквы.

Пачынальнік беларускага славяназнаўства Зарыян Даленга-Ходакоўскі (Адам Чарноцкі) яшчэ ў 1810-1820-я гады канстатаваў факт

[35] Бантыш-Каменский Н.Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии… М.: Синодальная типография, 1805.
[36] Бантыш–Каменский Н.Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии … Вильна, 1864.
[37] Біч М. Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь // Беларускі гістарычны часопіс. – 1993. – № 1. – С. 16.

падтрымкі ніжэйшым беларускім і ўкраінскім уніяцкім духавенствам і сялянствам даўніх звычаяў, традыцый і народнай мовы[38].

Адным з першых ураджэнцаў Беларусі, хто спецыяльна заняўся пытаннямі царкоўнай гісторыі, быў **Іван Іванавіч Грыгаровіч** (паходзіць з Прапойска Магілёўскай губерні). Вынікам яго працы былі даведнік "Беларуская іерархія", рукапіс якога, накіраваны для ўхвалення ў Сінод, больш за 170 гадоў праляжаў ў яго архіве[39], і першы ў беларускай навуцы археаграфічны зборнік "Белорусский архив древних грамот"[40], які ўтрымлівае каштоўныя крыніцы і па гісторыі канфесій.

З 30-х гадоў XIX ст. у гістарыяграфіі пашыраецца цікавасць да пытанняў нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі, з якімі цесна звязана уніяцкая праблематыка. Але дзейнасць даследчыцкіх устаноў і вучоных скіроўваецца ўрадам у раней зададзенае рэчышча самадзяржаўя, праваслаўя і русіфікацыі. Пасля Бантыш-Каменскага 50 гадоў ніхто не займаўся спецыяльным даследаваннем уніі. Доўгае маўчанне гісторыкаў тлумачыца заблытанасцю прадмета, недахопам даступнай літаратуры і крыніц, а таксама, відаць, забаронай публічнага абмеркавання пытанняў у сувязі з узятым урадам курсам на рэфармаванне уніі і звужэнне сферы яе ўплыву.

Унія дажывала свае апошнія дні і ў 1839 г. была знішчана. Закліканая апраўдаць гэты акт і распаліць праваслаўна-расійскі патрыятызм, прапагандысцкая брашура, якая выйшла ў тым жа годзе з друкарні Сінода[41], настойліва падкрэслівала, што два с паловай стагоддзі Берасцейская унія разрывала адзіную да таго ўсходнеславянскую (рускую) сям'ю. Але, хаця лідары уніяцтва "ўхіліліся" да Захаду і імкнуліся рабіць шараговых вернікаў "чужымі … прамой Бацькаўшчыне іх – Расіі", тыя "ніколі не адвыкалі называць сябе і сваю веру "рускімі" і заставаліся чужым для Польшчы племям. Відавочна, што аўтар, які застаўся для нас ананімам, свядома ігнараваў розніцу ў гістарычным і сучасным разуменні этноніма "рускі". Падрыхтаваны тады па заданні Трэцяга аддзялення імператарскай канцылярыі і змешчаны ў замежнай прэсе артыкул пра скасаванне

[38] Аксамітаў А.С., Малаш Л.А. З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі–Хадакоўскага. – Мн., 1991.
[39] Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. – Мн., 1992.
[40] Белорусский архив древних грамот / Сост. И.И.Григорович. – М., 1824. – Ч. 1.
[41] О возсоединении униатов с православною церковию в Российской империи. – СПб., 1839.



уніі, з адказам "шматлікім нядобразычліўцам Расіі", быў выкліканы клопатам пра адпаведны міжнародны рэзананс вакол гэтага факта.

У сярэдзіне XIX ст. помнікі уніяцтва на Беларусі апісвалі М.Без-Карніловіч[42], Ф.Турчыновіч[43], П.Шпілеўскі [44], пазней – А.Кіркор[45] і інш. У 1862–1863 г. узяў уніяцкую царкву пад сваю абарону **К.Каліноўскі**, якога веравызнаўчая праблема цікавіла найперш з пазіцыі нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і самадзейнасці беларусаў. У апошніх нумарах "Мужыцкай праўды" ён асудзіў рэлігійную палітыку самадзяржаўя на Беларусі і выступіў супраць падаўлення праваслаўем уніяцтва, якое лічыў "сапраўднай верай дзядоў і прадзедаў"[46].

Сістэматычнае спецыяльнае вывучэнне гісторыі Берасцейскай уніі пачынаецца з другой паловы XIX ст. На цэлую палову стагоддзя яна трывала прапісалася на старонках манаграфій і перыёдыкі.

[42] Без–Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. – СПб., 1855.
[43] Турчинович О.В. Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. – СПб., 1857.
[44] Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. – Мн., 1992.
[45] Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении: Литовское и Белорусское Полесье: Репринтное воспроизведение издания 1882 г. – Мн., 1993.
[46] Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. – Мн., 1988. – С. 36, 57 – 58, 60.

# Глава 2

## Канцэпцыя Берасцейскай уніі М.О.Каяловіча

Першым беларускім гісторыкам, які заняўся спецыяльным даследаваннем Берасцейскай уніі, быў **Міхаіл Осіпавіч Каяловіч** (1828–1891) – ураджэнец мястэчка Кузніца Сакольскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Беластоцкае ваяводства Польшчы), выхадзец з сям'і уніяцкага святара, у якой захаваўся стары беларускі быт, звычаі, мова, якая, аднак, дыскамфортна адчувала сябе ў рымска-каталіцкім атачэнні і бачыла ў Расіі адзінага абаронцу ад гістарычнага польскага ўціску. Уніяцкай праблематыкай ён захапіўся падчас вучобы ў Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, сама атмасфера якой – барацьба за ўзвышэнне праваслаўя – штурхала да распрацоўкі гэтай тэмы. Гэта быў блізкі і родны яго сэрцу прадмет, забяспечаны найбагацейшай, яшчэ нікім не кранутай базай крыніц, але зусім не распрацаваны, які да таго ж выклікаў жывую цікавасць сучаснікаў. Мінала другое дзесяцігоддзе пасля дэнансацыі ў 1839 г. Берасцейскай уніі, а яе поўная гісторыя яшчэ не была напісана. "Историческое известие о возникшей в Польше унии" Бантыш-Каменскага – праца пяцідзесяцігадовай даўнасці – ужо не магла задаволіць тагачаснага чытача.

Прыступіў М.Каяловіч да распрацоўкі гісторыі уніі ў той час, калі Беларусь пад знешнім спакоем і правінцыйнасцю кіпела страсцямі вакол мінулага і сучаснасці, а Пецярбург і Варшава сапернічалі, намагаючыся павесці яе менавіта па свайму шляху развіцця. Берасцейская унія ўяўлялася яму тым вузлом, развязаўшы які, можна было шмат што зразумець і растлумачыць у беларускай мінуўшчыне.

Пачынаючага даследчыка, які любіў свой народ, але не бачыў у ім самастойнага этнаса, а разглядаў як частку рускага, і які бачыў выратаванне сваёй радзімы у саюзе з адзінавернай Масквой, вельмі хвалявала пытанне: куды – на Усход ці Захад – схіліцца ў пошуках лепшай долі "Заходняя Русь". Трэцяга шляху – шляху асобнасці – ён не дапускаў. Гэты выбар, на яго думку, напрамую залежаў ад вырашэння уніяцкага пытання: захаванне уніяцтва несла ў сабе пагрозу



адрыва Белай і Малой Русі ад "традыцыйнага" расійска-праваслаўнага гістарычнага шляху развіцця; аправаслаўліванне ж беларусаў "магло зняць нацыянальныя адрозненні" з расіянамі і цясней звязаць гэты край з імперыяй. Для Міхаіла Осіпавіча, які свой талент вучонага паставіў на службу навуковага абгрунтавання вяртання свайго народа на ўсходне-праваслаўны шлях развіцця, у лёсе уніі нібы сканцэнтраваўся лёс усёй "Заходняй Расіі".

Ён так захапіўся дадзенай праблемай, што "дыхаў ёй і мроіў аб ёй у сне". З таго часу даследаванне гісторыі уніі стала любімым заняткам і справай усяго жыцця Каяловіча. Гэта праца прынесла яму прызнанне ў вышэйшых афіцыйных колах імперыі і ў сталічным навуковым свеце, зрабіла яго імя папулярным сярод славянафілаў і мясцовых "западно-руссов", дала прафесарскае званне, зрабіла прызнаным знаўцам гісторыі "Заходняй Расіі", але і спарадзіла нямала нядобразычліўцаў і крытыкаў сярод "літвінаў – патрыётаў", у беларускай нацыянальнай і польскай гістарыяграфіі, сярод расійскіх "западников". Адназначнай ацэнкі навуковай спадчыны і грамадскай дзейнасці Міхаіла Осіпавіча няма да сённяшняга дня[47].

Сваю канцэпцыю гісторыі уніі М.Каяловіч выклаў у шэрагу навуковых прац, публіцыстычных артыкулаў, падрыхтаваных ім да друку зборніках дакументаў. Разлічаныя ў першую чаргу на расійскага чытача, пецярбургскую інтэлігенцыю, вышэйшыя колы імперыі, яго творы з'яўляліся своеасаблівым адказам на іх жаданне разабрацца ў заблытаным клубку беларускай гісторыі, але гэтую гісторыю яны ўкладвалі ў расійскі кантэкт. Пецярбургская палітычная і навуковая эліта бачыла ў ім новага і самага актыўнага прадстаўніка заходнерускага грамадства, якое ў асобе М.Каяловіча заяўляла аб нянавісці да Польшчы і сімпатыі да Расіі.

Пасля выхада ў 1859 г. у свет першага тома **"Литовской церковной унии"** папулярнасць 30-гадовага вучонага стала хутка расці. З выхадам другога тома (1861 г.)[48] аўтар атрымаў званне прафесара. Намер напісаць трэці том і абнародаваць у ім даступныя аўтару дакументы уніяцкага паходжання не быў здзейснены. Прыхільна сустрэтая ў Пецярбургу, названая праца дагэтуль з'яўляецца адпраўной кропкай для ўсіх, хто займаецца гісторыяй уніі.

[47] Параўн.: Цьвікевіч А. «Западно–руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. – 2–е выд. – Мн., 1993; Черепица В.Н. Михаил Осипович Коялович: История жизни и творчества. – Гродно, 1998.

[48] Коялович М.О. Литовская церковная уния: Исследования. – СПб., 1859–1861. – Т. 1–2.

Паўстанне К.Каліноўскага, лозунгі якога аб адраджэнні Рэчы Паспалітай у межах да 1772 г. М.Каяловіч не прыняў, надзвычай абвастрыла для гісторыка пытанне: з кім жа быць Беларусі – з каталіцкай Польшчай або з адзінавернай Расіяй? Адказам на гэта пытанне з'явілася публікацыя ў 1864 г. яго "Лекций по истории Западной России"[49]. Шырокі рэзананс у еўрапейскай грамадскай думцы, выкліканы як самім паўстаннем, так і яго задушэннем, вымусіў расійскі ўрад тлумачыць сваю палітыку. Гэтай мэце служыла і серыя падрыхтаваных М.Каяловічам дакументальных публікацый, перадусім выдадзены ў 1865 г. "для правячых сфер Расіі і Еўропы" зборнік тэндэнцыйна падабраных "Документов, объясняющих историю Западно-русского края и его отношения к России и к Польше"[50].

У 70-я гады прафесар займаецца даследаваннем апошняга этапа існавання уніяцтва, які завяршыўся яго скасаваннем, вывучае масу уніяцкіх спраў, перададзеных у 1839 г. у архіў Сінода. Вынікам гэтай працы стала доктарская дысертацыя **"История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 г.)"**[51], нядаўна перавыдадзеная на Беларусі[52].

Каяловічаўская ацэнка 1839 года і падзей, што да яго прывялі, знайшла адлюстраванне ў яго шматлікіх публікацыях з нагоды паўвекавой гадавіны Полацкага сабора і ў першую чаргу ў працы "К предстоящему пятидесятилетию воссоединения западнорусских униатов 1839 года"[53]. З-пад пяра гісторыка выходзяць панегірыкі, прысвечаныя "ліквідатарам" уніі Іосіфу Сямашку і Васілю Лужынскаму[54]. Адыёзная (нават сярод сучаснікаў) постаць літоўскага епіскапа І.Сямашкі намаганнямі М.Каяловіча і выхаваных у духу яго прац гісторыкаў пераўбіраецца ў тогу вызваліцеля беларусаў.

У канцы 80-х гадоў Міхаіл Каяловіч палемізуе з П.О.Баброўскім, крытыкуе яго погляды, у выніку чаго з'яўляецца 70-старонкавы "Разбор…" яго кнігі[55]. Гісторыя уніі закранался таксама ў публічных лекцыях прафесара для пецярбургскай эліты[56], у яго багатай публіцыстычнай спадчыне.

[49] Коялович М.О. Лекции по истории Западной России. – СПб., 1864.
[50] Документы, объясняющие историю Западно-русского края и его отношения к России и к Польше / Сост. М.Коялович. - СПб., 1865.
[51] Коялович М.О. История возсоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – СПб., 1873.
[52] Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн., 1999.
[53] К предстоящему пятидесятилетию воссоединения западно-русских униатов 1839 г.// Церковный вестник. – 1889. – № 9–13.
[54] Коялович М.О. О почившем митрополите Литовском Иосифе // Христианское чтение. – 1868. – Ч. 2; 1869. – Ч.1; Коялович М.О.: О почившем архиепископе Василии Лужинском // Церковный вестник. – 1879. – № 5.



Такім чынам, М.О.Каяловіч быў плённым даследчыкам уніі, чыё імя і працы, грунтаваныя на багатай базе архіўных крыніц, трывала ўвайшлі ў гістарыяграфію гісторыі Беларусі. Яго двухтомная **"Литовская церковная унія"** па багаццю гістарычнага матэрыялу і распрацоўцы першарадных архіўных крыніц з'яўляецца адной з лепшых у сваім родзе. Заслуга аўтара ў тым, што, акрамя стварэння першага, заўсёды найбольш скададзенага, выкладу гісторыі уніі, ён увёў у навуковае абарачэнне палемічную літаратуру канца XVI – пачатку XVII ст. і вялікую колькасць фактаў.

Даследчык, на жаль, не змог стаць бесстаронім суддзёй у рашэнні праблемы гісторыі уніі, а выступіў хутчэй у ролі пракурора з абвінавачваннем у яе адрас. Аўтар не імкнуўся, як сам пазней прызнаваўся, да "бесплодной погони за объективной истиной". У аснову трактоўкі уніі ён паклаў славянафільскі суб'ектывізм, які лічыў самым лепшым з усіх суб'ектывізмаў.

М.Каяловіч выкарыстоўваў крыніцы і з уніяцкага асяроддзя, але, перакананы ў правільнасці адзіна праваслаўна-расійскага погляду на унію, інтэрпрэтаваў іх са сваіх метадалагічных пазіцый, якія грунтаваліся на прызнанні месіянскай ролі Расіі, перавагі расійскай цывілізацыі і непрызнанні за Беларуссю права на самастойны, па-за яе межамі, шлях нацыянальна-культурнага і рэлігійнага развіцця. Зразумела, што ў інтэрпрэтацыі прафесара расійскай гісторыі карціна гісторыі Берасцейскай уніі атрымалася аднабаковай і няпоўнай. Ды й сам аўтар не лічыў сваю "Литовскую церковную унию" бездакорнай – прасіў знаўцаў прадмета ўказаць на яе пралікі. Саманезадаволенасць гэтым двухтомнікам Міхаіл Осіпавіч тлумачыў і тым, што не здолеў выкарыстаць усіх архіўных крыніц аб уніі, якіх цэлае мора, і яго хапіла б яшчэ на адно даследчыцкае жыццё, толькі больш дзейнае.

Паколькі сам аўтар лічыў галоўную працу свайго жыцця недасканалай, тым больш нам не трэба яе ідэалізаваць праз паўтара ста-

[55] Коялович М.О. Разбор сочинения П.О.Бобровского «Русская греко–униатская церковь в царствование императора Александра I. Историческое исследование по архивным документам» и указание на основании архивных документов иной постановки всех главных униатских вопросов того времени. – СПб., 1890.
[56] Коялович М. Чтения по истории Западной России. – СПб., 1884.

годдзі. Сёння відавочна, што пры ацэнцы Берасцейскай уніі, як і ўсёй айчыннай гісторыі, трэба зыходзіць не з канфесійных прярытэтаў і дамінуючага ў дадзены момант вектара палітычнага і культурнага ўплыву на Беларусь, якія ў мінулым мяняліся, а з інтарэсаў беларускага народа і з пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцяў, да ліку якіх мы адносім сваю дзяржаву, нацыянальную мову і культуру. Тым не менш названая кніга – важкая з'ява ў беларускай гістарыяграфіі і этапны твор у даследаванні уніі. Яна вывучаецца да нашага часу, хоць і выклікае спрэчкі даследчыкаў.

Вядучы беларускі і расійскі знаўца гісторыі уніі зыходзіў з таго, што вызначальным фактарам гістарычнага развіцця Беларусі было сутыкненне дзвюх цывілізацый, якое зводзілася да барацьбы рускай і польскай сіл. Унія – адна з тых заганных рэчаў, якія даў Захад. Яна мела трывалыя гістарычныя задаткі ў барацьбе праваслаўнай і лацінскай цывілізацый. Паказваючы, як паступова "зсоўвалася заходнерускае грамадства ў бок уніі", раскрываючы яе "агульнагагістарычныя і сацыяльныя ўмовы", адзначаючы, што беларуска-ўкраінскія іерархі і народ былі ўжо два стагоддзі прывучаемы да саюза з лацінскай Польшчай, гісторык, тым не менш, непаслядоўны ў поглядзе на яе вытокі. Сцвярджаючы, што "гэта чыста хатні твор Літвы", нават падрыхтаваны незалежна ад папы рымскага, падае яе ўсё ж як вынік "польско-иезуитских хитросплетений": езуіты ператтварылі патранат з "блага" царквы ў пагібель для яе, езуіты падарвалі аўтарытэт канстанцінопальскага патрыярха, яны ж знайшлі нягодных людзей сярод заходнерускай іерархіі, падбухторылі іерархаў супраць брацтваў і да т.п. Падменай унутраных прадпасылак уніі знешнім уплывам Каяловіч аказаўся дастаткова далёкім ад раскрыцця сапраўдных яе прычын .

Адзначыўшы, што ідэя уніі вітала ў галовах немалой колькасці людзей з духавенства, свецкай знаці, мяшчан і ўяўлялася ім справай зусім годнай, Каяловіч далей настойліва навязвае думку, што пайшлі на яе адны нягоднікі, якія дзейнічалі па чужых указаннях і кіраваліся адзіна бояззю ганенняў і пошукамі выгод. Так, найадукаванейшы чалавек свайго часу, які аказваў уплыў на палітыку Рэчы Паспалітай, Іосіф Руцкі паказаны ім несамастойным, пасрэдным, пустым чалавекам, "вузкай галавы" якога ні разу "не озарила" светлая, самастойная думка. Такая характарыстыка лідараў уніі прыходзіць у супярэчнасць і з каяловічаўскім сцвярджэннем, што на чале яе езуіты паставілі энергічных, найбольш адукаваных і даравітых людзей, праўда, "з перакананнямі больш-менш лацінскімі". Лепшай характарыстыкі заслужыў галоўны "архітэктар" уніі Іпаці Пацей – "не апошні вучоны і красамоўны прамоўца", праўда, чалавек славалюбівы, з арыстакратычным гонарам і пагардай да народа, з любоўю да уніі як да ўласнага твора.

У дзейнасці уніяцкай царквы пасля 1596 г. гісторык бачыў два асноўныя кірункі: 1) пашырэнне ўплыву на кананічнай тэрыторыі праваслаўя, што выклікала рост незадавальнення гвалтоўна перавернутых сваім новым веравызнаннем і нараджала імкненне да вяртання назад, у ранейшую веру; 2) збліжэнне з лацінствам, вынікам чаго была ўсё большая страта сваёй самастойнасці і перадача яму сваіх вернікаў. Такім чынам, царква адной рукой сябе стварала, а другой у гэты ж самы час разбурала.

Заснаваная, паводле Каяловіча, на каварстве і падмане, залежная ад двух сіл – з усходу і з захаду, унія з'яўлялася "нетрывалым будынкам", штучным, двухсэнсоўным, бесперспектыўным саюзам, у якога канец мог быць толькі адзін з двух: або вяртанне да праваслаўя, або паглынанне лацінствам, не ў відах якога было павелічэнне правоў і самастойнасці, узняцце маральнага духа уніяцкай царквы – абяцаныя ёй любоў і грамадзянскія правы аказаліся "блефам". Апошняя была "найміткай лацінскай", апалячвала "рускі" народ, знішчыла ў беларусаў свядомасць уласнай народнасці. Бескарысна працуючы на палякаў, яна атрымлівала ад іх самую "чорную няўдзячнасць", што абуджала ў яе клопат пра самазахаванне ад наступу лацінства. Даследчык сцвярджае, што пасля векавой працы уніі яе вораг змяніўся: ім сталі не праваслаўныя, але рыма-католікі.

Адмаўляючы за уніяцкай царквой права і магчымасць заняць сваё месца ў еўрапейскім хрысціянскім раскладзе, М.Каяловіч усё ж прызнае, што Пацей "стаіць са сваёй уніяй паміж Руссю і Польшчай, паміж праваслаўем і лацінствам", што рэформы мітрапаліта І.Руцкага маглі узняць царкву "на высокую прыступку маральнай сілы".

Робячы правільную пасылку аб спалучэнні прымусу і добраахвотнасці пры распаўсюджанні уніі, аўтар усё-ткі збіваецца на адну каляіну і падае гісторыю уніі як жахлівы і трагічны час пакут і супраціву праваслаўных. Ён піша, што сярод сялянства і неарганізованага магдэбургскім правам мяшчанства яна распаўсюджвалася гвалтам, сярод арыстакратыі – перакананнем і дабра-

ахвотнай згодай, і падае беларусаў "вязнямі уніі", якія прагнулі "выйсці на волю праваслаўнага жыцця".

Тры сілы змянілі адна адну ў барацьбе супраць уніі, паводле канцэпцыі М.Каяловіча. Спачатку выступіла праваслаўная арыстакратыя. Выхад на сцэну брацтваў, якія складаліся з людзей незнатных, падаўся заможным патронам крыўдным і небяспечным, і яны пахаваліся ў свае палацы, адкуль з'яўляліся ўжо як ворагі заходнерускай царквы. Затым сцяг барацьбы з уніяй падхапіла неразборлівае ў сродках казацтва, якое "спрытна злучыла грамадзянскую справу са справай рэлігіі". Унія спарадзіла такую абстаноўку, у якой гісторыя Заходняй Русі атрымала пераважна "народны накірунак". Чым больш пераходзіла барацьба супраць уніі з рук вышэйшых саслоўяў ў рукі ніжэйшых, тым больш яна выбівалася з каляіны канстытуцыйнай ў каляіну гвалту, народнага абурэння і, урэшце, са страшнай сілай вылілася ў казацкую вайну з Б.Хмяльніцкім на чале. Увесь сэнс гэтай барацьбы, паводле М.Каяловіча, заключаўся ў "гісторыі руху народа Заходняй Расіі да сваіх каранёў – рускасці і праваслаўя". Фармальна-прымусовае далучэнне беларускіх уніятаў да праваслаўя, якое адбылося ў XIX ст. і якое, паводле Каловіча, азначала вяртанне ўсяго гістарычнага жыцця Беларусі "на кругі свая", ён лічыў найлепшым доказам пераканаўчасці сваёй канцэпцыі. У "Чтениях по истории Западной России" (СПб., 1884) даследчык развівае сваю ідэю аб трох сілах, якія паслядоўна змяняліся ў барацьбе супраць уніі: заходнерускай арыстакратыі, сярэдніх слаях (аб'яднаных у брацтвы гараджан) і простым народзе.

Апраўдваючы ліквідацыю уніяцкай царквы, М.Каяловіч даводзіць адзіную нацыянальную прыроду Беларусі і Расіі, ацэньвае скасаванне уніі як урэшце запанаваўшую справядлівасць, вярнуўшую Беларусь у тую ёй наканаваную адну з расіянамі гістарычную каляіну, з якой збочыць прымусіла Берасцейская унія.

На грунтоўнай базе разнастайных крыніц з архіваў уніяцкіх мітрапалітаў, грэка-уніяцкай калегіі і Сінода напісана доктарскае сачыненне М.Каяловіча **"История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 г.)".** У ім дастаткова глыбока рэканструіруецца карціна рэлігійнага жыцця Беларусі і Украіны канца XVIII ст., галоўным зместам якога была, паводле Каяловіча, канкурэнцыя уніятаў і лацінян за ўладу над "рускім народам", які жадаў быць праваслаўным. Будучы прыхільнікам славянафільства і пера-



могі "праваслаўна-рускай стыхіі" на гэтых землях, ён даказвае натуральнасць і заканамернасць вяртання уніятаў, цяснімых рыма-каталіцтвам, ва ўлонне праваслаўнай царквы і гэтай генеральнай лініі падпарадкоўвае інтэрпрэтацыю крыніц.

Створанае шляхам гвалту і хітрасцяў, уніяцтва, паводле Каяловіча, не мела самастойнага і трывалага становішча як асобае веравызнанне, бо ў ім амаль з самага пачатку ішла барацьба двух плыняў: руплівцы заходніх наваўвядзенняў вялі сваю царкву да зліцця з лацінствам, а імкненне часткі іерархаў вярнуцца да "чысціні" уніі – да ўмоў 1596 года – рабіла непазбежным яе збліжэнне з праваслаўем і ўз'яднанне цэркваў. Гэтая вера, як даказвае аўтар, была ня здольнай задаволіць рэлігійныя патрэбы сваіх паслядоўнікаў, якія ненавідзелі яе ўсёй душой і гатовы былі кінуць пры першай магчымасці.

Даследчык расказвае пра "гістарычны, узаконены трактатамі" клопат расійскага ўрада аб праваслаўным насельніцтве Рэчы Паспалітай, не скрываючы, што ён тым мацней трымаўся за дысідэнцкае пытанне, што яно "ўмацоўвала яго ўплыў на Польшчу". Шмат старонак удзяляецца дзейнасці Георгія Каніскага – "хадатая за ўсю Заходнюю Русь" перад Кацярынай II, перыпетыях і складанасці "праваслаўных заваёў" кананічнай прасторы ў 1780-1795 гадах. Сцвярджаецца, што ўсе нявольныя уніяты "з нецярпеннем чакалі далучэння да Расіі Беларусі, каб скінуць з сябе ненавіснае ярмо уніі", а нявольныя праваслаўныя пазней нарабілі нямала клопатаў ураду.

Закранаюцца некаторыя аспекты ватыканскай палітыкі на Беларусі. Акцэнтуецца ўвага на лаціна-уніяцкіх і уніяцка-базыльянскіх супярэчнасцях, у прыватнасці, на спробе полацкага архіепіскапа Смагажэўскага "перахапіць у езуітаў справу выхавання беларускай інтэлігенцыі і паставіць на іх месца базыльян". Згадваецца наяўнасць апякуноў уніі сярод расійскіх саноўнікаў (старшыня замежнай калегіі Панін, Пацёмкін). Асвятляецца дзейнасць у абарону уніі яе іерархаў І.Лісоўскага, Я.Смагажэўскага, М.Лявінскага, Ф.Растоцкага, супраціў аправаслаўліванню ніжэйшага духавенства, шляхты і народа. З працы М.Каловіча вынікае, што на тэрыторыі Беларусі унія займела к канцу XVIII ст. больш моцныя пазіцыі, чым на Украіне, і на тэрыторыі Мінскай, Полацкай і Магілёўскай губерняў уз'яднанне 1794-1795 гадоў сустрэла найбольшыя перашкоды. Найбольшую арганізаванасць і супраціў праявіла тады "уніяцкая інтэлігентная сіла" Міншчыны.

М.Каяловіч зыходзіць з таго, што знішчэнне уніі было непазбежна, але яно накіруецца – у рускі, праваслаўны, ці ў польскі, лацінскі, які бок – залежала ад перавагі ў дадзены момант рускай ці польскай сілы. Пакуль уз’яднанне адбывалася ў Маларосіі, унія знішчалася на карысць праваслаўя. Але калі яно сканцэнтравалася на Беларусі, то замарудзілася, бо тут панавала прыцягненне уніятаў да лацінства. З кожным новым падзелам Рэчы Паспалітай, як канстатуе Каяловіч, у Расіі аказвалася ўсё "большая колькасць польскіх інтэлігентных людзей (апалячаных беларусаў – **С.М.**), з якімі цяжэй і цяжэй было змагацца рускім інтэлігентным сілам". Здавалася, Беларусь беспаваротна схілілася ў бок лацінства і паланізма. Але іх ціск вымусіў беларускіх уніятаў саміх вырывацца з рук лаціна-палякаў, што прывяло іх "да зближэння з рускім народам" у 1839 г.

З імем М.Каяловіча звязана афармленне **заходнерусізма** – плыні ў грамадскай думцы і кірунку ў гістарычнай навуцы Беларусі, якія адмаўлялі гістарычнасць беларусаў як самастойнай і самабытнай этнічнай адзінкі і атаясамлівалі іх з вялікарускім этнасам і якія ўжо другое стагоддзе супрацьстаяць нацыянальна-беларускай плыні. Як і ўкраінскае маларасійства, заходнерусізм уяўляе сабой разнавіднасць нацыянальнага рэнегацтва і спосаб задушэння беларускасці беларускімі рукамі.

Крэда заходнерускай школы гісторыкаў, якая сфармавалася на працягу 60-80-х г. XIX ст., – інтэрпрэтацыя мінулага беларускага і ўкраінскага народаў у расійскім кантэксце – сфармуляваў яе ідэолаг прафесар расійскай гісторыі Пецярбургскай духоўнай акадэміі М.Каяловіч у "Чтениях по истории Западной России": "Настоит вопиющая нужда знать западную Россию по-русски, понимать по-русски… и присоединять к этому знанию и пониманию миллионы … простых малороссов, белоруссов и литвинов…"[57].

Уняцкай царкве, яе гісторыі належыць выключнае месца ў тэорыі і практыцы заходнерусізма. З аднаго боку, менавіта уніяцкае пытанне дало найбольшы імпульс для развіцця гэтай ідэалогіі. А з другога, гэта ж ідэалогія настолькі выкрывала уніяцтва, што і цяпер яно здаецца большасці якойсьці гістарычна няпоўнавартай з’явай, шкоднай для ўсяго ўсходняга славянства, варожай тым 80 % беларускага сялянства, якія яго спавядалі ў другой палове XVIII ст.

[57] Коялович М.О. Чтения по истории Западной России. – СПб., 1884. – С. IV, 3.



Свае вытокі заходнерусізм бярэ ў XVIII ст., калі па меры дзяржаўнага ўзмацнення Расіі і заняпада Рэчы Паспалітай сярод беларускага праваслаўнага і часткі уніяцкага духавенства, устрывожанага рэальнай пагрозай паланізацыі і акаталічвання, мацнее думка і жаданне ў барацьбе з польска-каталіцкім ціскам абаперціся на адзінаверную Маскву. Гэта была антытэза паланізатарскім сілам, якія ішлі з Захаду і прагнулі тэорыяй і практыкай давесці блізкасць Беларусі да Польшчы. Арыентацыя часткі уніяцкіх лідараў на Расію дастаткова выразна праявілася пасля Замойскага сабора 1720 г., які ўнёс раскол у іхнюю царкву. Прыхільнікі замойскіх наватарстваў, што вялі да ўпадаблення уніяцкай царквы царкве рымска-каталіцкай, жадалі застацца "пры старыне", пры сваіх даўніх звычаях і рытуалах, у якіх бачылі сувязь з уласнай гісторыяй і нават нацыянальнасцю. У канцы XVIII ст., бачачы, як пад ціскам каталіцкага Захаду унія занепадае, яны шчыра імкнуліся прымірыць праваслаўе з каталіцтвам. Аднак чым менш ім удаваліся гэтыя спробы і чым болей яны пераконваліся ў намерах Польшчы ліквідаваць унію, тым болей яны схіляліся на бок Масквы ў надзеі з яе дапамогай зберагчы і ўзмацніць сваю рэлігію. У наступным стагоддзі заходнерусізм сфармаваўся ў асобную плынь грамадскай думкі.

Бацькам заходнерускай тэорыі лічаць галоўнага "ліквідатара" уніі літоўскага епіскапа Іосіфа Сямашку, які асабліва "вызначыўся" ў справе уніфікацыі беларускіх земляў з цэнтральнымі губернямі Расіі і зліцця беларусаў з велікарусамі. Канцэптуальнае афармленне тэорыі заходнерусізма паскорылася пасля паўстання 1863–1864 г., чаму спрыяла стратэгія "утверждения русского дела в Северо-западном крае", што праводзілася пад лозунгам яго "распалячвання". Навуковы фундамент пад яе быў падведзены ў 60-70-я г. XIX ст. працамі **Ксенафонта Гаворскага** – прадстаўніка кансерватыўнага вялікадзяржаўна-шавіністычнага кірунку ў заходнерусізме, які разглядаў этнічныя асаблівасці беларусаў вынікам польска-каталіцкай экспансіі і прапаноўваў знішчыць іх для аднаўлення "спрадвечна рускага характару краю". Ідэалагічную цэласнасць і стройнасць канцэпцыі заходнерусізма надаў **М.Каяловіч** – прыхільнік яго ліберальна-памяркоўнага кірунку, што прызнаваў пэўную гісторыка-этнічную адметнасць Беларусі, але выключаў магчымасць яе нацыянальна-культурнага дзяржаўнага самавызначэння, варожа ўспрымаў усе праявы беларускага адраджэнскага руху. Абгрунтаванне заходне-

русізма найбольш сістэматызавана ў працах М.Каяловіча "Лекции по истории Западной России" (1864) и "История русского самосознания" (1884), які, хоць і быў ураджэнцам Беларусі, але лічыцца продкам беларускага нацыянальнага нігілізму. Да яго ўсе спробы "навуковага" аб'яднання Беларусі з Расіяй мелі толькі выпадковы характар.

Менавіта ў межах заходнерусізма былі распрацаваны першыя грунтоўныя працы па гісторыі Беларусі і Берасцейскай уніі.

За сваю гісторыю заходнерусізм вырас у вялікую палітычную сілу, якая служіла ідэалу адзінай Расіі і русіфікацыі Беларусі, згуртавала вакол сябе значную колькасць прыхільнікаў. Яна вяла барацьбу з паланізацыяй, але ў інтарэсах не Беларусі, а Расіі, і сваім адмаўленнем самабытнасці нашай гісторыі і культуры пераўтварылася ў фактар, які з канца XIX ст. супрацьстаяў беларускаму нацыянальнаму руху. На цэлае стагоддзе заходнерусізм стаў непрыхаваным афіцыйным пунктам погляду, і ўсё, што з ім не ўзгаджалася і яму супрацьстаяла, – бязлітасна, жорстка душылася. Па меры ўмацавання савецка-рэспубліканскага ладу, з усталяваннем БССР заходнерусізм як сістэма поглядаў і палітычнай практыкі фармальна страціў легітымнасць. Але яго ідэі, перацярпеўшыя пэўную мімікрыю пад шатамі інтэрнацыяналізму, засталіся ва ўсведамленні пэўнай часткі беларускага грамадства, а таксама пакінулі свой след у савецкай гістарыяграфіі. Заходнерусізм і сёння з'яўляецца рэальнай перашкодай на шляху ўмацавання суверэнітэту нашай рэспублікі, фармавання нацыянальнай свядомасці і самапавагі беларускага народа[58].

[58] Каўка А. Заходнерусізм // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 3. – Мн., 1996. – С. 417–418.



# Глава 3

## Заходнеруская гістарыяграфічная школа аб царкоўным новатворы 1596 года

У 1880-я гады гістарыяграфія Берасцейскай уніі ўзбагацілася мемуарамі здрадзіўшых ёй епіскапаў **Іосіфа Сямашкі**[59], **Васілія Лужынскага**[60], аднаго з дзейных удзельнікаў яе скасавання **Антонія Зубко**[61], аўтара працы "О греко-униатской церкви в западном крае"[62]. Апраўдваючы скасаванне уніяцтва з пазіцыі дзяржаўных інтарэсаў Расіі, яны даказвалі неабходнасць этнакультурнага і рэлігійнага зближэння з ёй далучаных тэрыторый. Галоўная віна уніі імі бачылася ў тым, што 1596-ты год і асабліва год 1720-ты (Замойскі сабор) скіравалі Беларусь у такое рэчышча культурна-рэлігійнага развіцця, якое разышлося са шляхам рускай народнасці. Асаблівую каштоўнасць уяўляюць трохтомныя **"Записки Иосифа, митрополита Литовского" (І.Сямашкі)**. Акрамя ўласнага жыццяпісу, ён, ураджэнец Украіны, даў у іх ацэнку пераломнага моманту ў адносінах паміж уніяцкай, праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі, апісаў свой удзел у падзеях 1839 г., даў характарыстыку многіх тагачасных дзеячаў, з якімі яго звёў лёс. Шматлікія дакументы, прыкладзеныя да "Записок", даюць яскравае ўяўленне пра тагачасную канфесійную сітуацыю на Беларусі і часам даюць інфармацыю зусім іншага кшталту, чым хацеў сказаць епіскап.

Выхадзец з сям'і уніяцкага святара з Рагачоўскага ўезда Мінскай губерні **В.Лужынскі** праводзіць у сваіх мемуарах больш рэзкі, мясцовы (беларускі, паводле сцвярджэння іх рэдактара), а часткова і асабісты погляд на ход "уз'яднання" ў адрозненне ад "Записок" Іосіфа, дзе заўважаецца афіцыйная, пецярбургская аднабаковасць.

Згададзеныя помнікі мемуарнай літаратуры адносяцца да ліку найбольш цікавых, хай сабе нават і суб'ектыўных, – а ўспаміны заўсёды такія, – прац па апошняму перыяду існавання уніяцкай царквы.

[59] Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 1–3. – СПб., 1883.
[60] Записки Василия Лужинского, архиепископа полоцкого. – Казань, 1885.
[61] Воспоминания архиепископа Антония. – СПб., 1889.
[62] Зубко А. О греко-униатской церкви в западном крае // Русский вестник. – 1863. – Т. 53.

Яны і сёння з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння тых падзей і працэсаў.

У апошняй трэці XIX – пачатку XX ст. гісторыя Берасцейскай уніі займела шмат буйных даследчыкаў – калег, вучняў і паслядоўнікаў М.Каяловіча: **Ю.Крачкоўскі, П.Жуковіч, М.Кіпрыяновіч, Г.Шавельскі, І.Малышэўскі, С.Рункевіч** і інш. Гэта цэлае пакаленне і цэлая плеяда гісторыкаў, выхаваная ў духу работ М.Каяловіча. Усе яны – спецыялісты па уніяцка-праваслаўным узаемадачыненням – з уласцівым ім вернападданніцкім манархізмам і перакананасцю ў перавазе праваслаўя над уніяй пачалі сцвярджаць, што, знаходзячыся паміж дзвюма больш моцнымі культурамі – рускай і польскай – і рэлігіямі – праваслаўнай і каталіцкай, Беларусь занадта "слабая" для сваёй культурна-канфесійнай самастойнасці і закрывалі вочы на намаганні уніяцкіх лідараў дасягнуць гэтай самастойнасці на падставе сваёй веры. "Растраціўшы свае сілы" ў мінулым, Беларусь няздольна захаваць уласны нацыянальна-культурны твар, а будучы блізкай да Расіі, не ў стане выпрацаваць нешта незалежнае ад яе. У барацьбе расійскага ўрада супраць уніі яны бачылі барацьбу з польска-ліцвінскім сепаратызмам і за прывядзенне Беларусі да этнарэлігійнага адзінства з Расіяй.

Паслядоўна праводзіў праз сваё сачыненне **"Очерки униятской церкви"**[63] палітыка-ідэалагічныя погляды расійскага ўрада на Беларусі як на "искони русские земли" і ў гэтым кантэксце трактаваў гісторыю Берасцейскай уніі выпускнік Пецярбургскай духоўнай акадэміі, педагог, які настаўнічаў у Маладзечне, Вільні, Полацку, старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі ў 1888–1902 г., выхадзец з сям'і арганіста уніяцкай царквы сяла Азяты Кобрынскага павета Гродзенскай губерні Юльян Фаміч **Крачкоўскі**.

Прыкметны след у гістарыяграфіі Берасцейскай уніі пакінуў ураджэнец Лагойшчыны, выкладчык латыні, гісторыі і педагогікі Літоўскай духоўнай семінарыі ў Вільні і адзін з найбольш здатных вучняў М.Каяловіча Георгій Якаўлевіч **Кіпрыяновіч**. Першая яго значная праца "Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени"[64]

[63] Крачковский Ю.Ф. Очерки униятской церкви. Оттиск из «Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете». – М., 1871. – 404 с.
[64] Киприанович Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. – Изд. 2. – Вильна, 1899.



ўбачыла свет у 1895 г. У 1899 г. даследчык перамог ва Увараўскім конкурсе на лепшую працу пра літоўскага мітрапаліта Іосіфа Сямашку[65], зробленага галоўнай зброяй выканання царскай волі па ліквідацыі уніяцкай царквы. Вынікам гэтага конкурса была капітальная 450-старонкавая манаграфія **"Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно–русских униатов с православною церковию в 1839 г"**[66]. У 1912 г. гісторык выступіў з працай, прысвечанай І.Кунцэвічу[67].

Буйнейшым з дарэвалюцыйных даследчыкаў міжканфесійных адносін у Рэчы Паспалітай быў выхадзец з сям'і святара з Пружан, любімы вучань і пераемнік М.Каяловіча, прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі, член-карэспандэнт Расійскай Акадэміі навук (з 1918 г.) Платон Мікалаевіч **Жуковіч**. Яго пяру належыць шэраг прац[68], з якіх найбольш вядомай з'яўляецца яго капітальная доктарская дысертацыя **"Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией"**[69], дзе апошняя паказана як прадмет абмеркавання і спрэчак на соймах і як прычына вялікай ступені напалу рэлігійна-народных пачуццяў. У ёй паслядоўна, пачынаючы з 1595 г., раскрываецца ход гэтай формы антыуніяцкай барацьбы "ва ўсёй шматстайнасці сутыкаўшыхся ў ёй жывых сіл", дзеля чаго даследчык прыцягнуў палемічную літаратуру, афіцыйна-урадавыя матэрыялы, соймавыя дзённікі, тагачасную перапіску.

П.М.Жуковіч знаходзіўся на пазіцыях афіцыйнай гістарыяграфіі

[65] Жукович П.Н. Отзыв о представленном на соискание Уваровской премии сочинении Г.Я.Киприановича… – СПб., 1899.
[66] Киприанович Г.Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно–русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна, 1893.
[67] Архиепископ полоцкий и витебский Иосафат Кунцевич, западнорусский мученик за унию с Римом (По новым научным данным). – Вильна, 1912.
[68] Жукович П. Н. Брестский собор 1591 г. По новооткрытой грамоте, содержащей деяния его. – СПб.: Тип. Имп. Акад. наук, 1907; Жукович П. Н. Жизнеописание митрополита Иосифа Вельямина Рутского, составленное митрополитом Рафаилом Корсаком, и сочинение Рутского об улушении внутреннего строя униатской церкви // Христианское чтение. – 1909. – Август–сентябрь. – С.1089–1107; Жукович П. Н. О неизданных сочинениях Иосафата Кунцевича // Известия отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. 1909. – СПб., 1910. – Т. XIV. – С. 199–231; і інш.
[69] Жукович П.Н. Борьба против унии на современных ей литовско–польских сеймах (1595–1600 гг.). – СПб., 1897; Жукович П. Н. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (до 1609 г.). – СПб., 1901; Жукович П. Н. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (с 1609 г.): В 6 вып. – СПб., 1903–1912.

Расійскай імперыі, пісаў свае даследаванні ў "заходнерускім духу", сцвярджаў, што праваслаўнае насельніцтва ВКЛ заўсёды імкнулася пад уладу рускага цара і, зыходзячы з гэтага, трактаваў унію 1596 г.

Значную ўвагу дарэвалюцыйныя гісторыкі ўдзялілі апошняму перыяду існавання уніі і імкліваму віру падзей "ўз'яднання" уніятаў 1830-х г. Да нашага часу не страціла сваёй навуковай актуальнасці заснаваная на архіўных крыніцах манаграфія Паўла Іосіфавіча **Баброўскага "Русская греко–униатская церковь в царствование императора Александра I"** [70]. Ён жа даследаваў з новай сілай успыхнуўшы ў канцы 1820-х г. канфлікт паміж белым уніяцкім духавенствам і манахамі-базыльянамі, які моцна аслабляў царкву. Увесь сэнс уніяцкага пытання ў Расіі ён бачыў у імкненні белага духавенства скінуць небяспечныя для самога існавання уніі лацінізатарскія ланцугі базыльянскага ордэна[71]. Прадстаўленне П.Баброўскага аб уніятах як ахвярах каталіцкага ўціску і аб акце 1839 г. як непазбежным сродку выратавання іх нацыянальнай унікальнасці адводзяць гісторыку заслужанае месца ў заходнерускай школе. Але спробай разглядзець падзеі ліквідацыі уніяцкай царквы з пазіцыі саміх уніятаў, спачуваннем іх бяспраўнаму становішчу ў Расійскай імперыі канцэпцыя П.Баброўскага, выхаванага пад уплывам заходнебеларускай уніяцкай эліты, адрозніваецца ад тэарэтычных пабудоў панаваўшай у праблематыцы заходнерускай школы. Прадстаўляючы ліберальнае крыло заходнерусізма, за свае погляды ён падвяргаўся крытыцы з боку кансерватыўна-клерыкальных гісторыкаў М.Каяловіча і І.Філевіча, а таксама найбольш рэакцыйнай прэсы імперыі[72]. Тым не менш сучаснікі аценілі значнасць прац П.Баброўскага, якога разам з Каяловічам называлі адзінымі і сапраўднымі аўтарытэтамі ў некаторых галінах ведаў па заходніх губернях.

Верным прыхільнікам канцэпцыі М.Каяловіча быў яго вучань, сын пратаіерэя Мінскай епархіі, сакратар Сінода Сцяпан Грыгор'евіч **Рункевіч**, аўтар шэрагу прац па гісторыі уніяцкай і праваслаўнай

[70] Бобровский П.О. Русская греко–униатская церковь в царствование императора Александра I: Историческое исследование по архивным документам. – СПб., 1890.
[71] Бобровский П.И. Противодействие базилианского ордена стремлению белого духовенства к реформам Русской греко–униатской церкви (по документам архивов греко–униятского (2–го) департамента римско–католической коллегии и министерства народного просвещения). – Вильна, 1888.
[72] Мелешко Е.И. Исторические взгляды П.О.Бобровского: Автореф. дис. ... канд. ист. наук: 07.00.09 / Белгосуниверситет. – Мн., 2002. – С. 2–13.



цэркваў XVIII–XIX ст. Асабліва падрабязна, на значным архіўным матэрыяле ім распрацавана пытанне аб вяртанні уніятаў у праваслаўе, якому прысвечана 600 старонак кнігі **"История Минской архиепископии (1793–1832 гг.) с подробным описанием хода воссоединения западнорусских униатов с православной церковью в 1794–1796 гг."**[73]. Хоць аўтар прытрымліваўся ў цэлым афіцыйнага пункту погляду, ён выкарыстаў вялікі архіўны матэрыял, які дазволіў прасачыць гэты працэс літаральна ў кожным прыходзе. Вялікую крыніцазнаўчую каштоўнасць для канфесійнай гісторыі Беларусі, Украіны і Польшчы ўяўляе падрыхтаваная С.Рункевічам двухтомнае **"Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов"** [74].

Канцэпцыю вызвалення заходняй Русі ў 1839 г. ад прыгнёту палякаў і "тлетворного" ўплыву каталіцкага Захаду замацоўвала ў гістарыяграфіі падрыхтаваная на багатай базе крыніц грунтоўная манаграфія **"Последнее возсоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.)"** блізкага да школы М.Каяловіча пратаіерэя Георгія Іванавіча **Шавельскага**[75], ураджэнца Гарадоцкага павета Віцебскай губерні. Народу, які складаў асноўную сацыяльную базу уніяцкай царквы, але падаваўся гісторыкамі заходнерускай школы паслухмянай цацкай у руках духавенства, паноў і ўрада, знайшлося мала месца на старонках іх твораў. Як канстатуе Г.Шавельскі, за два стагоддзі "просты уніяцкі народ не паспеў канчаткова ні акаталічыцца, ні апалячыцца, ні нават моцна прывязацца да уніі", бо лаціна-польская прапаганда была накіравана на сярэдні клас і, найперш, на ніжэйшае духавенства. Менавіта яно ва ўз'яднаўчых мерапрыемствах 1780, 1794–1795 і 1833–1839 г. аказала найбольшы супраціў палітыцы ўрада. У той жа час у канцы XVIII ст. гісторык адзначае "моцныя народныя рухі на карысць уз'яднання з праваслаўем", інтэнсіўнасць якіх не ўсюль была аднолькавай. У Магілёўскай губерні, пры Георгіі Каніскім, у 1781–1783 г. да праваслаўя далучыліся 112578 уніятаў, у Мінскай губерніі пасля 1794 г. – 80 тысяч. Пры гэтым, аднак, у абедзвюх губернях святары па боль-

[73] Рункевич С. История Минской архиепископии (1793–1832 гг.) с подробным описанием хода воссоединения западнорусских униатов с православной церковью в 1794–1796 гг. – СПб., 1893.
[74] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 1: 1470–1700. – СПб., 1897; Т. 2:1701–1839. – СПб., 1907.
[75] Шавельский Г. Последнее возсоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). – СПб., 1910.

шай частцы адмаўляліся кідаць сваю веру. Напярэдадні 1839 г., паводле дадзеных Г.Шавельскага, уніятамі яшчэ былі 1,5 млн жыхароў Беларусі. Вялікае пачынанне, як называе аўтар апошнюю ўз'ядначую акцыю, праходзіла асабліва бурна на ўсходзе Беларусі. Пад уплывам духавенства і мясцовай шляхты адбыліся сялянскія хваляванні ў Томсіне, Ушачы, Даўгаполлі, выступленні ў Лепелі і іншых месцах. У Пецярбургу тады ўсур'ёз баяліся выбуху паўстання на Беларусі. Вялікую цікавасць уяўляе дадатак да манаграфіі Г.Шавельскага ў выглядзе перапіскі, ў значнай сваёй частцы канфідэнцыйнай, полацкага епіскапа з обер-пракурорам Сінода, якая яскрава адлюстроўвае тое ўз'яднаўчае ліхалецце.

**А.В.Бялецкі** вывучаў уніяцкае пытанне ў 1772–1827 г., вынікам чаго чаго стала аднайменная праца[76].

Аднак рэальная карціна аправаслаўлівання уніятаў была дастаткова далёкай ад той ідыліі, якую намалявалі царкоўныя гісторыкі на старонках сваіх выйшаўшых на мяжы XIX–XX стагоддзяў манаграфій, прасякнутых усхваленнем рэпрэсіўнай палітыкі самадзяржаўя адносна уніяцкай царквы.

Ураджэнец вёскі Нягневічы Навагрудскага павета, прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі, дзе ён выкладаў рускую грамадзянскую гісторыю і гісторыю рускай царквы, **І.І.Малышэўскі** – аўтар шматразова перавыдадзенай у Расійскай імперыі брашуры "Правда об унии", пабудаванай у выглядзе пытанняў-адказаў і прызначанай для простага народа, і двухтомнай працы **"Западная Русь в борьбе за веру и народность"**[77]. У іх ён выступае як прыхільнік агульнаславянскага культурна-рэлігійнага адзінства пры вядучай ролі Расіі.

Тэма "поругания" уніяй праваслаўнай веры і антыуніяцкай барацьбы мела прыярытэтны характар у працах гісторыкаў заходнерускай школы. Рэлігійны элемент у войнах сярэдзіны XVII ст. даследаваў **А.Краскоўскі**, які лічыў прымусовае ўвядзенне уніі адной з прычын казацка-сялянскага паўстання 1648 г., а барацьбу праваслаўных супраць уніятаў – братазабойчай[78].

**У.З.Завітневіч**, які паходзіць з Мінскага павета, ў 1883 г. у даследаванні "Палинодия Захария Копыстенского в истории западно-русской полемики XVI–XVII вв.", у аснову якога лягла яго магістарская дысертацыя[79], зрабіў агляд палемічнай літаратуры пра Берасцейскую унію 1596 г.

Пад уплывам тагачаснага "патрыярха" сярод даследчыкаў гісторыі беларускай царквы М.Каяловіча пісалі свае працы **М.Р.Дзікоўскі**[80], **С.К.Паўловіч**[81] і інш.

У апошняй трэці XIX ст. пачынаецца спецыяльнае навуковае даследаванне беларускай культуры, якое не магло праігнараваць яе уніяцкую частку. Але напісаныя ў рамках пануючай тады ідэалогіі і метадалогіі тагачасныя працы ў цэлым у негатыўным святле падавалі дзейнасць брацкіх арганізацый, друкарань, бібліятэк, асоб, якія патуралі іншай ад праваслаўя веры. Такім, у прыватнасці, з'яўляецца сачыненне пра уніяцкія брацтвы[82]. Гісторыю пацесненай уніяй праваслаўнай царквы Беларусі і створанай у яе ўлонні сістэмы асветы, асветніцкую дзейнасць праваслаўных брацтваў вывучаў гісторык з вёскі Рагачы (цяпер у Бярозаўскім раёне) Канстанцін Васільевіч **Харламповіч**[83]. Помнікі, у тым ліку і уніяцкія, кірылічнага кнігапісання і кнігадрукавання апісваў таксама стаяўшы на пазіцыях заходнерусізму **А.І.Мілавідаў**[84]. Ён жа вывучаў архіў базыльянскага Ляшчынскага манастыра[85], апалагетызаваў дзейнасць віленскага генерал-губернатара Мураўёва – душыцеля паўстання 1863–1864 г. – па выкараненню рэшткаў уніі на Беларусі[86].

---

[76] Белецкий А.В. Униатский вопрос в 1772–1827 гг. // Хрестоматия по истории Западной России: Учебное пособие для учеников старших классов средних учебных заведений / Сост. А.Турцевич. – Вильна, 1892. – С. 729–743.

[77] Малышевский И.И. Западная Русь в борьбе за веру и народность. –СПб., 1897–1899. – Ч. 1–2.

[78] Красковский А. Борьба против унии в Западной России и единство русского народа в 1648–1668 гг. – Витебск, 1914.

[79] Завитневич В.З. Палинодия Захария Копыстенского в истории западно-русской полемики XVI XVII вв.: Исследование. – Варшава, 1883.

[80] Диковский Н.Р. Базилианский орден и его значение в западно-русской униатской церкви XVII – начала XVIII в., – до Замойского униатского провинциального собора 1720 г. // Гродненские епархиальные ведомости. – 1904. – № 18 – 1906.

[81] Павлович С.К. Опыт истории Замойского униатского провинциального собора (1720 г.). – Гродно, 1904.

[82] Униатские церковные братства // Памятная книга Гродненской губернии на 1886 год. – Ч. I. – С. 61-65.

[83] Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века. – Казань, 1898; Харлампович К. Западнорусские церковные братства и их просветительная деятельность в конце XVI и начале XVII века. – СПб., 1899.

[84] Миловидов А. Старопечатные славяно–русские издания, вышедшие из западно–русских типографий XVI – XVIII вв. // Оттиск из «Чтения в императ. Об–ве ист. и древн. рос. при Моск. ун–те», – Вильна, 1908; Миловидов А. Описание славяно–русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491–1800 гг.). – Вильна, 1908; Миловидов А.: Судьба русской книги в Северо–Западном крае в связи с его культурной историей. – СПб., 1903.

[85] Миловидов А. Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря. – М., 1900.

[86] Миловидов А. Заслуги графа М.Н.Муравьева для православной церкви в Северо–Западном крае. – Харьков, 1900.

Гадавіны "ўз’яднання" 1839 года, і асабліва 50-я, актуалізоўвалі уніяцкую тэматыку. У мясцовым друку тады з’яўляліся папулярызатарска-прапагандысцкія, разлічаныя на просты народ, публікацыі, якія падпарадкоўвалі трактоўку гістарычных фактаў задачам абароны праваслаўя і самадзяржаўя[87]. А ў Пецярбургу, Маскве і Кіеве выходзілі прызначаныя адукаванаму чытачу даследчыцкія працы найбуйнейшых уніязнаўцаў імперыі, у тым ліку П.Жуковіча, С.Рункевіча, **П.Гаручкі**[88] і інш. Даказваючы згубнасць уніі для беларускага народа і "благодетельность" яе скасавання, яны, тым не менш утрымлівалі цікавыя прызнанні, што пры ўсім сваім этнакультурным шкодніцтве уніяцтва ўсё-ткі не змяніла "рускасці" беларусаў, ды й абраднасць, таінствы, храмы, кнігі ў іх у прынцыпе засталіся тымі ж праваслаўнымі; што ўрадавы наступ на іх веру выклікаў масавы супраціў, і да т.п.

Вобраз уніі, створаны гісторыкамі імперскага кірунку разам з мясцовымі "западно-руссами", якія тым не менш былі падазроным элементам у вачах афіцыйнага Пецярбурга, бо ад іх саміх "пахне вуніяй", атрымаўся далёкім ад рэальнага. Тэндэнцыйнасць, зададзенасць, аднабаковасць іх падыходаў да асвятлення уніяцтва і яго дзеячаў, выбарачны падыход да крыніц нам сёння відавочныя.

Дзейнасць уніяцкай царквы падавалася выключна разбуральнай ў сферы культуры і асімілятарскай ў этнічным плане; створаныя ў яе ўлонні каштоўнасці прадстаўляліся чужымі і варожымі беларускаму народу. Закрываліся вочы на намаганні яе лідараў дасягнуць рэлігійнай самастойнасці Беларусі на падставе уніі.

Сфармаваўшы адыёзны вобраз уніі, незлічонай колькасцю вуснаў і друкаў гістарыяграфія пануючай нацыі пры дапамозе мясцовых "западно-руссов" змагла прышчапіць яго да гістарычнай свядомасці усходнеславянскіх народаў. Паўторанае ў дзесятках манаграфій, сотнях артыкулаў, у навуковых дакладах і царкоўных пропаведзях, палажэнне аб дэнацыяналізтарскай і культурна-разбуральнай місіі

[87] Анастасий (Опоцкий В.А.). Взгляд на дело распространения и утверждения православия в западном крае России: В память возсоединения униатов с православною церковию. – Минск, 1871; Афонский П. Что такое уния, как она началась и как окончилась: Исторический разсказ для народного чтения (К 50–летию воссоединения западно–русских униатов с православной церковью). Минск, 1889; Юрашкевич А. Общий взгляд на западно–русскую униатскую церковь до и во время воссоединения униатов с православной церковью в 1839 г. – Минск, 1889.

[88] Горючко П.С. Из истории воссоединения униатов в Белоруссии 1795 –1805 годов. – Киев, 1902.



уніяцтва на землях Беларусі і Украіны стала ўспрымацца на абыдзеным узроўні як аксіёма.

Са сваімі меркамі да пытання аб рухальных сілах, мэтах і выніках Берасцейскай уніі падыходзілі польскія гісторыкі апошняй трэці XIX – пачатку XX ст. Разгорнутая ў канцы XIX стагоддзя дыскусія аб прычынах падзелаў Рэчы Паспалітай і 300-я ўгодкі уніі 1596 г. узмацнілі навуковую цікавасць да яе, а расправа з падляшскімі уніятамі ў 1874 г., якая ўзрушыла Еўропу, адгукнулася ў Польшчы ў шматлікіх навукова-папулярных выданнях, а таксама ў паэзіі, прозе і драматургіі. Польскія знаўцы уніі, найбуйнейшым сярод якіх быў пазнанскі епіскап Эдвард Лікоўскі[89], разглядалі яе ў асноўным у аспекце яе ўплыву на гістарычную перспектыву Рэчы Паспалітай. Як дарэвалюцыйныя расійскія, гэтак і яны на саюз 1596 г. з пункту погляду інтарэсаў сваіх дзяржаў глядзелі сваёй "ускраіннай" або "крэсовай" імперыялістычнай палітыкі. Але, у адрозненне ад расійскіх калег, яны не выпрацавалі адзінага бачання царкоўна-рэлігійнага, палітычнага і этнічнага прызначэння берасцейскай згоды, хоць у падачы Рэчы Паспалітай культуртрэгерам на "варварскім" праваслаўным усходзе і пасрэдніцкай, цывілізуючай ролі уніяцкай царквы разыходжанняў паміж імі няма.

[89] Likowski E. Historia unii kościoła ruskiego z kościołem rzymskim. – Poznań, 1875; яго ж: Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Poznań, 1880; яго ж: Unia Brzeska (r. 1596 ). – Poznań:, 1896; Ліковський Е. Берестейська унія. – Жовква, 1916.

# Глава 4

## Трактоўка уніі ў працах прадстаўнікоў нацыянальнай беларускай гістарыяграфіі (першая трэць ХХ ст.)

У вострай барацьбе дзвюх гістарычных версій мінулага Беларусі (расійскай і польскай) з першай трэці XIX ст. пачынае прабівацца ліцвінска-беларуская плынь. Ля яе вытокаў стаялі прафесары і выхаванцы Віленскага універсітэта, якія сваімі працамі давалі адпор тэорыям польскай і расійскай культурна-рэлігійнай выключнасці, і К.Каліноўскі. Прадстаўнікі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі XIX – пачатку XX ст. спецыяльных уніязнаўчых даследаванняў не праводзілі, хоць кожны імкнуўся ў сваіх працах выказаць стаўленне да веры, сляды якой і наступствы ліквідацыі востра адчуваліся ў тагачасным грамадстве.

Адзначыўшы супярэчлівую ролю ў гісторыі Беларусі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, іх прычыненне да заняпаду старабеларускай культуры і асіміляцыі народа, **Максім Багдановіч** успрымаў уніяцтва як альтэрнатыву дэнацыяналізацыі ў рэлігійным жыцці беларусаў[90].

Сваё разуменне сутнасці уніяцтва далі ў першай трэці XX ст. Мітрафан Доўнар-Запольскі, Вацлаў Ластоўскі, Адам Станкевіч, Аляксандр Цвікевіч, Усевалад Ігнатоўскі, якія ў сваёй інтэрпрэтацыі Берасцейскай уніі зыходзілі з таго, што культурна-гістарычныя працэсы на беларуска-ўкраінскіх землях працякалі адасоблена ад аналагічных працэсаў у Расіі і Польшчы. Сваімі працамі яны не толькі пасунулі уніязнаўства далёка наперад, але і раскрылі жахлівую неадпаведнасць паміж гістарычнай рэчаіснасцю і яе адлюстраваннем тагачаснай афіцыйнай навукай.

У поглядах на царкоўнае аб'яднанне М.В.Доўнар-Запольскага, В.Ластоўскага, У.Ігнатоўскага праявілася пэўная супярэчлівасць і эвалюцыя ад абвяшчэння уніі сродкам знішчэння беларускага этнаса да прызнання яе своеасаблівай формай нацыянальнай беларускай царквы.

[90] Багдановіч М. Белорусы // Збор твораў: У 2 т. – Мн., 1968. – Т.2. – С. 342.



**М.В.Доўнар-Запольскі**[91] негатыўна ацэньвае вынікі ўвядзення уніі, бо яна, на яго думку, з'яўлялася замахам на нацыянальную самабытнасць народа, які ўвесь свой культурны патэнцыял аддаў на рэлігійную і нацыянальную барацьбу. Але, з другога боку, прызнае, што яна стала "людскім сумленнем"; нават прыняўшы яе, гараджане і сяляне захавалі сваю нацыянальнасць.

Сваім асуджэннем ліквідацыі уніяцтва ў 1839 г. гісторыкі беларускай нацыянальнай школы разышліся з заходнерусамі, якія ўхвалялі гэта мерапрыемства царызму. Крытычна ацэньваючы унію 1596 г., М.В.Доўнар-Запольскі пайшоў далей афіцыёзнай гістарыяграфіі вялікадзяржаўна-манархічнага толку, састарэлыя палажэнні якой працягвалі прапагандавацца ў навуцы канца XIX – пачатку XX ст. Бачаннем дзвюх плыняў ва уніяцтве – на збліжэнне з каталіцтвам і на адстойванне асобнасці, якія ў XVIII – першай трэці XIX ст. знаходзіліся ў барацьбе паміж сабой, ён пераўзышоў і многіх паслядоўнікаў – савецкіх гісторыкаў, якія адназначна і аднабакова ацэньвалі унію як шлях да акаталічвання.

Першае пакаленне беларускіх адраджэнцаў звязвала надзею стварэння нацыянальнай царквы з уніяцтвам, а не з праваслаўем, якое з'яўлялася тады носьбітам вялікадзяржаўнай, імперскай ідэі.

**В.Ластоўскі**[92] ацэньвае унію як няўдалую спробу Беларусі рэлігійна самаакрэсліцца ў экспансіўным міжнародным праваслаўна-каталіцкім атачэнні. Правалу гэтай спробы спрыялі як унутраныя фактары (супярэчнасці паміж белым і чорным духавенствам у самой царкве, лацінізатарская дзейнасць базыльянскага ордэна, цяжкае матэрыяльнае і маральнае палажэнне прыходскага кліра), так і вонкавыя (вераломства польска-каталіцкіх колаў, якія глядзелі на унію толькі як на спосаб зліцця беларусаў з палякамі; своекарыслівая царкоўная палітыка Расіі).

Закліканая стаць нацыянальнай верай беларусаў, уніяцтва ў сілу гістарычных абставін было нізведзена "на палажэнне другараднага аргумента лаціна-каталіцкай і руска-праваслаўнай справы", якія вя-

[91] Довнар–Запольский М.В. Польско–литовские унии на сеймах до 1569 г. – М., 1897; Довнар–Запольский М.В.: Исследования и статьи. – Т. І. – К., 1909; Доўнар-Запольскі М.В. Асновы дзяржаўнасці Беларусі. – Вільня, 1919; Довнар–Запольский М.В. Гісторыя Беларусі. – Мн., 1994.

[92] Ластоўскі В.Ю. Кароткая гісторыя Беларусі. – Мн., 1992 (перавыданне кнігі, надрукаванай у Вільні ў 1910); Ластоўскі В.Ю. Унія // Ластоўскі В. Выбраныя творы / Уклад., прадмова і каментарыі Я.Янушкевіча. – Мн., 1997. – С. 400–414.

дуць барацьбу паміж сабой на рэлігійным грунце ў XVII – XVIII ст. Ён лічыць, што прадстаўніцтва "рускай" народнасці ў Рэчы Паспалітай захапіла ў свае рукі праваслаўе. Унія ж магла стаць нацыянальным абрадам толькі як дзяржаўная рэлігія са сваёй уласнай іерархіяй, народнай мовай у літургіі і пры ўмове прыналежнасці да яе ўсіх класаў грамадства. В.Ластоўскі не бачыць, што з існаваўшых тады на Беларусі хрысціянскіх царкоўных арганізацый менавіта уніяцкая царква найболей наблізілася да гэтых крытэрыяў, у найбольшай ступені адпавядала ім: мела іерархію мясцовага паходжання, беларусізаваную царкоўнаславянскую мову літургіі і з'яўлялася самай масавай у XVIII ст.

Па назіраннях В.Ластоўскага, спачатку унія выступіла пад знакам адраджэння царквы і беларускай народнасці, але з прычыны залішняй апекі над ёй каталіцкай царквы, чым далей, тым больш выпускала ніці кіраўніцтва "рускай" справай на карысць праваслаўя. Не змогшы ўтрымаць у сваіх руках кіраўніцтва адраджэннем грамадства, яна тым не менш у самым сваім пачатку мела перад ім вялікія заслугі, паколькі была прычынай абуджэння дрэмлючых сіл у народзе. Такая ацэнка ў многім супадае з пазіцыяй украінскіх даследчыкаў таго часу, якія разглядалі падзею 1596 года як спробу культурна-нацыянальнага адраджэння беларуска-ўкраінскага грамадства (М.Грушэўскі), як "фермент" духоўнага жыцця народаў (І.Франко). Гісторык адзначае ролю базыльян у развіцці асветы і "аграмадную пісьменнасць", выкліканую падзеяй 1596 года. У напісанай ім гісторыі беларускага пісьменства X – пачатку XIX ст. уніяцкія творы занялі сваё месца як помнікі нацыянальнай культуры[93].

Станоўча ацэньваючы саму ідэю скасавання падзелу ў хрысціянстве, У.Ігнатоўскі выносіць суровы прысуд уніі ў яе берасцейскім варыянце, у якім інтарэсы Польшчы, што прагнула скасаваць самабытны нацыянальна-культурны твар Беларусі, узялі верх над намерам апошняй спыніць рэлігійныя спрэчкі і ўтварыць нацыянальную дзяржаўную царкву. Ён асуджае трату беларускіх творчых сіл на непатрэбную рэлігійную барацьбу ў расколатым уніяй грамадстве. Але гісторык непаслядоўны ў сваіх ацэнках. З аднаго боку, ён лічыць, што уніяцтва развівалася ў кірунку, зададзеным Польшчай, але, з другога, канстатуе: Польшча і езуіты перасталі лічыць яго пат-

[93] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. – Коўна, 1926.



рэбным, калі выявілася, што яно, як мост, не пераводзіць пад польска-каталіцкі ўплыў шырокія масы так хутка, як яны на тое спадзяваліся[94].

Высока ацанілі этнаахоўную ролю уніяцтва **А.Цвікевіч** і **А.Станкевіч**[95]. У сваёй працы "Западно-руссизм", якая ўвайшла ў залаты фонд беларускай гістарыяграфіі, першы пісаў: "У вуніі захоўвалася стыхія беларушчыны, і інтэлігентныя вуніяцкія сем'і былі носьбітамі ідэі беларускай самабытнасці. На грунце уніі, як асаблівай "мужыцкай веры", беларуская інтэлігенцыя імкнулася збудаваць будучыню Беларусі … Але ў вуніі, як гэта дасканала ведалі тыя ж самыя работнікі і вучоныя, была схована для Беларусі вялізная, гістарычная небясьпека. Вунія з Польшчай – палітычная ў Любліне і царкоўная ў Берасьці – гэта два цяжэйшыя этапы беларускай гісторыі, пачатак дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага заняпаду радзімы. Як было пагадзіць гэтыя дзве проціхлежнасьці?"[96]. Адам Станкевіч сцвярджаў, што з прычыны уніі Беларусь шмат страціла, але набыла значна больш – захавала веру сваіх бацькоў на працягу больш 243-х гадоў і сваю нацыю, падняла асвету духавенства і народа, садзейнічала развіццю беларускай народнай літаратуры і стала адзінай апорай беларускай культурнай асобнасці[97].

Ініцыятары неауніі ў Заходняй Беларусі вынеслі суровы прысуд уніі гістарычнай, 1596-га года, якая, на іх думку, вырашала культурна-гістарычную нацыянальную задачу – сінтэз дзвюх вялікіх сістэм культуры і светапогляду – заходняй і ўсходняй: "Унія ўнесла замест абяцаных рэформ, аздараўлення царквы і адраджэння нацыянальнага жыцця толькі новыя крыніцы расколу і раздзялення, выклікала глыбокую дэмаралізацыю ў грамадстве і дэзарганізацыю ў народзе. Царкоўная унія падрывала ля самай асновы той апошні бар'ер, які ахоўваў культурна-нацыянальную своеасаблівасць і самастойнасць народа, адкрываючы яго для ўплыву і насілля з боку Польскага Рыма" [98].

[94] Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. – 5–е выд. – Мн., 1991.
[95] Цьвікевіч А. Адраджэньне Беларусі і Польшча. – Менск–Вільня–Берлін,1921; Stankiewić Ad. Biełaruskaja mowa w skołach Biełarusu XVI i XVII st. – Wilnia, 1928.
[96] Цьвікевіч А. «Западно–руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. – 2–е выд. – Менск, 1993. – С. 149.
[97] Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. – Вільня, 1934. – С. 9; Станкевіч А.: Хрысьціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы. – Вільня, 1940. – С. 104.
[98] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Львове. Ф. 684. Воп. 1. Спр. 3208. Арк. 4 адв., 9 адв.

Не пазбег супярэчнасцяў ва уніяцкім пытанні найбуйнейшы беларускі гісторык 20-х гадоў **У.І.Пічэта**. З аднаго боку, у захадах ВКЛ па ўнезалежненню сваёй царквы ад Масквы ён бачыць намер "пазбавіць свайго нацыянальнага твару беларускі і ўкраінскі народы", а ў Берасцейскай уніі – езуіцкія козні па адрыву беларусаў ад рускай народнасці, а з другога, называе барацьбу ў абарону праваслаўнай веры і царкоўнаславянскай мовы "кансерватыўна-культурным рухам", адносіць першыя паўнійнае паўстагоддзя да часу нацыянальнага адраджэння[99] і прызнае уніяцкую царкву XIX ст. важным фактарам захавання нацыянальнай мовы[100].

Беларускі акадэмік-рэлігіявед **М.М.Нікольскі**, які першы ў савецкай гістарыяграфіі асвятліў гісторыю царквы ў Расіі з пазіцый марксізму-ленінізму[101], у межах дапушчальнага для гісторыкаў сацыялістычнай арыентацыі навуковага плюралізма 20-х гадоў даў адрозную ад імперскай трактоўку мэтаў, метадаў і наступстваў ліквідацыі уніяцтва – як адзін з прыёмаў каланізацыі і русіфікацыі далучаных тэрыторый. Заклікаючы даследчыкаў не баяцца "ламаць высноў старых аўтарытэтаў, калі навуковыя факты вас да гэтага падводзяць", Нікольскі робіць трапныя, бязлітасныя, часам іранічныя заўвагі наконт скасавання уніі, якія разыходзяцца з ацэнкамі тых аўтарытэтаў (Бантыш-Каменскага, Каяловіча, Шавельскага), па чыіх працах ён вывучаў гэта пытанне.

На аснове класавага падыхода вучоны ўбачыў ва "ўз’яднанні" асвечаную рэлігійнымі сродкамі замену эксплуатацыі польскага ці літоўскага пана ўладай і эксплуатацыяй дваранскай дзяржавы ў асобе рускага чынавенства і панства. У яго працы адзначаецца, што абвешчанае ў 1794 г. пецярбургскім начальствам "паўсюднае жаданне" уніятаў вярнуцца да "благочестия" на самай справе было ім жа абагульненым натуральным фактам просьбаў з некалькіх вёсак Кіеўшчыны, незадоўга да таго гвалтам перавернутых ва уніяцтва. Падкрэсліваецца сумніўнасць, "папяровы" характар поспеху палітыкі аправаслаўлівання уніятаў 1794–1795 гадоў, пасля якой 90 % з 1,5 млн "уз’яднаных" вярнуліся ва уніяцтва.

[99] Пичета В.И. Возрождение Украины–Руси и Белой Руси в XVI – начале XVII в // Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV – XVI вв. – М., 1961. – С. 715–730.
[100] Пичета В.И. Белорусский язык как фактор национально–культурный. – Мн., 1991. – С. 20–21.
[101] Никольский Н.М. История русской церкви. – М.–Л., 1931.



Мікалаеўскі ўрад, паводле М.Нікольскага, улічыў няўдалы вопыт Кацярыны II і прамалінейнаму, праз дэкрэтаванне зверху, праекту Сямашкі аддаў перавагу "ціхім", увасобленым у кананічную форму грэка-усходняй царквы, метадам "уз’яднання" "вопытнага стараценя ўсіх падобных казытлівых спраў" маскоўскага мітрапаліта Філарэта. І хоць за ўрадавай зброяй, гатовай гасіць любое непадпарадкаванне, царкоўныя аднавіцелі адчувалі сябе спакойна, цішыню, аднак, захаваць не ўдалося – апазіцыя скасаванню уніі, палітычная падаплёка якога не выклікае ў Нікольскага ніякага сумневу, выглядае ў яго падачы вельмі ўнушальнай. Акрэсліваецца яе сацыяльная база – беларускае сялянства, духавенства і шляхта[102].

Насычанасць цікавым фактычным матэрыялам і абгрунтаванасць высноў забяспечылі доўгае жыццё працы М.Нікольскага. Аднак у яе перавыданнях 1983 і 1988 гадоў раздзел, прысвечаны Берасцейскай уніі, з яго аб’ектыўнымі, грунтаванымі на фактах, назіраннямі адсутнічаў[103], бо яго палажэнні не ўпісваліся ў агульную афіцыйную канцэпцыю уніі, якая запанавала ў 30-я гады. Шырокі вучоны свет і масавы чытач не павінны былі пра іх ведаць.

**Дз.Даўгяла**[104] і **М.Ільяшэвіч** таксама акцэнтуюць увагу на царскай палітыцы падаўлення уніяцтва як сродку ўмацавання сваёй улады на далучаных беларускіх землях. Апошні прасачыў эвалюцыю палітыкі Кацярыны II і Паўла I адносна уніяцтва – ад няпэўнасці і асцярожнасці, каб выклікаць лаяльнасць у новых паддадзеных, праз рашучае масавае іх пераварочванне ў пануючую веру да пэўнага лібералізму, абумоўленага незадавальненнем мясцовага жыхарства сілавымі метадамі аправаслаўлівання[105].

Першай у славянскай гістарыяграфіі спробай разглядзець Берасцейскую унію ў параўнальна шырокім цэнтральна-усходнееўрапейскім культурным кантэксце стала выдадзеная на Украіне праца **"Нариси з історії культурних рухів на Вкраїні та Білорусі в XVI–XVIII в."** ураджэнца вёскі Лапеніца Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні прафесара **Аляксандра Савіча**, які, асэнсоўваючы айчынную гісторыю, паступова адыходзіў ад пазіцый

[102] Никольский Н.М. История русской церкви. – Мн., 1990. – С. 287–295.
[103] Никольский Н.М. История русской церкви. – 3 изд. – М., 1983.
[104] Даўгяла З. Урадавыя адносіны да уніятаў на Меншчыне ў часы Паўла I // Гістарычна–археалогічны зборнік. – Менск, 1927. – № 1. – С. 131–151.
[105] Ільяшэвіч М. Расейская палітыка на землях былага Беларуска – Літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўлы I (1772–1801). – Вільня, 1933. – С.10–18.

заходнерусізму і схіляўся да нацыянальнай дзяржаўнай канцэпцыі. Гісторык прыйшоў да высновы: галоўным пытаннем, якое стаяла перад беларуска-ўкраінскім грамадствам у другой палове XVI ст., было – трымацца нацыянальнай культуры або падпарадкавацца польскай? Унія 1596 года – гэта арыгінальны спосаб вырашэння дадзенага пытання, свайго роду кампраміс. Базыльянскі ордэн, які на працягу двух стагоддзяў засяроджваў у сваіх руках асвету ва ўкраінскім грамадстве, даследчык лічыў "культурнай сілай"[106]. Пяру А.Савіча таксама належыць грунтоўны артыкул пра беларускія уніяцкія школы, дзейнасць якіх ён, аднак, ацэньвае скептычна[107].

Філалагічныя працы **Я.Ф.Карскага** праліваюць святло на спецыфіку культурна-моўных працэсаў на Беларусі ў XVI–XIX ст. і месца ў іх уніяцкай царквы[108]. Мастацтвазнаўца М.Шчакаціхін прадпрыняў спробу сістэмнага аналізу айчыннага сакральнага мастацтва[109]. Аднак сталінская барацьба з нацдэмаўшчынай на 40 годоў спыніла яго вывучэнне.

Беларускія каталіцкія святары 20–30-х г. бачылі ва уніяцтве ідэю, якая кансалідуе беларускі народ, пазбаўляе яго залежнасці ад іншаканфесійных суседзяў, а па вялікім рахунку, сілу, здольную аб'яднаць Усход і Захад[110]. Адзін з іх – філосаф-паэт **К.Сваяк** лічыў яго найбольш адпаведнай нашаму народу формай хрысціянства і адзінай падставай для ўсебаковага развіцця нацыі з захаваннем усіх яе народных асаблівасцяў[111].

Працамі айчынных гісторыкаў эпохі беларусізацыі і прысланых ім на дапамогу неардынарных расійскіх (У.Пічэта, М.Нікольскі) і ўкраінскіх (А.Савіч) вучоных, а таксама заходнебеларускіх даследчыкаў быў зроблены прынцыповы паварот у вывучэнні уніяцкай праблематыкі. На змену набіўшым за XIX ст. аскоміну, але меўшым плён спекуляцыям вакол этнічнай тоеснасці уніятаў гісторыкаў заходнерускай школы з пачатку XX ст. прыходзіць асцярожная цікавасць да этнакультурнага патэнцыялу уніяцтва, які па-ранейшаму ў цэлым трактуецца адмоўна. У 20-я г. яна змяняецца шчырым зацікаўленнем беларускай нацыянальнай (таксама, як і ўкраінскай) гістарыяграфіі культурна-інтэлектуальнай творчасцю уніяцкай царквы (працы А.Савіча, В.Ластоўскага), хоць дзесяцігоддзем пазней савецкая гістарычная навука з яе атэістычным падыходам, які наогул выключаў рэлігію з паняцця культуры, супрацьпастаўляў любую рэлігію духоўнаму прагрэсу, пераняла ад дарэвалюцыйнай у спадчыну традыцыйную варожасць да уніі.

У 30-я г. на галовы гісторыкаў нацыянальнай арыентацыі пасыпаліся ахінутыя ў навуковыя адзенні палітычныя абвінавачванні. Іх навуковыя выкладкі былі прызнаны шкоднымі для ўмацавання ідэйна-палітычнага адзінства савецкага народа і аддадзены гістарычнай навукай СССР забыццю як не ўяўляючыя навуковай каштоўнасці. Іх кнігі на шмат дзесяцігоддзяў папалі пад забарону, самі яны былі звергнуты з навукова-гістарычнага Алімпу, падвергліся рэпрэсіям або вымушаны былі эміграваць. Уніяцкая праблема стала небяспечнай для даследавання і папоўніла негалосны спіс табуіраваных тэм, якія старанна абыходзілі гісторыкі.

[106] Савич А. Нариси з історії культурних рухів на Вкраїні та Білорусі в XVI – XVIII в. – Київ, 1929. – С. 125, 226, 246.
[107] Савич А. Западнорусские униатские школы // Труды БГУ. – Минск, 1922. – № 2–3.
[108] Карский Е.Ф. Белорусы. – Т. III: Очерки словесности белорусского племени. – Ч. 2: Старая западно–русская письменность. – Петроград, 1921.
[109] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. – Мн., 1993.
[110] Трацяк Я. Царкоўная унія ў ацэнцы беларускіх святароў (20–30 гг. XX ст.) // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. / Пад рэд. Д.У Карава. – Гродна, 1996. – С. 399–403.
[111] Сваяк К. Адраджэньне Беларусі і Унія // Унія. – 1991. – № 1. – С. 14.

# Глава 5

## Фармаванне і ўсталяванe ў 30-80-я гады савецкай канцэпцыі берасцейскага працэса

На змену ўзмоцненай увагі да уніяцтва ўсходнеславянскай гістарыяграфіі апошняй трэці XIX – першай трэці XX ст. прыйшла тэндэнцыя да застою ў вывучэнні праблемы, якую ў 30-80-я гады лічылі неактуальнай, далёкай ад культурных патрэб пралетарыяту, а пасля Вялікай Айчыннай вайны і наогул лічылі за лепшае не акцэнтаваць на ёй увагу. За гэтыя 60 гадоў у Савецкай Беларусі выйшла толькі адна праца аб уніі – папулярна-прапагандысцкая брашура В.Ф.Гапановіча і Л.А.Царанкова "Учарашні і сёняшні дзень уніяцкай царквы"[112].

Гісторыя, рэлігія і культура пасляберасцейскай Беларусі была амаль выключана з поля зроку гісторыкаў. Усялякія сцвярджэнні аб спрыянні уніяцкай царквы культурнаму развіццю беларускага і ўкраінскага народаў абвяшчаліся фальсіфікатарскімі. Паказальна, што прынцыпова варожая да рэлігіі і царквы савецкая гістарыяграфія цалкам унаследавала канфесійны дух старой імперскай школы. Ідэя аб супрацьстаянні на Беларусі "истинной православной" Русі каталіцкаму Захаду, якая зыходзіла яшчэ ад маскоўскай кніжнасці XVI ст., узмоцненая славянафільскай літаратурай XIX ст, была пракарэктавана з марксісцкіх пазіцый – дапоўнена тэзісам аб вырашальнай ролі народных мас у гісторыі і патрабаваннем класавага падыходу. Наступленне каталіцтва і уніі атаесамлівалася з узманеннем прыгонніцтва, барацьба за праваслаўе – з абаронай беларусаў і ўкраінцаў ад росту феадальнага ўціску. Уніяцтва па-ранейшаму звязалася з польскасцю, беларускім і ўкраінскім сепаратызмам, нацыянальна-вызваленчым рухам, ухвалялася царская палітыка ліквідацыі уніяцкай царквы.

Берасцейская унія стала падчаркай беларускай гістарычнай навукі, хоць і закранаалася ў ёй толькі мімаходзь. С.Перцаў назваў яе антыдэмакратычным (накіраваным на ўзмацненне феадальнага

[112] Гапановіч В.Ф., Царанкоў Л.А. Учарашні і сёняшні дзень уніяцкай царквы. – Мн., 1985.



прыгнёту) і антырускім актам, меўшым на мэце "адрыў … мас ад сваёй роднай культуры"[113]. Разглядаючы унію скрозь прызму ўсходнеславянскага адзінства, аўтары небеспадстаўна бачылі ў ёй сілу, якая дыферэнцыравала беларускі народ ад рускага, што, аднак, ёй ставілася ў віну. Сталінізм, а затым застойны перыяд, затрымалі распрацоўку гісторыі уніі ў СССР – надалі ёй аднабаковы характар, ізалявалі савецкіх вучоных ад дасягненняў сусветнага уніязнаўства, практычна выключылі магчымасць выкарыстання замежных крыніц. У гэтым інфармацыйным вакууме запанавалі цытатніцтва і дагматызм.

Антысавецкая пазіцыя зарыентаванай на Ватыкан – сацыяльна-эканамічную, ідэалагічную, рэлігійную антытэзу сацыялістычнай сістэмы – уніяцкай царквы Заходняй Украіны, ліквідаванай там ў 1946 г., і сярод беларуска-ўкраінскай дыяспары абумовіла новы тур яе шальмавання ў 50–80-я г., у чым мела асаблівы поспех украінская гістарыяграфія. Вялікая плеяда гісторыкаў, філосафаў, літаратуразнаўцаў зрабілі сабе імя ў навуцы на выкрыцці антынароднай сутнасці і рэакцыйнай ролі уніяцтва, на доказах яго несумяшчальнасці з народнымі традыцыямі і згубнасці для нацыянальнай культуры. Самі назвы іх кніг гавораць за сябе[114].

Вялікі ўплыў на трактоўку уніі ў беларускай гістарыяграфіі 60-80-х гадоў аказала пазіцыя "заканадаўцы моды" ў тагачаснай навуцы **Л.С.Абецадарскага**, выкладзеная, у прыватнасці, у прапагандысцкай брашуры "У святле неабвержных фактаў" [115]. Ён лічыў Берасцейскую унію "хітрым манеўрам" Ватыкана і магнатаў Рэчы Паспалітай, якім абяцанкамі ўзнагарод і дзяржаўных пасад удалося схіліць да яе за-

[113] Перцаў В. Брэсцкая унія // Беларусь. – 1947. – № 2. – С. 54–56.

[114] Акулов И.Б., Малюк О.П. Современное униатство – оружие антикоммунизма // Научный коммунизм. – 1980. – № 1. – С. 112–119; Анисимов Е.В. Классовая сущность идеологии и практики униатства: Автореф. дис. ... канд. философ. наук: 09.00.02 / Моск. гос. ун–т – М., 1977; Антикомуністична сутність уніатсько–націоналістичної фальсифікації історії украінського народу / За ред. П.Л.Яроцького. – Киів, 1984; Даниленко С.Т. Дорогою ганьби і зради: Історична хроніка. – Киів, 1970; Дмитрук К.Е. Униатские крестоносцы: вчера и сегодня. – М., 1988; Коваленко М. Антинародність уніатства. – Киів, 1979; Маянська Л.І. Критика ідейних основ союзу украінського буржуазного націоналізму і уніатськоі церкви: Дис. ... канд. філософ. наук. – Львів, 1974; Миговіч І.І. Уніатська церква – ворог культурного прогресу. – К., 1982; Похилевич Д. Уніатська церква – ворог украінського народу. – Львів, 1960; Сливка Ю.Ю. Реакційна роль уніі в історіі украінського народу. – Киів, 1967; Шиш А.З. Уніатство, його реакційна політична роль та ідеологія: Дис. ... канд. филос. наук. – Киів, 1960; Uniate Church: forsible establishment, natural failure. – Kiev: Politvidav Ukraini Publishes, 1983.

[115] Абецадарскі Л.С. У святле неабвержных фактаў. – Мн., 1969; Абецедарский Л.С. В свете неопровержимых фактов // Дары данайцев /Сост. И.Н.Осинский. – Мн., 1987. – С. 24–89.

ключэння частку вышэйшага праваслаўнага духавенства, пасля чаго на Беларусі і Украіне ўсталяваўся "рэжым дзікага нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту". Гэты "царкоўны гібрыд з праваслаўнай формай і каталіцкім зместам", на яго думку, паставіў пад пагрозу існаванне беларускай народнасці; і таму лічыць яго "беларускай народнай рэлігіяй", як робяць некаторыя гісторыкі, з′яўляецца "кощунственной клеветой" буржуазных фальсіфікатараў нашай гісторыі.

Канцэпцыя гісторыі уніі, распрацаваная беларускімі вучонымі ў 40 – 80-я г., грунтавалася на нацыянальным нігілізме, некрытычным перайманні шэрагу палажэнняў дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі, вульгарным сацыялагізме. Штучна звужалася цікавасць да уніі, навязваўся комплекс яе няпаўнавартасці. Радавод уніяцкай царквы падаваўся як вынік ідэйных правакацый езуітаў, арганізацыі "польскіх інтрыг", патаемна выношваемых мясцовай іерархіяй намераў татальнага акаталічвання насельніцтва з мэтай знішчэння беларускага і ўкраінскага народаў. Беларускасць звязвалася толькі з праваслаўем, а уніяцтву прыпісвалася роля ганіцеля нацыянальнай культуры, яго набыткі ў духоўнай сферы выстаўлялася як дэфармацыя гэтай культуры. Праваслаўная вера і барацьба за яе падаваліся асноўным рухавіком культурна-гістарычнага працэсу. Выпячваліся яе пакуты пад уніяцкім ярмом, але замоўчвалася, што таксама апынулася ў ціскіх сумежных канфесій. Асуджаючы ўсялякія спробы ВКЛ да царкоўна-рэлігійнай асобнасці, гісторыкі зыходзілі з памылковага тэзіса пра адвечную цягу беларускага і ўкраінскага народа да аб'яднання сваіх зямель вакол Масквы, заплюшчвалі вочы на адрозненні і супярэчнасці культурна-рэлігійнага развіцця ўсходнеславянскіх этнасаў.

Ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры тагачасная гістарыяграфія ў трактоўцы падзей, з'яў і асоб, звязаных з усталяваннем, функцыянаваннем і знішчэннем уніяцтва на Беларусі ўступіла ў недапушчальны разлад з гістарычнай рэчаіснасцю. Сапраўдныя веды падмяняліся прапагандай, паўпраўдай, а таксама замоўчваннямі, ад чаго, аднак, праблема не пераставала існаваць.

Вышэйзгаданая брашура **"Учарашні і сёняшні дзень уніяцкай царквы" В.Ф.Гапановіча і Л.А.Царанкова** – аўтараў, чыіх прац па айчыннай гісторыі феадальнай эпохі навуковым колам невядома, – замацоўвала ў масавай свядомасці састарэлыя пастулаты дарэвалюцыйнай расійскай і савецкай гістарыяграфіі аб гвалтоўным навязванні берасцейскай змовы, своекарыслівых разліках удзелу праваслаўнай іерархіі ў гэтай езуіцка-уніяцкай авантуры, пашыраемай "подкупам, падманам, тэрорам, іншымі бруднымі захадамі"; аб імкненні беларускага і ўкраінскага народаў "узнавіць дзяржаўнае адзінства сваіх захопленых Рэччу Паспалітай земляў з Расіяй, якое ідэалагічна вылівалася ў патрабаванне нацыянальнага і рэлігійнага адзінства з рускім народам; аб схільнасці уніятаў вярнуцца ў праваслаўе пасля 1772 г.; аб самаліквідацыі веры ў 1946 г. і да т.п. Уніяцкае духавенства абвяшчалася "найбольш рэакцыйным і экстрэмісцкі настроеным атрадам апостальскай сталіцы".

Гісторыя уніі, якая перастала быць прадметам спецыяльнага даследавання, растваралася ў 60–80-я г. у гісторыі каталіцкай экспансіі на Беларусі (працы Я.Н.Мараша і В.А.Мацкевіча) або ў гісторыі рускай праваслаўнай царквы (працы М.С.Корзуна). Папулярнай тэмай для распрацоўкі стала антыуніяцкая барацьба, якая падавалася як супраціў этнацыду і разгулу тэрору ў дачыненні да беларусаў (працы А.Ф.Коршунава, А.П.Ігнаценкі, Л.С.Абецадарскага, С.В.Палуцкай, сюжэты ў даследаваннях па гісторыі беларускіх гарадоў З.Ю.Капыскага, А.П.Грыцкевіча, В.І.Мялешкі).

Працы Я.Н.Мараша[116] і В.А.Мацкевіча[117] ўзбагацілі веды аб палітычных і дыпламатычных аспектах дзейнасці рымскай курыі ва Ўсходняй Еўропе. У кантэксце месца, адведзенага Беларусі ва ўсходняй палітыцы папства, яны разглядалі заключэнне уніі як стварэнне Ватыканам на беларуска-ўкраінскіх землях плацдарма для пранікнення ў Маскоўскую дзяржаву.

**Якаў Навумавіч Мараш** вывучаў раней недастаткова ўлічваемыя палітычна-ідэалагічныя, арганізацыйныя, сацыяльна-эканамічныя аспекты каталіцкай экспансіі на Беларусі, з якіх два апошнія ім упершыню спецыяльна даследаваны ў марксісцка-ленінскай савецкай і замежнай ватыканістыцы. У манаграфіі **"Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569-1795)"**

[116] Мараш Я.Н. Роль Ватикана в подготовке и утверждении Брестской унии 1596 г. // Вопросы истории религии и атеизма. – М., 1962. – № 11. – С. 216–238; Мараш Я.Н. Ватикан и Белоруссия: Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии (1569–1795): Автореф. дис. … докт. ист. наук. – Мн., 1968; Мараш Я.Н. Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви. – Мн., 1969; Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). – Мн., 1971; Мараш Я.Н.: Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. – Мн., 1974.

[117] Мацкевич В.А. Россия и папство во второй половине XVI века: Дис. … канд. ист. наук. – Мн., 1969.

[118] прадпрынята спроба раскрыць сацыяльныя і эканамічныя карані уніі (побач з палітычнымі і рэлігійнымі), даказаць, што яе заключэнне было паскорана наспяваннем рэлігійна-палітычнай апазіцыі ў шырокіх масах гарадскога насельніцтва, што часам прыводзіць аўтара да ўзвядзення рэлігійнай барацьбы ў ранг барацьбы класавай. У Берасцейскай уніі ён бачыць сродак кансалідацыі пануючага класа Беларусі і Літвы з польскім панствам перад пагрозай нарастаючых сялянска-плебейскай класавай барацьбы і нацыянальна-вызваленчага руху беларускага і ўкраінскага народаў з мэтай "лепш трымаць у пакоры народныя масы". Прычына схілення праваслаўных іерархаў да уніі таксама тлумачыцца яе імкненнем умацаваць свае пазіцыі ў абстаноўцы абвастрэння класавай барацьбы.

Паводле Я.Н.Мараша, унія, "па разліку яе творцаў, павінна была садзейнічаць падпарадкаванню народных мас польскім уладам і феадалам, адрыву беларусаў і ўкраінцаў ад адзінавернага братняга рускага народа", аб'яднаць палітычна і рэлігійна Беларусь з Польшчай, стаць мастом для падпарадкаавння Ватыкану Рускай дзяржавы. У захаванні уніяцтвам ранейшай абраднасці і славянскай мовы ў набажэнстве даследчык бачыць хітры ход арганізатараў, заклікаы прывабіць да сябе народныя масы.

З працы вынікае, што на этапе падрыхтоўкі уніі Ватыканам і езуітамі выкарыстоўваліся сродкі літаратуры (прапаганда ідэі) і асветы (падрыхтоўка кадраў), з 1596 года – прымус і пагромы. Беларускасць звязваецца толькі з праваслаўем, уніяцтву прыпісваецца роля ганіцеля нацыянальнай культуры.

У **"Очерках истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века"** [119] падкрэсліваецца грэблівае стаўленне каталіцкіх прэлатаў да уніяцкай царквы і духавенства, бо бачылі ў сваім дзецішчы з'яву толькі часовую, але патрэбную для поўнага трыумфа каталіцызма на беларускіх землях. Аўтар слушна зазначыў значныя поспехі уніі на Беларусі ў 70-я гады XVII – сярэдзіне XVIII ст., што пацвердзіў унікальнымі, ім жа уведзенымі ў навуковае абарачэнне, статыстычнымі дадзенымі з Нацыянальнага гістарычнага архіва Літвы ў Вільнюсе. Паводле іх, у 1790 г. у беларускіх паветах

[118] Роль Ватикана в подготовке и утверждении Брестской унии // Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). – Мн., 1971. – С. 54–100.
[119] Дальнейшее наступление унии // Мараш Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. – Мн., 1974. – С. 221–232.



ВКЛ у іх тагачасных межах было 16 кальвінісцкіх, 143 праваслаўных, 183 каталіцкіх і 1999 (з іх 201 – у гарадах, астатнія – у вясковай мясцовасці) уніяцкіх прыходаў. Але гэтыя відавочныя поспехі гісторык лічыць толькі вонкавым трыумфам уніі і тлумачыць іх захадамі дзяржаўнай улады і падтрымкай магнатаў і шляхты. Адчуваючы, што толькі вонкавых фактараў недастаткова ў тлумачэнні гэткага канфесійнага раскладу, гісторык дастаткова абцякальна заўважае: "Нельга сцвярджаць, што народныя масы Беларусі аказалі поўную падтрымку уніі".

З аднаго боку, вучоны канстатуе значныя поспехі уніяцкай царквы ў другой палове XVIII ст., але, з другога, прызнае, што народ застаўся верным сваёй мове, культуры і народнасці. Невыкананне ёй прыпісваемай ёй місіі як пераходнага маста ў каталіцызм ён тлумачыць двума фактарамі: злучэннем Беларусі з Расіяй і ўпартым супрацівам народных мас, якія бачылі ў ёй шлях да закабалення. У той жа час адзначаецца няшчырасць расійскага ўрада, які ў пошуках падстаў для ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, учапіўся за абарону беларусаў ад рэлігійнага ўціску.

Услед за сваім настаўнікам **С.В.Палуцкая** ў пачатку 80-х гадоў разглядала заключэнне і распаўсюджанне Берасцейскай уніі як звяно контррэфармацыі, а тую, у сваю чаргу, – як сістэму рэпрэсіўных мер. У гэтым кантэксце антыуніяцкая барацьба падавалася як супраціў палітыцы рэпрэсій у нацыянальна-рэлігійнай сферы[120].

У аглядзе амаль тысячагадовай службы рускай праваслаўнай царквы эксплуататарскім класам, прадпрынятым **М.С.Корзунам**[121], адведзена пэўнае месца і для ўкаранёнага, паводле аўтара, у свядомасць людзей уніяцтва. За лозунгам вяртання уніятаў у праваслаўе ён бачыць прыкрыццё клопату царскага ўрада "аб асвячэнні няроўнапраўнага становішча нярускіх народаў і іх эксплуатацыі рускімі дваранамі і чыноўнікамі". Згадваецца стаўшая класічнай характарыстыка, дадзеная вядомым рускім дэмакратам А.І.Герцэнам, эпохі 1840-1850-х гадоў, як таго "душеспасительного времени, когда Николай с благочестивым свирепством всекал униат в православие". З

[120] Полуцкая С.В. Брестская церковная уния 1596 года и борьба народных масс Белоруссии против национально–религиозного гнёта (1596–1667 гг.): Дис. … канд. ист. наук / Бел. Гос. Ун–т. – Мн., 1983.
[121] Корзун М.С. Русская православная церковь на службе эксплуататорских классов. X век – 1917 год. – Мн., 1984; Корзун М.С. Русская православная церковь: деятельность и мировоззрение (X век – 1988 год): Автореф. дис. ... д-ра. ист. наук / Бел. гос. ун–т. – Мн., 1993.

гэтай нагоды варта адзначыць: калі ў навуковых даследаваннях 30-80-х гадоў часам прабіваліся цікавыя прызнанні і неардынарныя ацэнкі Берасцейскай уніі, то ў разлічанай на масавага чытача літаратуры (падручнікі, вучэбныя дапаможікі, папулярныя публікацыі) гэтыя далікатныя тонкасці абыходзіліся маўчаннем.

Даследуемая літаратуразнаўцам **А.Ф.Коршунавым** постаць пісьменніка-палеміста, барацьбіта за праваслаўную веру і аб'яднанне беларускага народа з рускім, праціўніка царкоўнай уніі Афанасія Філіповіча[122] выклікала абвостраную цікавасць яшчэ ў расійскіх царкоўных колах. Аднак, на думку М.М.Улашчыка, ніхто яшчэ ў такой меры не ўслаўляў і не гераізаваў гэтага дзеяча, як гэта зрабіў Коршунаў, у падачы якога уніяты, адпаведна, выглядаюць зацятымі нягоднікамі і ворагамі свайго народа.

Уніяцкія, а дакладней, антыуніяцкія сюжэты праходзяць праз даследаванні па гісторыі беларускіх гарадоў З.Ю.Капыскага[123], А.П.Грыцкевіча[124], В.І.Мялешкі[125]. Адносна шмат пісалася тады пра манастырскае землеўладанне і пра рознага рода антыуніяцкія выступленні. У духу тагачаснай гістарыяграфічнай традыцыі А.П.Ігнаценка[126] і Л.С.Абецадарскі[127] атаесамлівалі ўвесь антыуніяцкі рух з барацьбой за далучэнне Беларусі да Расіі.

У той самы час у гістарыяграфіі 60-х гадоў з'явілася новая тэндэнцыя – традыцыю замоўчвання і дыскрэдытацыі пачынаюць парушаць асцярожная цікавасць да уніі і яе дзеячаў, а таксама "крамольныя "думкі, якія не толькі разыходзіліся з устаялай акадэмічнай канцэпцыяй, але і ёй супярэчылі. У 70 – 80-я гады гэта тэндэнцыя ўзмацняецца. У 1965 г. у рэцэнзіі на кнігу А.Коршунава "Афанасий Филиппович: Жизнь и творчество" кінуў выклік усталяваным поглядам **М.Прашковіч**, які даследаваў таксама пачаткі кнігадрукавання

[122] Коршунов А. Афанасий Филиппович: Жизнь и творчество. – Мн., 1965.

[123] Копысский З.Ю. Социально–политическое развитие городов Белоруссии в ХУІ – первой половине XVII в. – Мн., 1975.

[124] Грицкевич А.П. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI–XVIII вв.). – Мн., 1979.

[125] Борьба горожан против унии и католической экспансии // Мелешко В.И. Могилев в XVI – середине XVII в. – Мн., 1988. – С. 214–225.

[126] Игнатенко А.П. Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII – XVIII вв.). – Мн., 1974.

[127] Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия XVI–XVII вв.: Очерки русско–белорусских связей второй половины XVI–XVII вв. / Под ред. З.Ю.Копысского. – Мн., 1978.



на карысць уніяцкай царквы[128]. Увагу **У.Г.Кароткага**[129] і **А.С.Пракошынай**[130] выклікала неардынарная супярэчлівая постаць М.Сматрыцкага, **Г.А.Каханоўскага**[131], а таксама Л.В.Аляксеева з Масквы[132] – асоба базыльянскага архімандрыта і першага беларускага гісторыка І.Кульчынскага. **М.М.Улашчык** выказваў меркаванне аб датычнасці уніяцкай царквы да беларускага летапісання[133], канстатаваў: "Наколькі шмат высунула навуковых дзеячаў вясковае уніяцкае духавенства, настолькі беднымі засталіся праваслаўныя, хаця ўмовы для іх былі несуразмерна больш спрыяльныя"[134]. **А.П.Грыцкевіч** даказаў факт дамінацыі уніятаў у канфесійнай структуры насельніцтва Беларусі ў канцы XVIII ст. і асуджаў кацярынінскую палітыку адносна іх[135]. **Л.С.Лыкошына** даследавала прычыны, формы і наступствы ўдзелу уніяцкага духавенства ў паўстанні 1830 – 1831 г.[136].

Аднак манаполія на навуковую ісціну не дазваляла адыходзіць ад агульнапрынятага канона. Усялякія спробы пераглядзець ацэнку уніі ў бок яе рэабілітацыі асуджаліся. За "нацыяналістычныя" погляды быў звольнены з працы і закончыў жыццё самаспаленнем М.Прашковіч. Я.Н.Мараш, які ў сваім доктарскім аўтарэфераце даказваў існаванне рэальных гістарычных умоў для распаўсюджвання ў

[128] Прашковіч М. Слова пра Афанасія Філіповіча // Полымя. – 1965. – № 12. – С.174–177; Прашковіч М.І. Культурна–асветніцкая роля друкарні Мамонічаў // 450 год беларускага кнігадрукавання / Рэд. К.К.Атраховіч і інш. – Мн., 1968. – С. 155–169

[129] Короткий В.Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. – Мн., 1987; Короткий В.Г. Проблемы культуры и веры в творчестве М.Смотрицкого // Христианизация Руси и белорусская культура. – Мн., 1988 [машинопись]. – С.231–238.

[130] Прокошина Е.С. Мелетий Смотрицкий. – Мн., 1966; яе ж: Гуманистические идеи в полемической литературе первой половины XVII в. // Идеи гуманизма в общественно – политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). – Мн., 1977. – С. 83–87.

[131] Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX ст. – Мн., 1984. – С. 17, 98.

[132] Алексеев Л.В. Игнатий Кульчинский – первый исследователь белорусских древностей // Древности славян и Руси. – М., 1988. – С.100–105.

[133] Полное собрание русских летописей. – М.: Наука, 1975. – Т. 32. Хроники: Литовская и Жемойтская, Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного. – С. 13.

[134] Улашчык М.М. Хроніка // Скарыніч: Літ.–навук. гадавік / Уклад. А.Каўка. –Мн., 1991. – Вып. 1. – С. 121.

[135] Грыцкевіч А.П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. – 1973. – № 6. – С.62–71.

[136] Лыкошина Л.С. Католическое и униатское духовенство королевства Польского и западных губерний России и польское восстание 1830–1831 годов: Дис. … канд. ист. наук / МГУ им. М.В.Ломоносова. – М., 1981.

XVII–XVIII ст. уніяцкай царквы на Беларусі, змог абараніць сваю навуковую годнасць толькі праз 4 гады, пасля выдання двух манаграфій і выкладання гісторыі уніяцтва ў новым аўтарэферацe паводле афіцыйнай версіі. Была пушчана пад нож частка наклада гісторыка-публіцыстычнай кнігі К.Тарасава "Память о легендах: Белорусской истории голоса и лица", які, адступіўшы ад прынятых стэрэатыпаў, выказаў думку, што сама ідэя уніі несла ў сабе добры змест[137]. За выяўленыя факты і іх трактоўку падвергся крытыцы В.П.Грыцкевіч.

У даследаванні ў 60–80-я г. Берасцейскай царкоўнай уніі гісторыкі, з аднаго боку, і філосафы, літаратура-, мастацтва-, кнігазнаўцы, з другога, нібы ішлі паралельнымі, а часам і ўзаемавыключнымі шляхамі. У той час, як першыя ў большасці сваёй працягвалі адмаўляць за уніяцтвам якісьці станоўчы ўклад у беларускую культуру, другія пачалі даследаваць ў межах гісторыі нацыянальнай культуры яе амаль нераспрацаваную уніяцкую частку, паказваючы, такім чынам, удзел уніяцкай царквы ў культуратворчых працэсах XVII–XVIII ст. Мастацтвазнаўцы **Э.Вецер**[138], **Н.Высоцкая**[139], **Ю.Хадыка**[140] расшуквалі, сістэматызавалі і апісвалі уніяцкія абразы, **А.Лявонава**[141] вывучала скульптуру, **А.Кулагін**[142] і **У.Дзянісаў**[143] – храмабудаўніцтва, **В.Шматаў**[144], **Ю.Лабынцаў** – кніжную культуру уніяцкай царквы. Пэўная ўвага была ўдзелена і уніяцкай сістэме асветы[145].

[137] Тарасов К. Память о легендах: Белорусской истории голоса и лица. – Мн., 1984.
[138] Вецер Э.І. Асаблівасці жывапісу столінскага рэгіёна // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці / Рэд. С.В.Марцэлеў. – Мн., 1985. – С. 39–44; Вецер Э.І.: Рэльефныя абразы як прыклад адлюстравання народных густаў у культавым мастацтве // Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці / Рэд. С.В.Марцэлеў. – Мн., 1984. – С. 37–43.
[139] Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў / Склад. Н.Ф.Высоцкая. – Мн., 1992.
[140] Хадыка Ю.В. Аб датаванні групы помнікаў канца XVI – пачатку XVII ст. // Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці / Рэд. С.В.Марцэлеў. – Мн., 1984. – С. 30–37.
[141] Лявонава А.К. Скульптурныя надмагіллі канца XVI – першай палавіны XVII ст. // Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці / Рэд. С.В.Марцэлеў. – Мн., 1984. – С. 60–65; Лявонава А.К. Лявонава А.К. Старажытная беларуская скульптура. – Мн., 1991.
[142] Кулагін А.М. Архітэктура ракако ў Беларусі // Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці / Рэд. С.В.Марцэлеў. – Мн., 1984. – С. 112–118; Кулагин А.Н. Архитектура и искусство рококо в Белоруссии: В контексте общеевропейской культуры. – Мн., 1989.
[143] Дзянісаў У.М. Комплекс базыльянскіх манастыроў у Мінску // Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці / Рэд. С.В.Марцэлеў. – Мн., 1984. – С. 118–126.
[144] Шматаў В.Ф. Гравюры Лявонція Тарасевіча // Книга, библиотечное дело и библиография в Белорусии: Сб. ст. / Рэд. кал.: Г.Я.Голенченко и др. – Мн., 1974. – С. 264–273; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI – XVIII ст. – Мн., 1984.
[145] Асвета і педагагічная думка Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. / Пад рэд. М.А.Лазарука і інш. – Мн., 1985.



Шмат новага для разумення культурна-рэлігійных працэсаў на беларускіх землях у канцы XVI – XVII ст. далі працы 70-80-х гадоў філосафаў **С.А.Падокшына**[146], **У.М.Конана**[147], гісторыка культуры **Г.Я.Галенчанкі**[148], філолага **А.І.Мальдзіса** і інш.

Прызнана, што заключэнне Берасцейскай уніі карэнным чынам змяніла культурна-рэлігійную сітуацыю на беларускіх землях: актывізуюцца грамадска-палітычнае жыццё і ідэйная барацьба, развіццё асветы і кнігадрукавання. На гэтай ніве ўзыходзяць новыя буйныя імёны. Больш шырокі размах набывае літаратурны рух. 1596 год стаў трамплінам для новага і надзвычай плённага этапу ў развіцці літаратуры, выклікаў узлёт перакладчыцкай дзейнасці са старaславянскай мовы на "простую".

Культурны выбух на Беларусі ў сувязі з падрыхтоўкай і заключэннем уніі – неаспрэчны на сённяшні дзень факт. Дыскутуюцца яго пабуджальныя матывы: увядзенне уніі ці адпор ёй? Прызнанне, з аднаго боку, уніі прычынай і пачаткам заняпаду нацыянальнай культуры, а з другога, – фактарам культурнага ажыўлення, літаратурнага ўздыму нярэдка ставіць даследчыкаў у тупік. Паводле Ю.А.Лабынцава, старажытная спадчына, старабеларускія традыцыі працягвалі жыць ва уніяцкай царкве. Культурны арсенал старажытнай Русі, па яго словах, пасля 1596 г. стаўся "захоплены адразу двума супраціўнымі бакамі, кожны з якіх лічыў сябе паўнапраўным, а з боку праваслаўных – і адзіным спадкаёмцам" [149].

Як паказалі даследаванні **Г.Я.Галенчанкі**, уніяцкая царква садзейнічала рэцэпцыі пэўных форм польскай і заходнееўрапейскай культуры, распаўсюджванню на Беларусі, Украіне ў Літве новых культурных уплываў, якія ўступалі ў складанае ўзаемадзеянне з мясцовымі культурна-гістарычнымі традыцыямі. У той жа час яна спрыяла дэзінтэграцыі ранейшай этнакультурнай супольнасці беларускага народа[150].

[146] Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVII в.) – Мн., 1970.
[147] Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли Белоруссии в XVI–XVIII вв. – Мн., 1978.
[148] Голенченко Г.Я. Литературная полемика XVI – первой половины XVII вв. // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. – Мн., 1972. – Вып. 2 – С. 164–199; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI – середине XVII в. – Мн., 1989.
[149] Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам: Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу. – Мн., 1990. – С. 96.
[150] Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI – середине XVII в. – Мн., 1989. – С. 211.

Даследуючы станаўленне ў эпоху Адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, у якой на мяжы XVI – XVII ст. дамінуючым становіца рэлігійны кампанент, **С.А.Падокшын** адзначае, што яна ўзнікае перш за ўсё ў асяроддзі прагрэсіўна настроеных, сацыяльна развітых і адукаваных слаёў гараджан, шляхты, духавенства, якія імкнуцца да аздараўлення і абнаўлення грамадскага жыцця, культывавання ў ім нацыянальных форм. Уніяцкіх дзеячаў вучоны выключае са складу патрыятычных сіл, якія абараняюць нацыянальна-культурны і палітычны суверэнітэт беларускага народа, прызнаючы гэты гонар толькі за праваслаўнымі. Ён асуджае як ахоўна-кансерватыўную палітыку праваслаўнай царквы духоўнай ізаляцыі ад Захаду, так і рэакцыйна-антыпатрыятычную пазіцыю палітычнай і рэлігійна-ідэалагічнай капітуляцыі перад ім, нацыянальна-культурнага растварэння, якой, на яго думку, прытрымліваліся прыхільнікі царкоўнай згоды. Адзіна правільным ён лічыць трэці шлях: не канфрантацыі і не капітуляцыі, а раўнапраўны, свабодны, узаемавыгадны духоўна-культурны дыялог, прапанаваны ідэолагамі айчыннай рэнесансна-гуманістычнай думкі[151].

Папярэднюю гістарыяграфічную традыцыю, якая сцвярджала, што з закрыццём праваслаўных друкарань беларускае кнігадрукаванне спыняецца, аспрэчыў зводны каталог кірылічных кніг Беларусі за 1517-1917 гады, які канстатаваў, што беларускія друкарні XVI – VIII ст. прытрымліваліся рознай канфесійнай і культурнай арыентацыі. У часы заняпаду беларускага кірылічнага друку, які наступае з другой паловы XVII ст., апошні развіваецца галоўным чынам ва уніяцкіх асяродках – з 384 такіх выданняў, што выйшлі на тэрыторыі Беларусі і па-за яе межамі на працягу XVI–XVIII ст., 147 (г. зн. каля 40 %) выдадзены ў Троіцкай базыльянскай друкарні ў Вільні, якая з перапынкамі працавала ў 1628–1800 гадах, і Супраслі (1690-я гады – канец XVIII ст.)[152].

Упершыню за савецкі час прадметам спецыяльнага даследавання стаў буйнейшы уніяцкі асяродак – Супрасль, які да таго ж паказаны **Ю.Лабынцавым** як беларускі культурна-асветны цэнтр. Аўтар параўноўвае Супрасльскі кляштар з гонарам рускай культуры – Салавецкім манастыром і Троіца-Сергіевай лаўрай[153].

[151] Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. – Мн., 1990. – С. 260.
[152] Кніга Беларусі. 1517-1917: Зводны каталог / Склад. Г.Я.Галенчанка і інш. – Мн., 1986. – С. 18–19.



Цікавыя прызнанні сталі прабівацца праз гнеўны паток антыуніяцкіх выпадаў гісторыка-літаратурных прац 60 – 80-х г.: аб наследаванні дзеячамі брацкага руху ў барацьбе за гегемонію ў духоўным жыцці народа уніяцкім калегам у выкарыстанні гутарковай мовы народа ў царкве; аб высокамастацкіх вартасцях уніяцкіх твораў М.Сматрыцкага, якія не саступалі славутаму "Фрынасу"[154].

Закляймоўваючы уніяцтва як "вельмі зручную форму паланізацыі беларусаў", **С.К.Майхровіч** прыводзіць факты супраціву "прагрэсіўнай грамадскасці Беларусі" дэнацыяналізатарскай палітыцы Рэчы Паспалітай. Але тут жа фактамі падточвае сваю канцэпцыю, бо гэтымі супраціўленцамі ў двух прыкладах называе … тых ж "уніяцкіх паланізатараў", якія выдалі ў 1722 г. у Супраслі "Лексікон" на аснове слоўніка "славенороссокой" мовы П.Бярынды і якія пераклалі з польскай на высокадасканалую беларускую мову і ў 1726 г. надрукавалі ў тым жа Супраслі "Календар або месяцеслов хрэсціянскі"[155].

У застойны перыяд абвяржэнню ўсталяванага стэрэатыпа аб Беларусі другой паловы XVII–XVIII ст. – часе дамінацыі уніяцтва – як перапынку ў развіцці культуры спрыялі працы **А.І.Мальдзіса**, у якіх ён падаваў шматлікія факты тэатральнай, кнігадрукарскай, літаратурнай дзейнасці ва уніяцкім асроддзі; падкрэсліваў, што духавенства гэтай канфесіі ў большай ступені, чым каталіцкае і праваслаўнае, заставалася носьбітам беларускай мовы[156].

[153] Лабынцев Ю.А. Кирилловское книгопечатание в Супрасле и его роль в развитии восточнославянских культур XVII – XVIII веков: Автореф. дис. … канд. филол. наук: 05.25.04 / Гос. б–ка СССР им. В.И.Ленина. – М., 1980; Лабынцев Ю.А.: Первый славяно–польский печатный «Лексикон» (1722) и его переиздания // Русско–польские связи в области книжного дела. Актуальные проблемы книговедения. – М., 1980. – С. 35–44; Лабынцев Ю.А.: Некоторые вопросы кирилловского книгопечатания в Супрасле // Федоровские чтения. – М., 1981. – С. 168–179.
[154] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. – Мн., 1968. – Т. 1. – С. 324, 328.
[155] Майхровіч С.К. Нарысы гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV–XVIII ст. – Мн., 1980. – С. 142, 207.
[156] Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі // Книга, библиотечное дело и библиография в Белорусии: Сб. ст. / Рэд. кал.: Г.Я.Голенченко и др. – Мн., 1974. – С. 130–150; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII – XVIII ст.). – Мн., 1980; Мальдзіс А.І. Арганізацыя пастановак і рэпертуар школьных тэатраў // Гісторыя беларускага тэатра: У 3 т. – Т. 1: Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г. / Рэд. Г.І.Барышаў і інш. – Мн., 1983. – С. 130–144; Мальдис А.И. Жи-

Аўтары першага абагульняльнага даследавання развіцця беларускага этнасу слушна адзначылі памылковасць тэзіса аб тым, што беларусы заўсёды ўяўлялі сабой выключна праваслаўную этнаканфесійную супольнасць, які значна звужае сапраўдны этнічны масіў народа. У XVIII ст. яго асноўны этнічны масіў трымаўся ўжо не праваслаўнай, а уніяцкай веры[157].

Такім чынам, роля уніяцтва ўяўлялася айчыннай гістарыяграфіяй, культуралогіяй, мастацтва-, мова- і літаратуразнаўствам напярэдадні і ў пачатку перабудовы вельмі супярэчлівай. І хоць падазронасць і насцярожанасць у стаўленні да яго не былі пераадолены, але "кананічная" версія аб пасляберасцейскай Беларусі як інтэлектуальнай пустэчы і антракце ў культурным працэсе была пастаўлена пад сумнеў.

ровичи как центр литературной жизни // Христианизация Руси и белорусская культура. – Мн., 1988 [машинопись]. – С. 261–272.

157 Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя / В.К.Бандарчык, І.У.Чаквін, І.Г.Углік і інш. – Мн., 1985. – С. 132, 138, 147, 149.



# Глава 6

## Берасцейская унія ў ацэнцы прадстаўнікоў беларускай дыяспары

З сярэдзіны XX ст. Берасцейскай уніі стала прадметам цікавасці беларускіх эміграцкіх даследчыкаў, сярод якіх таксама адбылася палярызацыя бачання яе ролі ў лёсе сваіх народаў, і дзеячаў грэкакаталіцкай царквы. На глебе адносін да уніі як да асімілятарскага або этнаахоўнага фактара айчыннай гісторыі адбылося нават раз’яднанне беларускай эміграцыі[158].

Вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі **Я.Найдзюк** бачыць ва уніяцтве дзве плыні. Першую прадстаўлялі езуіты, польскае каталіцкае духавенства, якія разглядалі яго як мост для пераходу ў каталіцызм і ніколі не трактавалі як самастойнае і раўнапраўнае веравызнанне. Чым болей набіралася яно беларускага характару, тым больш варожа ставіўся да яго касцёл. Прадстаўнікі другой плыні – "найлепшыя патрыёты краю", разумеючы вялікую ролю рэлігіі "ў нацыянальным вырабленні народу", хацелі з дапамогай уніі пераадолець рэлігійны раскол у народзе і стварыць беларускую нацыянальную царкву, чаму спрыяла замыканне яе, непрызнанай польскім каталіцкім духавенствам, ва ўласным коле.

З падачы Я.Найдзюка, рэлігійная палеміка была шкоднай з’явай у беларускім культурным жыцці, бо, па-першае, падзяліла народ на варожыя рэлігійныя табары, "якія штораз больш забываліся на сваю супольную нацыянальнасць". Па-другое, гэтая "бясплодная" літаратура адцягвала інтэлігенцыю ад сапраўднай творчасці, накіроўваючы яе на шлях тэарэтычных схаластычных спрэчак[159].

У сваёй трактоўцы уніі **Іван Касяк**[160], а таксама былы віцебска-полацкі епіскап **Афанасій Мартас**[161] выходзілі з таго, што адзіна

158 Astrouski V. Polski unijacki kaściol dla Biełarusau, abo «Ubrał się diabeł w komże i ogonem na mszą dzwoni». – London, 1966.

159 Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. – Мн., 1993. – С. 69–70, 76.

160 Касяк І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народа. – Нью-Ёрк, 1956.

161 Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни: Репринт. – Буэнос–Айрес, 1966. – Мн., 1990.

праўдзівая для беларускага народа – праваслаўная царква, хаця першы бачыў ва уніяцтве праваслаўныя традыцыі, элементы беларускасці і яго няпольскі характар. Не пазбег супярэчнасцяў у поглядзе на гісторыю уніі А.Мартас. Ён сцвярджае, што ўжо Замойскі сабор знішчыў сляды "схізмы" ў царкве, а паралельна канстатуе асаблівую яе лацінізацыю з канца XVIII ст., з чым, як справядліва адзначана, вялі барацьбу мітрапаліт І.Лісоўскі і полацкі архіепіскап І.Красоўскі. Вяртанне Лісоўскім царквы да свах першаасноў (усталяванне іканастасаў, выкараненне лацінскіхнаваўвядзенняў і г.д.), як слушна заўважае даследчык, рабілася з мэтай перашкодзіць, а не паспрыяць аправаслаўліванню уніятаў. Можна прыняць тэзіс А.Мартаса аб спаланізаванасці духавенства на апошнім этапе існавання уніяцтва, чаго нельга сказаць адносна яго ацэнкі ступені апалячанасці народа. Ды й сам гісторык прызнае, што вёска, уніяцкая ў аснове, захавала сваё нацыянальнае аблічча. Яго праца не дае тлумачэння, чаму ліквідацыя веры, якая, паводле Мартаса, прынесла нашаму народу толькі гора і бяду, была яму чужая, выклікала значны супраціў з боку гэтага народа.

Звяртае на сябе ўвагу, што беларускія і ўкраінскія эмігранцкія царкоўныя гісторыкі ідэалізавалі свае нацыянальныя цэрквы, у той час як гісторыкі СССР – расійскую праваслаўную царкву ў жыцці ўсходнеславянскіх народаў, але ўсе яны былі адзіныя ў прызнанні перавагі праваслаўя над іншымі адгалінаваннямі хрысціянства.

Выразна акрэсленая канфесійная заангажаванасць уласціва гістарычнаму нарысу прадстаўніка беларускай дыяспары ў Беластоку **Міколы Гайдука**, прысвечанаму паходжанню і наступствам Берасцейскай уніі[162], у якой ён схільны бачыць інспіраваную Рымам "сатанінскую спакусу", коранем усіх бед хрысціянства. Уласна кажучы, гэта нават не нарыс гісторыі уніі, названай аўтарам "агрэсіўным трэцім спавяданнем", але гіпербалізаваная гісторыя уніяцка-каталіцкага тэрора, пакут і барацьбы праваслаўнай царквы пад уніяцка-каталіцкім ярмом.

Выхваляючыся сваёй духоўнай і культурнай перавагай перад аслабленай к канцу XVI ст. хітрай дзяржаўнай палітыкай беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквой, на чале якой былі пастаўлены яе злейшыя ворагі, каталіцкія колы Польшчы і ВКЛ праніклiся неабходнасцю "ашчасліваць схізматыкаў". Адступаючы ад праваслаўя,

[162] Гайдук Н. Брестская уния 1596 года. – Мн., 1996.



інтэлектуальная эліта таго часу, паводле сцвярджэння М.Гайдука, "духоўна выраджалася".

Побач з фактычнымі недакладнасцямі (аб страце Рэччу Паспалітай значнай часткі беларускіх зямель на карысць Маскоўскай дзяржавы ў вайне сярэдзіны XVII ст.), недагаворкамі (аб прычынах пераходу ва уніяцтва на мяжы XVII–XVIII ст. трох епархій), спрошчанымі трактоўкамі неадназначных з'яў (адносін Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі да Маскоўскага патрыярхата), штучным прыцягваннем уніятаў да тых бед, да якіх яны недатычныя (напрыклад, сумнавядомай пастановы 1697 года аб увядзенні польскай мовы ў справаводства), і іншымі нацяжкамі (нібы каля 1,5 млн беларускіх уніятаў перайшло ў праваслаўе ў жніўні 1794 – верасні 1795 года – на самай справе, гэта колькасць паравернутых на Украіне) у нарысе М.Гайдука сустракаецца шэраг трапных назіранняў. Да апошніх адносіцца палажэнне аб "самастойніцкіх" настроях ва уніяцкім асяроддзі і праціўніках лацінізацыі уніі, прадстаўленых на апошнім этапе яе гісторыі мітрапалітамі І.Лісоўскім, І.Красоўскім, І.Булгакам, якія вялі царкву па шляху адыхода ад каталіцкай і вяртання да праваслаўнай традыцыі богаслужэння на царкоўнаславянскай, а таксама беларускай і ўкраінскай мовах.

М.Гайдук робіць таксама цікавае прызнанне пра абуджэнне уніяй нацыянальнай самасвядомасці ў яе адукаваных колах – сярод маладых святароў, гімназістаў, акадэмічнай моладзі, настаўнікаў прыходскіх школ, прафесараў Віленскага універсэтэта, якія намагаліся зрабіць яе нацыянальным спавяданнем. "Закваскай" гэтага руху былі таленавітыя, але бедныя сыны правінцыйных святароў – "паповічы"–амбітныя прафесары Міхайла Баброўскі і Ігнат Даніловіч, а таксама І.Анацэвіч, І.Ярашэвіч і А.Сасноўскі. Фактычна аўтар прызнае наяўнасць моцнай нацыянальнай плыні ва уніяцтве. І гэта пасля двух стагоддзяў яго разбуральнай, асімілятарскай дзейнасці на Беларусі!

Прызнае аўтар і моцны рух у абарону уніі, які разгортваўся сярод базыльян, магнатаў, шляхты, гараджан і немалой часткі духавенства, многія з якіх бачылі ў забароне уніі не вяртанне да веры бацькоў, а навязванне чужой па мове і абраднасці "маскоўскай веры". Што да простага народа, то, паводле М.Гайдука, ён абараняў унію не свядома, але вышэйпералічаныя сілы "падбухторвалі цёмны натоўп да выступленняў".

Альтэрнатыўную трактоўку уніі, са сваім разуменнем культурна-гістарычнай спецыфікі Беларусі, з перакананнем, што менавіта уніяцкая царква адстойвала інтарэсы свайго народа, абараняла і захоўвала нацыянальныя традыцыі, з раскрыццём яе драматызму ў польска-расійскіх абцугах і інш. і з ідэалізацыяй беларускага вопыту ўвядзення уніі, далі Л.Гарошка, В.Пануцэвіч, А.Надсан і інш. Пануючы ў савецкай гістарыяграфіі стэрэатып уніі развенчваў П.Урбан[163].

Шэраг раздзелаў прысвяціў усходнекаталіцкай царкве ў сваёй працы **"Пад знакам "рускае і польскае веры",** надрукаванай у эміграцкім часопісе "Божым шляхам" за 1954-1955 г. і прысвечанай крывадушнай палітыцы польскага касцёла і расійскай праваслаўнай царквы на Беларусі, буйны рэлігійны дзеяч, апостальскі візітатар для грэка-католікаў Заходняй Еўропы **Леў Гарошка**[164].

Ніводная старонка гісторыі Беларусі ў цэлым і гісторыя царквы, у прыватнасці, як адзначае аўтар, не была так тэндэнцыйна асветлена і перакручана гісторыкамі суседніх народаў, як гісторыя каталіцызму ўсходняга абраду (уніяцтва). Гэта ён тлумачыць тым, што нічога так не супярэчыла "рускай", з аднаго боку, і "польскай веры", з другога, як унія. Яна, паводле Л.Гарошкі, не была выпадковай, накінутай з’явай, але жыццёвай неабходнасцю і "творам саміх беларусаў і ўкраінцаў". Яны спадзяваліся, што унія "можа прынесці сапраўднае адраджэньне для беларускага рэлігійнага жыцця і захаванне яго своеасаблівых нацыянальных формаў", над якімі ў другой палове XVI ст. навісла пагроза (паланізацыя праз пратэстантызм і дзейнасць езуітаў, намаганні створанага ў 1589 г. Маскоўскага патрыярхата падпарадкаваць Кіеўскую мітраполію і інш.), і стрымаць масавую хвалю паланізацыі на Беларусі.

Паводле сцвярджэння Л.Гарошкі, вырашальную ролю ў аб’яднанні цэркваў адыгралі беларускія рэлігійныя і дзяржаўныя дзеячы, у прыватнасці, гарачы патрыёт і абаронца правоў ВКЛ Леў Сапега, які б, безумоўна, рашуча супрацівіўся, калі б убачыў якую небяспеку ці шкоду для Беларусі ад прыняцця уніі. Кароль Жыгімонт Ваза, дарэчы, швед па паходжанні, у тых падзеях рэпрэзентаваў дзяржаўныя інтарэсы кожнага з народаў Рэчы Паспалітай.

[163] Урбан П. У сьвятле гістарычных фактаў. – Мюнхэн – Нью–Ёрк, 1972.
[164] Гарошка Л. Пад знакам "рускае і польскае веры" // Спадчына. – 1999. – № 5-6; 2000. – № 1.



Польскія ж дзяржаўныя і рэлігійныя кіраўнікі, паводле назіранняў даследчыка, да уніі былі настроены варожа і рабілі ўсё ад іх залежнае, каб яе гнобіць і нават зусім знішчыць. Гэта варожасць па меры пашырэння уніяцтва ўзрастала. Доказам таму з’яўляюцца мемарандумы польскіх біскупаў у Рым 1620-х гадоў з дамаганнямі скасавання уніі, перамовы караля Яна Казіміра з казакамі аб яе знішчэнні, розныя праекты яе выкаранення ў XVIII ст., перацягванне уніятаў на рымскі абрад і да т.п. Хаця гэта варожасць не прымала формы пераследу, як гэта здарылася ў Расійскай імперыі, аднак польская палітыка аслаблення ўсходнекаталіцкай царквы значна аблегчыла пазнейшую расійскую акцыю знішчэння гэтай царквы. Даследчык небеспадстаўна сцвярджае, што погляд, быццам берасцейская згода была творам палякаў, раздзьмуты расійскай прапагандай з мэтай яе кампраметацыі ў вачах саміх уніятаў. Варожае стаўленне расійскай улады да уніі мае глыбокія карані – апошняя істотным чынам пярэчыць моднай калісь і не выжытай да гэтага часу ідэі "Масква – трэці Рым". Гісторыкі імперыі, паводле сцвярджэння Л.Гарошкі, замоўчваюць тыя факты гісторыі уніі, якія не ўпісваюцца ў афіцыйную канцэпцыю, фальшуюць другія. А забарона расійскай цэнзурай усялякіх кніг у абарону уніі прывялі да прышчэплівання гэтага "гістарычнага фальшу" ў грамадскую свядомасць.

У Расійскай імперыі, як піша даследчык, уніяты апынуліся ў намнога горшым становішчы, чым праваслаўныя ў Рэчы Паспалітай, якія маглі выдаваць кнігі, выступаць у сойме і сенаце ў сваю абарону, звяртацца ў суд на сваіх крыўдзіцеляў. Уніяцкае ж духавенства ў Расіі, ізаляванае ад свайго кіруючага цэнтра – Ватыкана, індывідуальна апрацаванае, застрашанае, апынуўшыся сам-насам са сваім епіскапам-здраднікам, пазбаўленае права сказаць слова ў сваю абарону, "добраахвотна" кідала сваю веру. Рэпрэсіі супраць уніяцкай царквы падаваліся афіцыйнай прапагандай як мерапрыемствы, што мелі на мэце забяспечыць свабодны пераход да праваслаўя, а каталіцкі Захад быў інфармацыйна блакаваны наконт пераследу уніятаў. Гэты праслед замоўчаны і бальшавіцкай антыкаталіцкай літаратурай, бо, паводле слоў Гарошкі, бальшавікі "самі прасьледуюць яшчэ горш".

Аўтар аспрэчвае сцвярджэнне афіцыйнай імперскай прапаганды, што унія "развалілася пры першым сутыкненні з праваслаўем", – амаль 50 гадоў, калі прыняць пад увагу папярэднія мерапрыемствы,

рыхтаваўся грунт для яе скасавання, але прывязанасць народа да сваёй веры за гэты час не зменшылася. Толькі крайняе засляпленне не дае ўбачыць змагання за яе цягам гэтых 50-ці гадоў. Сімпатыя да уніі як да чагосьці роднага заставалася ў народзе і пасля 1839 г. Таму адраджэнцы першай паловы XX ст. уключалі ў сваю праграму вяртанне з нябыту уніяцкай царквы. Толькі к сярэдзіне гэтага стагоддзя дала свой плён не меўшая поспеху дзесяткі гадоў масіраваная царская, а потым бальшавіцкая прапаганда, што уніяцкая царква была чымсьці чужым і страшэнна варожым для беларусаў.

Думаецца, што згаданая праца Л.Гарошкі, заснаваная на беларускіх і польскіх, а таксама недаступных савецкаму даследчыку заходнееўрапейскіх публікацыях крыніц і літаратуры другой паловы XIX – першай паловы XX ст., стань яна вядомай у СССР у свой час, то не ў аднаго б айчыннага навукоўца пахіснула веру ў аб'ектыўнасць і непагрэшнасць пануючай тады канцэпцыі уніі.

Даследаваннем канфесійнай гісторыі Беларусі ў 60–70-я г. займаўся ў Чыкага **Вацлаў Пануцэвіч**, вынікам чаго сталі два творы: **"Святы Язафат, архіепіскап полацкі"**[165] і **"Берасцейская унія"**[166]. Грунтаваная на багатым матэрыяле разнастайных крыніц, першая кніга дазваляе паглядзець на асобу, якая адыграла асаблівую ролю ў гісторыі царквы на Беларусі, у кантэксце склададзеных гістарычных варункаў першай чвэрці XVII ст. Сучаснае перавыданне гэтай працы[167] паспрыяе перагляду шэрагу стэрэатыпаў адносна постаці Я.Кунцэвіча, больш вядомай беларускаму чытачу на падставе гістарычных твораў варожа настроеных да яго аўтараў, і гісторыі хрысціянства на Беларусі ў цэлым.

У 90-я г. даследаванне кафесійнай гісторыі Беларусі, як у самой рэспубліцы, так і за мяжой, выйшла на якасна больш высокі ўзровень, чаму ў многім спрыяюць заснаваныя на багацейшай базе крыніц манаграфіі беларускага гісторыка ў Польшчы **Антоні Міхановіча "Падляшскія праваслаўныя асяродкі і арганізацыі ў XVI і XVII ст."**, **"Праваслаўе і унія ў панаванне Яна Казіміра"**, **"Праваслаўная царква ў былой Рэчы Паспалітай"** і інш.[168], шматлікія навуковыя артыкулы аўтара[169]. Яны дапамагаюць лепей, чым гэта дазваляла ранейшая гістарыяграфія, зразумець міжканфесійныя стасункі ў Рэчы Паспалітай, царкоўную палітыку дзяржавы і папства, міжнародныя рэлігійна-палітычныя адносіны на восі Рым – Варшава – Масква – Канстанцінопаль і гісторыю уніі ў кантэксце міжнароднай сітуацыі.

Апошняя праца **А.Міраповіча "Праваслаўная царква ў былой Рэчы Паспалітай"**[170] прысвечана недастаткова распрацаванай у польскай навуковай літаратуры дзейнасці ўсходняй хрысціянскай традыцыі, якая была пастаянным элементам звыштысячагадовай гісторыі польскай дзяржавы, у былой Рэчы Паспалітай. Калі ўлічыць, што гэтая ўсходняя галіна прадстаўляла рэлігійную традыцыю беларусаў і ўкраінцаў, то кніга фактычна прысвечана гісторыі праваслаўнай царквы Беларусі і Украіны другой паловы XVI–XVIII ст. Пры гэтым аўтарская ўвага сканцэнтравана на месцы праваслаўнай веравызнаўчай супольнасці ў гісторыі, лёсе Рэчы Паспалітай, веравызнаўчым адносінам на беларуска-ўкраінскіх землях як адной з найважнейшых праблем унутранай і знешняй палітыкі гэтай дзяржавы. У цэнтры кнігі стаяць палітыка-прававыя, арганізацыйныя, іерархічныя аспекты гісторыі беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы, яе ўзаемаадносіны з дзяржавай.

За манаграфіяй стаяць гады карпатлівай працы і салідны даследчыцкі досвед аўтара, які выдатна валодае і аперыруе морам крыніц, у тым ліку цяжкадаступнымі для гісторыкаў Беларусі крыніцамі з ватыканскіх архіваў. Ёй ўласцівы глыбіня пранікнення ў праблему,

[165] Panucević V. Sv. Josaphat Archijapiskap Polacki. 1623–1963: Referat ćytany na Tydni Chryścijanskaj Jednaści 19 studzienia 1963. – Chikago, 1963.
[166] Panucević V. The Brest Union. 1596–1972: Referat ćytany u Biełaruskim Nacyjanalna–Relihijnym Centry u Chikago 11 snieżnia 1971 h. – Chikago, 1972.

[167] Пануцэвіч В. Сьвяты Язафат, архіяпіскап полацкі. – Полацк, 2000.
[168] Mironowicz A. Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku. – Białystok, 1991; Mironowicz A. Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza. – Białystok, 1997; Mironowicz A. Teodozy Wasilewicz, archimandryta słucki, biskup białoruski. – Białystok, 1997; Mironowicz A. Metropolita Jozef Nielubowicz Tukalski. – Bialystok, 1998; Mironowicz A. Kosciol prawoslawny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. – Bialystok, 2001.
[169] Міраповіч А. 150 гадавіна звароту вуніятаў у склад Праваслаўнай царквы ў Беларусі (1839–1989) // Голас часу (Лондан). – 1990. - № 1 (4); Mironowicz A. Projekty unijne wobec Cerkwi prawosławnej w dobie ugody hadziackiej // Unia brzeska z perspektywy czterech stuleci: Materiały międzynarodowego sympozium naukowego, Lublin, 20–21/IX 1995 r. – Lublin, 1998. – S.95–121; Міраповіч А. Kościół prawosławny i unicki w połowie lat sześćdziesiątych XVII wieku na terenie Rzeczypospolitej // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – С.348–352; і інш.
[170] Mironowicz A. Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. – Białystok, 2001.

уменне надаць новыя абрысы, унесці ўдакладненні нават у гістарыяграфічна збітыя сюжэты, без якіх, зразумела, немагчыма было б намаляваць такую маштабную карціну гісторыі беларуска-ўкраінскага праваслаўя.

У працы паказаны еўрапейскі, міжнародны кантэкст дзейнасці беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы і яе ўзаемаадносін са смежнымі царкоўнымі інстытутамі, а таксама выхад уніяцка-праваслаўных канфліктаў за царкоўную агароджу і набыццё імі з 1620 г. міжнароднага характару.

Вялікай бядой для беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы, паводле А.Мірановіча, была Берасцейская царкоўная унія, якой у манаграфіі ўдзелена настолькі вялікая ўвага, што гэта фактычна ператварыла працу з даследавання гісторыі праваслаўнай царквы ў гісторыю праваслаўна-уніяцкіх стасункаў. У манаграфіі падкрэсліваецца, што ўсходняя і заходняя цэрквы ў Рэчы Паспалітай мелі адчуванне агульнага паходжання, адзінай доўгай гісторыі, што асабліва выходзіла на паверхню падчас чарговых дыскусій аб аднаўленні адзінства і уніі.

Аўтар далёка не вычэрпвае такую важную для гісторыі праваслаўнай царквы ў рэчы Паспалітай праблему як передумовы, прычыны, фактары заключэння Брэсцкай уніі, роля у гэтым беларуска-ўкраінскга епіскапата, які разам з часткай свецкай знаці, як сказана ў манаграфіі, "быў падатлівыя на унійныя лозунгі". Прапанаваная А.Мірановічам традыцыйная тэорыя уніі як польска-езуіцкай інтрыгі, амаральнасці і амбітнасці праваслаўнага епіскапата, яго трактоўка пасіўнай марыянеткай, якую тузалі за ніткі закулісныя рэжысёры, у лепшым выпадку актыўнымі выканаўцамі чужых планаў, не могуць даць адказы на шмат якія з пытанняў з гісторыі заключэння Берасцейскай уніі.

У той жа час трэба аддаць належнае аб'ектыўнасці аўтара, які прызнаў, што артыкулы Берасцейскай уніі стаялі на абароне традыцыі і тоеснасці праваслаўнай царквы, а уніяты выступалі супраць лацінізацыі свайго абраду; падкрэсліў рознае бачанне і чаканні ад уніі Рыму і "рускіх" уладык; складанасць і неадназначнасць уніяцка-каталіцкіх адносін; адзначыў, што не ўсе сеймікі 1597 г. асудзілі унію, што паслы наваградскага, ваўкавыскага і віцебскага паветаў выступілі ў абарону уніяцкіх епіскапаў; і г.д.



Наконт кананічнасці берасцейскіх сабораў у кастрычніку 1596 г. у яго ўдзельнікаў, сучаснікаў і ў багаслоўскай літаратуры існуць дзве думкі. Гэтае пытанне не мае адназначнага адказу і праз 400 гадоў. Аўтар манаграфіі займае пазіцыю, што ў Берасці лёс Кіеўскай мітраполіі мелі права вырашаць на альтэрнатыўным саборы толькі патрыяршыя экзархі як вышэйшыя па рангу, але не магло само кіраўніцтва Кіеўскай мітраполіі.

Некаторым перабольшваннем уяўляецца ацэнка юрыдычнай безабароннасці праваслаўнай царквы пасля заключэння Берасцейскай уніі: апазіцыйныя уніі епіскапы засталіся на сваіх пасадах і пры сваіх уладаннях; праваслаўныя мелі права падаваць пратэсты, адстойваць свае правы праз суд, абвясцілі імпічмент арганізатарам уніі, намагаліся прыцягнуць іх да суда, чаго, напрыклад, не скажаш пра час дэунізацыі першай паловы XIX ст. Праваслаўная царква дзейнічала ў XVII-XVIII ст. у дасягнутых межах легальнасці і цярпімасці. Кароль, які, паводле аўтара, фаварызаваў уніяцкі бок, як часам ствараецца ўражанне, кінуў унію на волю лёсу, сам-насам з магутным антыуніяцкім рухам, а пераемнікі Жыгімонта III і наогул былі гатовы ахвяраваць уніяй ва угоду пагаднення з казакамі. Бачыцца некаторая супярэчнасць у аўтарскім сцвярджэнні аб адсутнасці пасля Берасцейскай уніі для праваслаўнай царквы якіх бы то ні было прававых гарантый і ў пералічэнні канстытуцый (у прыватнасці, 1607, 1609 г.), якія былі прававым прызнаннем праваслаўнай царквы. А факты выступленняў польскіх каралёў у абарону праваслаўнай царквы нейкім чынам карэктуюць ранейшы погляд на характар веравызнаўчай палітыкі ўрада Рэчы Паспалітай.

У манаграфіі, акрамя канстатацыі самога факту, мы амаль не знаходзім адказу на пытанне аб прычынах, матывах пераходу праваслаўнай эліты ў каталіцтва. Незразумела, чаму ж яна кідала сваю веру і як гэты факт узгадняецца з аўтарскім сцвярджэннем аб перабольшванні папярэдняй гістарыяграфіяй заняпада ўсходняй царквы ў Рэчы Паспалітай у канцы XVI ст. Абыйдзена ўвагай і тая дэзарганізацыя, якую ўнёс у мясцовую іерархію сваімі рэформамі канстанцінопальскі патрыярх Ярэмія, і роля яго візіту ў актывізацыі дзейнасці беларуска-ўкраінскага епіскапату на карысць уніі.

Прасочаны працэс пераходу ролі абаронцаў праваслаўя ад шляхты да брацтваў і казакаў. Слушна адзначаецца рост рэлігійнасці "рускага" грамадства ў першай палове XVII ст., доказам чаму

з'яўляецца выступленне на абарону праваслаўя раней індыферэнтных да яго казакаў. З манаграфіі відаць, што цэнтр антыуніяцкага руху ў сярэдзіне XVII ст. перамяшчаецца на Украіну, і тут ён набывае нябачныя да таго на Беларусі памеры. Адным з найбольш удалых месцаў манаграфіі з'яўляецца паказ унутранага расколу ў праваслаўнай царкве Рэчы Паспалітай з другой чвэрці XVII ст. на глебе адносін да уніі і польскай дзяржавы, Рэчы Паспалітай. У той жа час адлюстраваны рост антыправаслаўных настрояў на каралеўскім двары і ў грамадстве з другой паловы XVII ст. Акцэнтавана ўвага на культурным грунце пашырэння уніяцтва, які стварала аслабленне сувязяў вышэйшых слаёў "рускага" грамадства пад уплывам польска-лацінскай культуры з культурнай асновай праваслаўя.

Са старонак манаграфіі паўстаюць яркія вобразы хрысціянскіх лідараў Беларусі і Украіны з іх моцнымі і слабымі бакамі: Сільвестра Косава, Дыянісія Балабана, Іосіфа Тукальскага і інш. Кніга ўводзіць чытача ва ўсе перыпетыі кананічнага перападпарадкавання Кіеўскай мітраполіі Маскоўскаму патрыярхату.

Фаварызаванне каталіцтва і неталерантная палітыка адносна праваслаўных і пратэстантаў мела сваім вынікам тое, што апеку над іншаверцамі ў Рэчы Паспалітай узялі на сябе Расія і Прусія. Больш таго, у двухбаковым трактаце 1686 г. Рэч Паспалітая выказала згоду на пратэктарат Расіі на праваслаўным насельніцтвам. Адначасова на працягу ўсяго XVIII ст. польскія ўлады імкнуліся да поўнай ліквідацыі "грэцкай" царквы. У сувязі з фіяска гэткай палітыкі прадпрынятыя на чатырохгадовым сойме спробы ўнармавання статусу праваслаўнай царквы аказаліся запознenымі і недастатковымі. Вынікам адыхода ад палітыкі талерантнасці былі ўнутраныя падзелы і заняпад дзяржавы. У гэтым сэнсе сімвалічным з'яўляецца лёс запарожскага казацтва, вернага Рэчы Паспалітай да таго часу, пакуль яно не ўсвядоміла немагчымасць узгадніць статус праваслаўя і ўсходнюю польскую палітыку. Палітыка Жыгімонта III прывяла да таго, што казакі сталі абаронцамі праваслаўя. У выніку яны сталі паддадзенымі маскоўскіх самадзержцаў, а з часам – і адным з сімвалаў царызму.

Разаблачаецца двухаблічнасць афіцыйнай Расіі, якая, па-першае, выкарыстоўвала дысідэнцкае пытанне для пашырэння сваіх уплываў у Рэчы Паспалітай, а па-другое, не была зацікаўлена ва ўраўноўванні правоў праваслаўных, бо гэта прывязала бы іх да Рэчы Паспалітай.



Слушна адзначана, што з падзеламі Рэчы Паспалітай пачаўся працэс уніфікацыі беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы з расійскай праваслаўнай царквой, ліквідацыі мясцовай царкоўнай традыцыі, праваvой і арганізацыйнай адметнасці. Расійскімі ўладамі ёй быў накінуты сінадальна-кансісторскі лад.

Выказваецца цікавая ідэя аб плюсах і мінусах аблічча цівілізацыйных стыкаў, аб асаблівасцях "крэсовага" грамадства, грамадства культурна-цывілізацыйнага памежжа, якое, з аднаго боку, больш чым дзе яшчэ настроена патрыятычна, а з другога боку, адначасова акумулюе ў сабе культурныя элементы іншых народаў.

Будучы істотным укладам у гістарыяграфію канфесійнай гісторыі Беларусі, манаграфія А.Міpановіча дапамагае разуменню спецыфікі і месца нашых зямель у веравызнаўчай структуры Еўропы.

# Глава 7

## Навуковае пераасэнсаванне гісторыі уніі ў 90-я гады

Рэлігійны "рэнесанс" канца XX ст. і змена дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі, своеасаблівая рэабілітацыя рэлігіі ў грамадскай свядомасці абудзілі ў навуковых колах і ў грамадскасці цікавасць да пагарджанай раней гісторыі царквы на Беларусі, а разняволенне навуковай думкі на мяжы 80 – 90-х г. зрабіла занядбаную гісторыю канфесій, без якой не ўяўляецца магчымым аб'ектыўнае вывучэнне гісторыі Беларусі, адной з прыярытэтных тэм айчыннай гістарыяграфіі. Адыйшоў у нябыт паказ царквы як аплота коснасціі рэакцыі. Усё глыбей усведамляецца яе роля ў дзяржаўным і этнакультурным жыцці народа. Гісторыя хрысціянства, жыццё і дзейнасць яго падзвіжнікаў паступова займаюць бачнае месца ў навуковай, вучэбнай і папулярнай літаратуры. Пры гэтым, аднак, высветлілася, што з традыцыйных хрысціянскіх культавых інстытутаў найменш вядомай для нас з'яўляецца уніяцкая царква.

Выхад з падполля ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы; адраджэнне насуперак моцнай антыуніяцкай прапагандзе пасля 150-гадовага небыцця гэтай канфесіі, невядомай ужо некалькім пакаленням людзей, на Беларусі; авалоданне ідэяй уніі часткай інтэлігенцыі і моладзі, для якіх уласцівы погляд на беларускі народ як на самабытную этнічную індывідуальнасць з адметнай гісторыяй, культурай і мовай; магчымасць паглядзець на гэтае веравызнанне без абмежаванняў ідэалагічнай цэнзуры і, урэшце, 400-я ўгодкі Берасцейскага сабора 1596 г. павярнулі нашу гістарычную навуку тварам да гэтай старой праблемы і далі новы імпульс для яе вывучэння. Гісторыя Берасцейскай уніі за апошняе дзесяцігоддзе стала адным з актыўна распрацоўваемых як у гістарыяграфіі Беларусі, так і ў еўрапейскім рэлігіязнаўстве сюжэтаў. Сярод асноўных прычын навуковай актуалізацыі тэмы – недахопы, аднабаковасць у яе асвятленні ў папярэдні перыяд.



Даследаванні апошняга часу дазволілі па-новаму ацаніць ролю царкоўна-канфесійнага фактару ў жыцці грамадства і фармаванні грамадскай свядомасці, у міжэтнічных адносінах і ў працэсе інтэграцыі і дэзінтэграцыі славянскіх народаў. З пераадоленнем ідэалагічных наслаенняў пераасэнсаваны працы ранейшых аўтарытэтаў ва уніязнаўстве. Ідзе адмаўленне ад крайнасцяў яго "рускай" і "польскай" канцэпцый; падвергнуты сумненню ранейшыя аксіёмы. Пашырыліся кола даследчыкаў, сам прадмет даследавання і яго храналагічныя межы; узмацнілася дакументальная база работ. Пачаўся адыход ад спрошчанага разумення берасцейскага працэса. Яго новая навуковая трактоўка прыйшла ў поўную супярэчнасць з ранейшым "акадэмічным канонам". Характэрнай рысай часу стала адміранне абагульняльнай тэмы "Берасцейская царкоўная унія" і паглыбленае вывучэнне асобных яе бакоў і прыватных пытанняў.

Новы этап гістарыяграфіі уніі адкрыла перавыданне кнігі **М.Нікольскага** "История русской церкви"[171] з раздзелам аб Берасцейскай уніі[172], які па ідэалагічных меркаваннях быў апушчаны ў папярэдніх выданнях[173]. З канца 80-х гадоў уніяцкая праблематыка заняла трывалае месца ў рэспубліканскай перыёдыцы, на канферэнцыях і ў навуковых зборніках.

Першым кінуў выклік устаялым поглядам і парушыў пануючую двухвекавую канцэпцыю уніі **Ю.Драгун**[174], які паспрабаваў абвергнуць стэрэатып аб тым, што уніяцкая царква намагалася пазбавіць беларусаў іх роднай мовы і вяла да зліцця канфесій. "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі" канстатавалі крамольныя тады, а для многіх яшчэ і цяпер, палажэнні пра уніяцкія манастыры як буйныя асяродкі нашай старадаўняй культуры; пра большую ўстойлівасць уніятаў у адрозненне ад беларусаў праваслаўнай і каталіцкай канфесій і да паланізацыі, і да русіфікацыі[175]. Менавіта ўпор на нацыянальныя здабыткі, выказаў думку **П.Лойка**, спрыяў пашырэнню

[171] Никольский Н.М. История русской церкви. М.–Л., 1931.
[172] Никольский Н.М. История русской церкви. – Мн., 1990.
[173] Никольский Н.М. История русской церкви. – 3 изд. – М.: Политиздат, 1983.
[174] Драгун Ю. Пра уніяцтва і дзяржаўную палітыку // Літаратура і мастацтва. – 1990. – № 1. – С.15; Драгун Ю. Уніяцкая царква Беларусі і дзяржаўная палітыка // З гісторыяй на «Вы»: Публіцыстычныя артыкулы. Вып. 2 / Уклад. У.Арлова. – Мн., 1994. – С. 89–106.
[175] 100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі / Уклад. і прадм. І.Саверчанка, З.Санько. – Менск, 1994. – С. 88, 177.

веры[176]. З 1993 г. ужо і сямікласнікі ведаюць, што распачатая як палітычная дзея пракаталіцкага кіраўніцтва Рэчы Паспалітай унія абярнулася адным з фактараў выжывання беларускага этнасу; што уніяцкая царква пераўтварыліся ў цэнтр захавання моўна-культурнай традыцыі беларусаў і тым самым паўстала бар’ерам каталізацыі ды паланізацыі беларускага горада і вёскі[177] .

З’явіліся больш узважаныя трактоўкі дзейнасці уніяцкай царквы на ніве культуры ў абагульняльных працах. **"Нарысы гісторыі Беларусі"** прызналі, што менавіта павышэнне культурнага ўзроўню уніяцкай царквы праз рэформы другой – трэцяй чвэрці XVII ст. спрыялі росту яе ўплываў сярод беларускага насельніцтва. Факт з’яўлення скульптуры "нізавога барока" ва уніяцкіх храмах пададзены як прыклад творчай перапрацоўкі еўрапейскіх традыцый на мясцовай глебе і далучэння Беларусі да набыткаў сусветнай культуры. З другога боку, унія бачыцца аўтарам "Нарысаў" адной з прычын расколу беларускага грамадства па сацыяльна-рэлігійнай прымеце, што разам са знішчэннем больш чым напалову беларускага этнасу ў войнах сярэдзіны XVII – пачатку XVIII ст. прывяло да заняпаду беларускамоўнай культуры, дзяржаўнасці, а значыць, і нацыянальнага развіцця[178]. Упершыню тэрмін "уніяцтва" зафігураваў ў назве параграфа **"Гісторыі культуры Беларусі"**[179]. Праблема уніяцтва выйшла ў цэнтр дыскусіі, якая разгарнулася ў 1997 г. вакол канцэптуальных падыходаў да школьных падручнікаў па гісторыі Беларусі. **В.М.Чарапіца** прызнаў спараджэннем "уніяцка-каталіцкай, ці польскай культуры" беларушчыну, якую, аднак, адкідвае сам народ, зарыентаваны на руска-праваслаўную культуру[180], чаму запярэчыў

---

[176] Голубеў В.Ф., Крук У.П., Лойка П.А. Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны? – Мн., 1994. – С. 42, 75.

[177] Лойка П.А. Гісторыя Беларусі: Вучэбны дыпаможнік для 7 класа сярэдняй шолы. – Мн., 1993. – С. 89.

[178] Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. / М.П.Касцюк, У.Ф.Ісаенка, Г.В.Штыхаў і інш. – Мн., 1994. – Ч. І. – С. 178, 260, 297.

[179] Лыч Л., Навіцкі У. Гісторыя культуры Беларусі. – Мн., 1996.

[180] Чарапіца В.М. «Падручнік будзе цяжка чытаць нават студэнтам гістфака…» // Беларуская мінуўшчына. – 1997. – № 3. – С. 50–52.



**М.О.Біч**[181].

Была адноўлена перарваная ў СССР у 30-я гады традыцыя даследавання персаналій замоўчаных або зганьбаваных савецкай гістарыяграфіяй уніяцкіх дзеячаў, заслугі якіх у духоўна–культурнай сферы прызнавалі нават іх дарэвалюцыйныя біёграфы іншай канфесійнай арыентацыі. Неардынарныя постаці І.Руцкага[182] (на старонках публікацый **І.Войніч**[183], **І.Саверчанкі**[184] і **У.Конана**[185] і інш.), І.Пацея[186], М.Баброўскага[187] паўсталі як буйныя прадстаўнікі беларускай культуры. Пераасэнсоўваецца феномен М.Сматрыцкага (**У.Кароткі**, **Ж.Некрашэвіч**)[188]. Больш узважаныя трактоўкі атрымала палемічная літаратура і ўся ідэйная барацьба вакол Берасцейскай уніі (працы **А.Коршунава**[189], **І.Саверчанкі**[190], **Н.Кутузавай**[191],

---

[181] Біч М. «З прапанаванай канцэпцыяй пагадзіцца не магу» // Беларуская мінуўшчына. – 1997. – № 3. – С.53–56.

[182] Апошнім постаць І.Руцкага даследаваў Ф.Турук. Гл.: Турук Ф. Униатский митрополит Иосиф Вельямин Рутский (1613–1637) и его значение в истории униатской Западной русской церкви. – Пг., 1916.

[183] Войніч І. Пісьменнік-паледміст // Спадчына. – 1991. – № 5. – С. 45–51.

[184] Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. – Мн., 1994; Саверчанка І.: Праект сваёй патрыярхіі // Голас Радзімы. – 1994. – № 9–12.

[185] Конан У. Тэалагічныя і асветніцкія погляды Язэпа Руцкага // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнар. навук. канф. – Брэст, 1997. – С.23–27; Конан У. Язэп Руцкі – будаўнік беларускай царквы // Крыніца. – 1996. – С. 3–15; Конан У. Я.Руцкі і станаўленне уніяцкай царквы // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С.Марозава, Т.Казакова, Ю.Бохан і інш.; Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 54–71.

[186] Лаўрык Ю. Іпаці Пацей // Спадчына. – 1992. – № 2. – С. 58–65; Шаставец У. Тэалагічныя погляды І.Пацея // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнар. навук. канф. – Брэст, 1997. – С. 42–47.

[187] Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік / Гал. рэд. Б.І.Сачанка. – Мн., 1995. – С. 174–176; Бернат М. М.Баброўскі: трагічныя крокі да нацыянальнага адраджэння // Народная воля. – 1997. - № 99. – С. 4–5.

[188] Кароткі У. Адзінства і двайніцтва ў сферы ідэй Брэсцкай царкоўнай уніі // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400. – Брэст, 1997. – С. 13–16; Некрашэвіч Ж. Унія ў эпісталярнай спадчыне М.Сматрыцкага // Тамсама. – С. 35–38; Кароткі У. Унія ад Пятра Скаргі // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 4. – 1993. – № 3. – С. 3–6.

[189] Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд: Вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў педагагічных ВНУ / М.М.Грынчык, У.А.Калеснік, У.Г.Кароткі і інш.; Пад рэд. М.А.Лазарука, А.А.Семяновіча. 4–е выд. – Мн., 1998.

[190] Саверчанка І. Апалогія і крытыка уніі ў публіцыстыцы канца XVI – сярэдзіны XVII ст. // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. / Пад рэд. Д.У Карава. – Гродна, 1996. – С. 345–347; Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна–пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. – Мн., 1998.

[191] Кутузова Н.А. Социально-философская и этическая мысль Беларуси первой половины XVII в.: Автореф. дис. … канд. филос. наук: / Бел. гос. ун–т. – Минск: 1996; Кутузова Н.А.: Проблемы национальной идеи и религии в полемической литературе Беларуси первой половины XVII в. // Гуманітарна-эканамічны веснік. – 1996. – № 2. – С. 82–88; Кутузова Н.А.:

**В.Старасценкі**[192] і інш.). Абудзілася цікавасць да асветніцкай дзейнасці уніяцкай царквы (**А.Самусік** і інш.)[193]. Творы уніяцкай кніжнасці даследуюць сёння **Ю.Лабынцаў**[194], **Л.Шчавінская**[195], **М.Нікалаеў**[196], **Т.Самайлюк**[197]. Моўныя аспекты дзейнасці уніяцкай царквы закранаюць **І.Чарота**[198] і **Л.Ляўшун**[199]. У кантэксце развіцця беларускага мастацтва помнікі уніяцкай архітэктуры вывучае **Т.Габрусь**[200] і **А.Кулагін**[201], жывапісу – **Ю.Хадыка**[202], **Л.Вакар**[203].

---

Нация, религия и государственность в полемической литературе Беларуси конца XVI – первой половины XVII вв.: Учебное пособие / Научн. ред. Е.С.Прокошина. – Мн., 1998.

[192] Старостенко В.В. Религиозно–конфессиональное сознание в полемической литературе конца XVI – начала XVII вв. и национальное самосознание белорусов // Современные подходы к изучению национальной и зарубежной литературы в школе и вузе: Материалы научно–метод. конференции 15–18. 10. 1996 г. – Могилев, 1996. – С. 107–110; Старостенко В.В.: Общественно–философская мысль и национальное самосознание белорусов XVI–XVII вв.: Очерки истории. Учебное пособие. – Могилев, 1999.

[193] Самусік А. Праект адкрыцця уніяцкай духоўнай акадэміі ў Полацку // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С.Марозава, Т.Казакова, Ю.Бохан і інш.; Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 117–121; Самусік А.: Ад вуніяцкай акадэміі да акадэміі праваслаўнай. Погляды І.Сямашкі на праблему вышэйшай адукацыі на Беларусі // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнар. навук. канф. / Брэсцкі дзярж. універсітэт. – Брэст, 1997. – С. 38–42; Самусік А. Дзейнасць манаскіх ордэнаў ў галіне асветы на Беларусі ў першай трэці XIX ст. // Гісторыя: праблемы выкладання. – 1998. – № 1. – С. 37–46; Канаплёва С.А. Адукацыйная дзейнасць базыльянскага ордэну ў XVII ст .// Матэрыялы 51-й студэнцкай навуковай канферэнцыі БДУ. – Мн., 1994. – С. 60–61.

[194] Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам: Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу. – Мн., 1990.

[195] Щавинская Л.Л. Литературная культура белорусов Подляшья XV–XIX вв. – Мн., 1998; яе ж: Белорусская книжная культура пограничья Slavia Orthodoxa – Slavia Romana: К 500–летию Супрасльского Благовещенского монастыря // Polsko–białoruskie związki językowe, literackie i kulturowe / Pod. red. M.Kondratiuka. – Białystok, 2000. – T. 2. – S. 259–272; Щавинская Л.Л., Лабынцев Ю.А. Книжные собрания Супрасльского Благовещенского монастыря (XV–XIX вв.) // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі / Склад. Л.Г.Кірухіна, Т.І.Рошчына. – Мн., 1998. – Вып. 3. – С. 37–45.

[196] Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. – Мн., 1993.

[197] Самайлюк Т.А. Уніяцкая богаслужэбная кніга: гісторыка–культуралагічны аспект // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. / Пад рэд. Д.У Карава. – Гродна, 1996. – С. 365–369.

[198] Чарота А.І. Беларуская мова і Царква. – Мн., 2000.

[199] Левшун Л.В. История восточнославянского книжного слова XI–XVII вв. – Мн., 2001.

[200] Габрусь Т.В. Роля уніяцкай царквы ў фарміраванні архітэктуры віленскага барока // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пачатку XX стст., Гродна, 28 верасня – 1 кастрычніка 1992 г. / Пад рэд. Д.У.Карава. – Гродна, 1992. – Кн. 4, ч. 1 – 3. – С. 551–556; Габрусь Т.В. Здань базыльянскай святыні // Спадчына. – 1994. – № 3. – С. 71–7; Габрусь Т.В. Асаблівасці архітэктуры уніяцкіх храмаў слонімскага рэгіёна ў кантэксце віленскага барока // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – С. 361–364; Габрусь Т.В.



Увагу **В.Дадзіёмавай**[204], **У.Неўдаха**[205], **Т.Ліхач**[206] прыцягнула музычная культура уніяцкай царквы.

Даследаванні апошніх 15–20 гадоў разбураюць стэрэатып аб мастацкай няпоўнавартаснасці уніяцтва, яго няздольнасці нарадзіць уласнае мастацтва і чужароднасці для беларускай культуры яго выяўленчай спадчыны. і сведчаць, што створаныя ва ўлонні уніяцкай царквы духоўныя каштоўнасці былі яркімі, самабытнымі, паўнавартаснымі ў мастацкіх адносінах і адаптаванымі да нацыянальнай культуры. Вядомыя альбомы **Н.Т.Высоцкай "Жывапіс Беларусі XII–XVIII ст."** (Мн., 1980) і **"Іканапіс Беларусі XV–XVIII ст."** (Мн., 1992) сталі своеасаблівым адкрыццём для еўрапейскага мастацтвазнаўства, што беларускі жывапіс XVII–XVIII ст. амаль цалкам складаецца з уніяцкіх абразоў.

Уніяцкая царква стала глебай для ўзрастання прынцыпаў новага мастацкага стылю, які ўзнік на аснове творчага сінтэзу візантыйскага і заходнееўрапейскага мастацтва ў арэале распаўсюджання уніі ў другой і трэцяй чвэрці XVIII ст. і вядомы ў мастацтвазнаўстве пад назвай "віленскае барока" і неафіцыйна – "уніяцкае барока". Як па-

---

Стылістычныя аспекты архітэктуры віленскага барока // Барока ў беларускай культуры і мастацтве / Пад рэд. В.Ф.Шматава. – Мн., 1998. – С. 14—166; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. – Мн., 2001; і інш.

[201] Кулагін А. Шэдэўры архітэктуры ракако: Гістарычна–архітэктурны нарыс. – Мн., 1991; Кулагін А. Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. – Мн., 2001; Кулагін А. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. – Мн., 2001.

[202] Хадыка Ю. Нараджэньне Хрыстовае // Унія. – 1990. – № 2. – С. 26–27; Хадыка Ю. Традыцыйнае мастацтва і беларускае Адраджэнне // Наш Радавод: Материалы международной научной конференции «Культура народов Великого княжества Литовского и Белоруссии. XIII – начало XX в.». Гродно, 22–24.10.1991.– Гродно, 1991. – Кн. 3, ч. 2. – С. 357–365; Хадыка А.Ю., Хадыка Ю.В. Рэнесанс у беларускім новым іканапісе // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння: Зб арт. / Рэд. С.В.Марцэлеў. – Мн., 1994. – С. 62–70; Chadyka J. Kulturotwórcza rola Unii Brzeskiej na Białorusi // Unia Brzeska z perspektywy czterech stuleci: Materiały międzynarodowego sympozium naukowego, Lublin, 20–21/IX 1995 r. – Lublin, 1998. – S.167–178; і інш.

[203] Вакар Л.У. Барочная экспрэсія уніяцкага народнага абраза (Стылістычны аналіз абразоў з вёскі Латыгава) // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнар. навук. канф. – Брэст, 1997. – С. 59–64.

[204] Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. – Мн., 1992; Дадзіёмава В.У. Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.: Дап. для сяр. навуч. устаноў. – Мн., 1994.

[205] Неўдах У. Арганная культура на Беларусі // Хрысьціянская Думка. – 1993. – № 3. – С. 97–117; Неўдах У. Cantantibus organis: Беларуская арганная культура ў кантэксьце эўрапейскага музычна–гітарычнага працэсу. – Мн., 1999.

[206] Лихач Т.В. Страницы прошлого музыкальной культуры Белоруссии (XVIII ст.) // Вопросы культуры и искусства Белоруссии. – Мн., 1987. – Вып. 6. – С. 77–84; Ліхач Т. Музычнае мастацтва уніяцкай царквы // Царква. – 1997. – № 3. – С. 12–14.

казваюць працы **Т.Габрусь**, фармаванне архітэктонікі уніяцкіх храмаў на аснове традыцый мясцовага дойлідства, з улікам усходніх і заходніх мастацкіх уплываў, літургічных патрабаванняў і канфесійнай сімволікі як каталіцкай, так і праваслаўнай галін хрысціянскага культу, абумовіла яркую нацыянальную адметнасць гэтага вытанчанага стылю. Яго рысы найбольш яскрава выявіліся ў пераважнай большасці ў культавых пабудовах уніятаў, найперш Сафійскім саборы ў Полацку, цэрквах і манастырах базыльян у Беразвеччы, Барунах, Вольна, Талачыне, Багаяўленскай і Крыжаўздзвіжанскай цэрквах ў Жыровічах, Уваскрасенскай царкве ў Віцебску і інш. Росквіт беларускага барока звязаны з творчасцю выдатнага архітэктара Я.К.Глаубіца. Важную ролю ў змене царкоўнай архітэктуры ВКЛ адыграў полацкі архіепіскап і уніяцкі мітрапаліт Ф.Грабніцкі са сваёй ідэалагічнай праграмай, заснаванай на ідэі паміж супрацьлеглымі тэалагічнымі запатрабаваннямі ў архітэктоніцы храма. Помнікамі, выкананымі ў стылі віленскага барока, Беларусь увайшла ў гісторыю еўрапейскай архітэктуры.

Клубок супярэчнасцяў і скажэнняў, звязаных з роллю уніяцкай царквы ў гістарычным развіцці Беларусі і лёсе беларускага народа, імкнуцца разблытаць гісторыкі **Л.Лыч**[207], **А.Грыцкевіч**[208], **Г.Галенчака**[209], **Л.Іванова**[210], **Г.Сагановіч**[211], **І.Марзалюк**[212],

[207] Лыч Л. Рэлігія і нацыянальная самасвядомасць беларусаў // Беларусіка – Albaruthenica / Рэд. А.Анціпенка і інш. – Мн., 1993. – Кн. 2: Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. – С. 58–68; Лыч Л. Уніяцтва: позірк у мінулае і сучаснасць // Настаўніцкая газета. – 1993. – 30 кастрычніка; Лыч Л. Уніяцтва ў лёсе беларускага народа // Голас Радзімы. – 1996. – № 39–48; і інш.

[208] Грыцкевіч А. Унія: праўда і мана // Культура. – 1993. – 22 снежня; яго ж: Уніяцкія тэндэнцыі і уніяцкая царква на Беларусі ў XV–XVIII стагоддзях // Хрысціянская думка. – 1993. – № 3. – С. 163–172; Грыцкевіч А. Уніяцкая царква на Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XIX стагодзьдзя // Хрысьціянская думка. – 1993. – № 3. – С. 118–132; Грыцкевіч А. Уніяцкія тэндэнцыі і уніяцкая царква на Беларусі ў XV–XVIII стагоддзях // Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine: The Foundations of Historical and Kultural Traditions in East Central Europe: International Conference, Rome, 28 April - 5 May 1990 / Ed. J.Kłoczowski and other. – Lublin-Rome, 1994. – P. 242–252; Грыцкевіч А. Уніяцкая царква на Беларусі ў XVIII ст. // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – С. 358–360; і інш.

[209] Галенчанка Г.Я. Царква, канфесія і нацыянальная свядомасць беларусаў у XV – XVI стст. // Наш Радавод: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пачатку XX стст». – Гродна, 1992. – Кн. 4, ч. 1. – С. 45–48.

[210] Іванова Л. Гісторыка – канфесійныя традыцыі ў асвятленні палемічнай публіцыстыкі канца XVI – пачатку XVII стст. // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII – XX ст., Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 212–213; Іванова Л. «Пункты заспакаення грэчаскай веры» 1632–



літаратуразнаўцы **А.Мальдзіс**[213], **М.Хаустовіч**[214], этнографы **М.Піліпенка**[215], **І.Чаквін**, **П.Церашковіч**, **М.Мікуліч**, **А.Рогалеў** і інш. аўтары. Да унійнай традыцыі ў ВКЛ у XV ст. і перадумоў 1596 г. звярнуліся **Ю.Бохан**[216], **Г.Галенчанка**[217], **У.Шаставец**[218], **С.Абламейка**[219].

Следуючы за гістарыяграфічнай традыцыйнай, **Т.М.Мікуліч** сцвярджае, што царкоўная унія "садзейнічала распаўсюджванню польска-каталіцкіх уплываў на беларускіх землях", і звязвае этнонім "русіны" толькі з праваслаўнай часткай беларускага этнасу. Тым не менш яна канстатуе факт выкарыстання пісьмовай старабеларускай мовы уніяцкім духавенствам, замацаванне яе побач з царкоўнаславянскай ва уніяцкім набажэнстве. Берасцейская унія, паводле назіранняў этнолага, прынесла насельніцтву Беларусі канфесійнае адрозненне ад "рускіх" Масковіі, а само уніяцтва як беларуская вера знайшла адлюстраванне ў этнічнай самасвядомасці нашых

1635 г.г. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 71–77.

[211] Сагановіч Г.М. Царкоўная вунія 1596 г. і пытанне нацыянальнай тоеснасці беларусаў у XVIII ст. // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – XX ст., Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 353–357.

[212] Марзалюк І.А. Ментальнасць гарадскога насельніцтва Беларусі ў XVI – XVIII ст. (па матэрыялах Магілёва) // Наш Радавод: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XII – XX ст.» (Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г.). – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 237–242; Марзалюк І.А. Магілёў у XII – XVIII стст. Людзі і рэчы. – Магілёў – Мінск, 1998.

[213] Мальдзіс А. Францыск Скарына як прыхільнік «церковной единоты» // Полымя. – 1990. – № 8. – С. 203–208.

[214] Хаустовіч М. Скасаванне уніі і беларуская ананімная літаратура // Unia Brzeska. Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich / Pod red. R.Łużnego, F.Ziejki, A.Kępińskiego. – Kraków, 1994. – S. 507–518; Хаустовіч М. Ігнат Даніловіч і «Катэхізіс» 1835 г. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 1999. – С. 144–152.

[215] Піліпенка М. Беларуская традыцыйная культура як феномен еўрапейскай цывілізацыі // Беларусіка. Ч.6: Беларусь паміж Усходам і Захадам: Праблемы міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу. – Мн., 1997. – С. 4–7.

[216] Бохан Ю. Да пытання аб ідэалагічных перадумовах Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 22–40.

[217] Галенчанка Г. Пасланне да папы рымскага Сікста IV. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1605 г. // Наш Радавод. – Кн. 8: Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст.: Матэрыялы міжнароднага круглага стала, Гродна, 28–30 верасня 1999 г. – Гродна – Беласток, 1999 (2000). – С. 79–107.

[218] Шаставец У. Брэсцкая унія: перадгісторыя, падрыхтоўка, заключэнне // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С.Марозава, Т.Казакова, Ю.Бохан і інш.; Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 40–53.

[219] Абламейка С. Хай усе будуць адно // Беларуская мінуўшчына. – 1994. – № 4. – С. 33–36.

продкаў[220]. Дваістае становішча уніятаў і адначасна імкненне да нейкай раўнавагі стварала ў іх адпаведны тып свядомасці, жыццёвы код. На думку Т.Мікуліч, менавіта з часу ўмацавання уніяцтва, калі пад уздзеяннем шэрагу фактараў (насычэнне пісьмовай "рускай" мовы мясцовымі асаблівасцямі і інш.) актуалізуецца беларуская этнічнасць, пачала выпрацоўвацца суадносная з гэтай канфесіяй беларуская адаптацыйная стратэгія. Побач з ёй у пачатку XVII ст. на насельніцтва Беларусі ўплывалі яшчэ дзве адаптацыйныя стратэгіі: усходняя (руская) і заходняя (польская), суадносная адпаведна з праваслаўем і каталіцтвам [221].

**А.Рогалеў** мяркуе, што этнонімам "беларусцы", які з'явіўся на мяжы XVI–XVII ст., называлася каталіцкае і уніяцкае насельніцтва ВКЛ. Прыняцце каталіцтва і уніяцтва паскорыла ўсведамленне беларусамі-ліцвінамі сваёй нярускасці. Прымусовае пераварочванне ва уніяцтва ўзмацняла іх цягаценне да ўсходнеславянска-рускага этнакультурнага "кола", што ў сваю чаргу абумовіла жыццястойкасць русінаў і адначасова прыводзіла да паступовага аддалення ад беларусаў-ліцвінаў у культурна-светапоглядных адносінах[222].

Непасрэдныя і адлеглыя ў часе этнакультурныя вынікі стварэння, функцыянавання і ліквідацыі уніяцтва на Беларусі даследуе **С.В.Марозава**. Яе бачанне берасцейскага працэса грунтуецца на наступных асноўных палажэннях[223]:

1. Берасцейская унія – фенаменальная з'ява культурна-цывілізацыйнага пагранічча, гістарычна дэтэрмінаваная геапалітычным становішчам Беларусі. Яна завяршыла канфесійна-культурныя пошукі, якія ішлі тут на працягу XVI ст., і з'явілася ў выніку збегу як комплексу еўрапейскіх рэлігійна-палітычных адносін 60–90-х гадоў XVI ст., так і ўнутраных абставін. З апошніх галоўным было імкненне часткі беларуска-ўкраінскай інтэлектуальнай эліты да пераадолення духоўнага крызісу грамадства праз перабудову царкоўна-рэлігійнага жыцця на шляхах інтэграцыі з каталіцкім посттрыдэнцкім Захадам, які кінуў магутны культурна-інтэлектуальны выклік усходнеславянскаму свету і даў прыцягальны прыклад аздараўлення культавых інстытутаў.

[220] Мікуліч Т.М. Мова і этнічная самасвядомасць. – Мн., 1996.
[221] Мікуліч Т.М. Рэлігійная сацыялізацыя насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і праблема адаптацыйнай стратэгіі // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII – XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 234.
[222] Рогалев А.Ф. Белая Русь и белорусы (В поисках истоков). – Гомель, 1994. – С. 241.
[223] Марозава С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596 – 1839 гады) / Пад навук. рэд. У.М.Конана. – Гродна, 2001.



Інтарэсы суб'ектаў уніі не супадалі. У мэтах, умовах і мясцовай практыцы яна ў той ці іншай ступені мела характар этнаабароны, захавання ўласнай духоўнай тоеснасці. Лідары уніяцкай царквы дастаткова паслядоўна адстойвалі мясцовыя рэлігійна-палітычныя і этнакультурныя інтарэсы на фоне польска-ватыканскай палітыкі. Сімпатыі Рыма і польска-каталіцкіх колаў да уніяцтва з яго прэтэнзіяй на царкоўна-культурную індывідуальнасць і супрацьдзеяннем лацінізацыі не варта перабольшваць. Змена абраду з усходняга на лацінскі была пастаяннай крыніцай непаразуменняў паміж уніяцкай і каталіцкай цэрквамі. Уніяцкая іерархія намагалася спыніць гэтую практыку праз умяшанне папства.

2. Уніяцтва стала натуральным месцам спаткання дзвюх хрысціянскіх традыцый і сінтэзавала на мясцовай глебе розныя культурныя пачаткі Беларусі, ахапіўшы глыбокія пласты жыцця людзей, асветы, мастацтва. Яно стваралася на спрадвечнай візантыйска-славянскай аснове з дапушчэннем заходніх запазычанняў і развівалася ва ўзаемадзеянні дзвюх тэндэнцый: абараняўшай чысціню і недатыкальнасць усходняга абраду і накіраванай на лацінізацыю, якія то ўжываліся разам, то спрачаліся за прыярытэт, чым забяспечвалі дынаміку культурна-гістарычнага "партрэта" уніяцтва. Узнікшай на скрыжаванні дзвюх культур і цэркваў уніяцкай веры было наканавана балансаваць паміж імі, і схіленне ў адзін ці другі бок было аднолькава небяспечным, бо пагражала стратай уласнай канфесійнай ідэнтычнасці. Заходнехрысціянскія запазычанні ўваходзілі натуральным шляхам, калі для іх ужо мелася глеба. Прыўнесеныя штучна выклікалі адпор і нараджалі рух за рэарганізацыю царквы ў духу берасцейскіх умоў. Мяжа, пастаўленая навацыям гэтымі ўмовамі, была пяройдзена ў XVIII ст. Супраць змены літургічнай традыцыі выступалі І.Руцкі, А.Сялява, Я.Суша, Л.Кішка, І.Лісоўскі. Эвалюцыя уніяцкай веры адбывалася пад уплывам наступных фактараў: пазіцыя Рыма, палітыка ўрада Рэчы Паспалітай, паслядоўнасць правядзення ў жыццё ўласнай царкоўнай і нацыянальнай лініі, этнаканфесійная свядомасць вернікаў.

3. 1596 г. унёс дынаміку ў, здавалася, нерухомыя пласты гісторыі: выклікаў усплёск актыўнасці беларускага этнасу, стаў каталізатарам росту этнічнай, культурнай, канфесійнай і гістарычнай

самасвядомасці па абодва бакі уніяцка-праваслаўнага муру, спрыяў павышэнню гістарычнай культуры, разам з тым ён паглыбіў рэлігійнае супрацьстаянне ў грамадстве і спарадзіў супрацьлеглыя ацэнкі сучаснікаў. Ідэолагі кожнага з табараў толькі сябе лічылі выразнікамі інтарэсаў народа, ад яго імя апелявалі і менавіта на падставе сваёй веры бачылі шлях кансалідацыі рэлігійна неаднароднага этнасу. Арганізатары уніі ўсведамлялі сваю справу годнай, законнай, нават выратавальнай, уяўлялі яе фактарам абнаўлення хрысціянства, яднання, выканання волі продкаў, але спатыкнуліся аб менталітэт па-традыцыяналісцку арыентаванай праваслаўнай большасці. Іх апаненты бачылі ў берасцейскай мадэлі уніі здраду свайму народу, Айчыне, знявагу нацыянальна-рэлігійных традыцый. Сутыкнуліся два разуменні абавязку перад духоўнымі традыцыямі і звычаямі продкаў.

Барацьба уніяцкай царквы за кананічную прастору, з аднаго боку, і вайна, абвешчаная ёй праваслаўнай апазіцыяй, з другога, сталі крыніцай пастаянных узрушэнняў у дзяржаве. Асабліва моцныя антыуніяцкія настроі панавалі да сярэдзіны XVII ст. З 30-х г. настроі шляхты, а з другой паловы стагоддзя – і ўсяго грамадства паварочваюцца ў бок уніі.

Шляхі прыняцця веры вызначылі наяўнасць дзвюх катэгорый вернікаў: добраахвотных і нявольных. Прымяненне прымусу абарочвалася яе фармальным прыняццем. Суіснаванне асноўных хрысціянскіх канфесій на Беларусі было дэтэрмінавана палітычнымі, сацыяльнымі, нацыянальнымі і культурнымі фактарамі. Набліжэннем да каталіцкага Захаду уніяты адштурхнулі ад сябе праваслаўнае насельніцтва ВКЛ і афіцыйную Расію, якая падагравала антыуніяцкія настроі на Беларусі, чым фармавала ў іх антырасійскі менталітэт. Яны не былі прынятыя роўнымі і на Захадзе. Польска-каталіцкія колы прышчэплівалі уніятам комплекс ніжэйшасці і няпоўнавартаснасці, чым разбуралі іх этнічную самасвядомасць. Уніяты ўпадабалі сваёй веры, лічылі яе больш дасканалай ў параўнанні з праваслаўем, разам з тым яны былі пазбаўлены сляпога пакланення Захаду, выхоўваліся царквой у духу вернасці сваёй дзяржаве – ВКЛ.

4. 1596 г. даў моцны штуршок актывізацыі інтэлектуальна-культурнага жыцця, якая праявілася ў літаратурным уздыме, росквіце перакладчыцкай дзейнасці, кароткачасовым узлёце кірылічнага



кнігадрукавання, актывізацыі школьнай справы, навуковага вывучэння мінулага, увядзенні нацыянальнай мовы ў сакральную сферу. Культуратворчая дзейнасць уніяцкай царквы спрыяла павышэнню ўзроўню пісьменнасці і асветы на Беларусі, падрыхтоўцы значнага пласту інтэлігенцыі, стымулявала развіццё мастацтваў, у тым ліку нетрадыцыйных для класічнага праваслаўя, пашырала міжнародныя кантакты, садзейнічала набліжэнню Беларусі да еўрапейскай культурнай прасторы. Культуратворчая дзейнасць узмацняецца з канца XVII ст. са стабілізацыяй царквы; яе росквіт і нараджэнне новых творчых павеваў адбываецца ў XVIII ст. У сувязі з функцыянаваннем уніяцкай царквы фармуецца пласт культуры (у галіне кнігадрукавання, архітэктуры, жывапісу, скульптуры, музыкі) з выразна акрэсленымі нацыянальнымі асаблівасцямі.

Рэвізія уніяцкага культурна-абрадавага комплексу, якая спадарожнічала духоўнай пераарыентацыі Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст., і запаўненне вызваленай нішы каштоўнасцямі іншакультурнага паходжання – гвалтоўны і штучны працэс, які абярнуўся вымываннем магутнага пласту нацыянальнай культуры і разрывам культурнай пераемнасці.

5. Уніяцкая царква праводзіла сваю мэтанакіраваную і ўсвядомленую, арыентаваную на ўласную паству – просты беларускамоўны народ і дробную шляхту – моўную лінію. У яе аснове ляжала ўвядзенне ў сакральную сферу беларускай мовы пры захаванні кананічнасці царкоўнаславянскай, якая падвяргалася дэмакратызацыі і беларусізацыі, што было паказчыкам уключанасці царквы ў нацыянальны культурны працэс. У канцы XVI – першай палове XVII ст. яна задавала тон у беларусізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцця. Лінгвістычная сітуацыя ў царкве карэктавалася дзяржаўнай палітыкай і культурнымі павевамі часу. Пашырэнне польскай мовы было працэсам эвалюцыйным і з'яўлялася адлюстраваннем змены моўных арыентацый у грамадстве. Яна загучала ў царкве спачатку эпізадычна, а бліжэй да канца XVII ст. – усё часцей, і спускалася з вяршыні іерахічнай лесвіцы і базыльянскага ордэна, прадстаўленых выхадцамі са шляхецкага саслоўя, на яе сярэднія і ніжэйшыя прыступкі. Пранікненне польскага слова выклікала супраціў патрыятычна настроеных уніяцка-базыльянскіх колаў. Латынь была прынята духоўнай элітай, але шырокага распаўсюджання ва уніяцкім асяроддзі не атрымала. На нізавым узроўні царкоўнай лесвіцы і ва

уніяцкай вёсцы з яе лінгвістычным імунітэтам народная мова захавалася да 1839 г.

З канца XVIII ст. лінгвістычная сітуацыя ў царкве штучна мяняецца на карысць польскай мовы (у першай чвэрці XIX ст.), з другой паловы 1820-х г. культывуецца расійская мова. Тады ж аднаўляецца пахіснуты ў XVII–XVIII ст. статус царкоўнаславяншчыны, якая была прыведзена ў адпаведнасць з расійскай рэдакцыяй.

6. Прынятце уніяцтва не змяняла этнічнай тоеснасці і арыентацыі вернікаў. Яго носьбіты аднолькава з праваслаўнымі лічылі сябе, сваю веру, абрады, храмы, духавенства, прыходы, населеныя пункты "рускімі". У XVII–XVIII ст. "рускасць" уніятаў прызнавалі Польшча, Ватыкан, мясцовае праваслаўнае насельніцтва. Арэал распаўсюджання канфесіі супадае з акрэсленай ў XIX – пачатку XX ст. этнічнай тэрыторыяй Беларусі. Уніяцтва спрыяла этнічнай індывідуалізацыі беларусаў ва ўсходнеславянскай супольнасці, дыферэнцыяцыі раней "адзінай русі".

З канца XVIII ст. адбываецца падрыў этнаканфесійных стэрэатыпаў "руска"-уніяцкага насельніцтва ВКЛ: яму накідваецца польская і расійская тоеснасць, што вядзе да двайнога этнаграфічнага рабаўніцтва беларусаў. Асноўны масіў уніятаў стаў этнічным матэрыялам для росту расійскай народнасці. Старая "рускасць" была ператворана ў "расійскасць".

7. Дэунізацыя 1780–1839 г. абярнулася асабістымі і грамадскасацыяльнымі трагедыямі. Яна выклікала масавую праяву нацыянальна-рэлігійнага патрыятызму народа, які адказаў адданасцю сваім пастырам, абрадам, традыцыям. Антыўз’яднаўчы рух ахапіў усю Беларусь, хоць меў больш актыўны і арганізаваны характар на ўсходзе, і дасягнуў апагею ў другой палове 1830-х г. Яго сацыяльную базу складалі шэраговае духавенства, базыльяне, шляхта, сяляне. Рух умацоўваў сувязь між пакаленнямі і праяўляўся ў абароне сваіх сакральных рэліквій і выкарыстанні забароненай культавай атрыбутыкі, выгнанні місіянераў і камісій па пераварочванню, байкоце новаправаслаўнага духавенства і накінутай абраднасці, у прыцягненні да касцёла, адмове святароў ад удзелу ў "падпісной" кампаніі, непрыняцці новых служэбнікаў, падачы петыцый на царскае імя. Настальгія па уніі і страчанай разам з ёю сакральнай культуры захоўвалася да пачатку XX ст.



**Я.Анішчанка**[224], **М.Хаустовіч**[225], **А.Філатава**[226], **І.Мядзведзеў**[227], **С.Таляронак**[228], **С.Токць**[229], **В.Сяховіч**[230] і інш. даследчыкі пераасэнсоўваюць дзяржаўную рэлігійную палітыку на Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. і яе праламленне ў свядомасці і лёсе народа. **У.Сосна** разглядае уніяцтва як адзін з важных фактараў у кантэксце грамадска-палітычнага жыцця дарэформеннай беларускай вёскі[231]. **В.Цяплова** аналізуе ўплыў лацінізацыі

---

[224] Анішчанка Я.К. Канфесійнае становішча ў Магілёўскай і Полацкай губернях (70–80-я гады XVIII ст.) // Весці Акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. – 1994. – № 4. – С. 51–60; Анішчанка Я.К. Перавод беларускіх уніятаў у праваслаўе у 1781–1783 гг. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С.Марозава, Т.Казакова, Ю.Бохан і інш.; Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 77–84; Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796 гады) / Пад рэд. У.А.Сосна. – Мн., 1998.

[225] Хаўстовіч М. Скасаванне уніі // З гісторыяй на «Вы»: Публіцыстычныя артыкулы. Вып. 2 / Уклад. У.Арлова. – Мн., 1994. – С. 107–117.

[226] Філатава А. І.Сямашка: «Каб памяць мая засталася» // Культура. – 1994. – № 13. – С. 6; Філатава А. Палітыка царскага ўраду ў адносінах да уніяцкай царквы (1772–1838) // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Рэд. А.А.Акінчыц. – Брэст, 1997. – С. 84–88; Fiłatawa A. Kościoł unicki a tożsamość białorusinów (koniec XVIII – pierwsza połowa XIX wieku) // Polska–Ukraina: 1000 lat sąsiedztwa. – T. 4: Katolickie unie kościelne w Europie Srodkowej i Wschodniej – idea a rzeczywistość. – Przemyśl, 1998. – S. 199–202; Філатава А.М. Уніяцкая царква і Полацкі Сабор 1839 г. // Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.) / В.В.Грыгор’ева, У.М.Завальнюк, У.І.Навіцкі, А.М.Філатава; Навук. рэд. У.І.Навіцкі. – Мн., 1998. – С. 5–20; Филатова Е.Н. Конфессиональная политика царского правительства в Беларуси. 1772–1860 гг.: Дис. … канд. ист. наук: / НАН Беларуси, Институт истории. – Минск, 2001.

[227] Мядзведзеў І. Самая ганебная старонка // Літаратура і Мастацтва. – 1994. – 26 жніўня. – С.13.

[228] Таляронак С. Палітыка царызму ў адносінах да каталіцкай і уніяцкай царквы на Беларусі (1772–1839) // Весці АН Беларусі. Серыя грамадскіх навук. – 1992. – № 2. – С. 60–62.

[229] Токць С. Барацьба вернікаў–уніятаў Гродзенскай губерні супраць скасавання уніі (30–ыя гг. XIX ст.) // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Рэд. А.А.Акінчыц. – Брэст, 1997. – С. 55–59.

[230] Сяховіч В. Уніяцкая царква ў Беларусі пры імператары Паўле І // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: Стан і перспектывы развіцця: Матэрыялы II Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў, Мінск, 10–11 красавіка 1997 г. / Беларуская асацыяцыя гісторыкаў // Мн.: БДУ, 1996. – С. 89–91; Сяховіч В.А.Далучэнне уніятаў Мінскай губерні да праваслаўя ў 1794–1795 г. // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 3. – 2000. – № 3. – С. 11 – 14.

[231] Сосна У. Як спрабавалі «ўз’яднаць» сялян–уніятаў (з запісак Г.Дабрыніна) // Спадчына. – 1993. – № 2. – С. 78–81; Сосна У. Ліквідацыя царкоўнай уніі ў беларускай вёсцы (30–ыя гады XIX ст.) // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII – XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г.). – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 383–387; Сосна У. «... С благочестивым свирепством всекал униат в православие» // Беларуская мінуўшчына. – 1996. – № 4. – С. 8–11; Сосна У. Уніяцкае пытанне ў беларускай вёсцы ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С.Марозава, Т.Казакова, Ю.Бохан і інш.; Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 90–103; Сосно В. Методи «возз’єднання» білоруських селян–

на ўз'яднанне уніятаў[232]. Не віна, а бяда беларускіх гісторыкаў, як піша **М.Хаустовіч**, што яны не змаглі грунтоўна даследаваць прычыны трагедыі уніяцкай царквы ў 1830-я г. і даць праўдзівую гісторыю Бацькаўшчыны. Але гэта прывяло да таго, што "белыя плямы гісторыі ляглі чорнымі плямамі на нацыянальную самасвядомасць нашага народа". Ён бачыць ва ўдушэнні расійскім царызмам уніі сродак яго замацавання на захопленых беларускіх тэрыторыях. Даследчык звяртае ўвагу на неакцэнтаваны ранейшай літаратурай факт: далучэнне 1794–1795 г. дасягнула значных поспехаў толькі на Украіне, а беларускія уніяты аказаліся больш паслядоўнымі і аддадзенымі сваёй веры: адны не выказвалі асаблівага жадання да "ўз'яднання", а другія – вядома, гэта была меншасць – разам з панамі ўзнімалі народ на супраціўленне. На Полаччыне, як прызнаваліся самі "воссоединители", ні было аніводнай парафіі, дзе б так званыя "частные воссоединения" 1833–1837 г. адбываліся добраахвотна, без усялкіх пратэстаў, а ў Віцебску наогул рэальнай была магчымасць арганізаванага супраціўлення. Арышты і высылкі на гэтай глебе сталі звычайнай з'явай беларускай рэчаіснасці. З упартымі святарамі і мніхамі-базыльянамі Сямашку давялося змагацца да канца свайго жыцця.

Перажыткі і водгукі уніі пасля 1839 г. вывучаюць **У.Навіцкі**, **В.Грыгор'ева** і **А.Філатава**[233]. **У.Розенфельд** і **І.Запрудскі** ў сваіх навуковых распрацоўках выходзяць на месца уніяцкага пытання ў паўстанні 1863-1864 гадоў і погляд на яго К.Каліноўскага[234].

уніатів // Берестейська унія (1596–1996): Статті й матеріали / Ред. кол. М.Гайковський та інш. – Львів, 1996. – С. 111–115.

[232] Теплова В.А. Влияние латинизации унии на воссоединение униатов в 1839 г. // Материалы научно–богословской конференции, посвященной памяти преподобномученика Афанасия, игумена Брестского, и 400–летию Брестских церковных соборов. Брест, 16–19 сентября 1996 г. – Мн., 1997. – С. 75–82.

[233] Грыгор'ева В. Уніяцкая вера і рэлігійная свядомасць беларусаў (другая палова XIX – пач. XX ст.ст.) // Наш Радавод. Кн.7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – С. 391–394; Грыгор'ева В., Навіцкі У., Філатава А. Уніяцтва на Беларусі пасля Полацкага сабора 1839 г. і да нашых дзён // Беларускі гістарычны часопіс. – 1996. – № 2. – С. 45–57.

[234] Розенфельд У.Д. Проблемы веры и церкви в наследии Кастуся Калиновского // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пачатку XX стст.» – Гродна, 1992. – Кн.3; Розенфельд У.Д.: Наследие Кастуся Калиновского и религиозная идентификация белорусов // Брэсцкая царкоўная унія 1596 г.: гісторыя і культура: Тэматычны зборнік навуковых прац. – Брэст, 1996; Запрудскі І. Пытанне уніі ў газеце Кастуся Каліноўскага «Мужыцкая праўда» // Unia Brzeska. Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich / Pod red. R.Łużnego, F.Ziejki, A.Kępinskiego. – Kraków, 1994. – S. 519–525.



Адказам на ўзрослую цікавасць да праблемы навукі, якая усвядоміла нядзольнасць традыцыйных падыходаў даць поўную і аб'ектыўную карціну уніяцкага царкоўна-рэлігійнага руху, і на попыт грамадства на аб'ектыўную, пазбаўленую ідэалагічных штампаў, інфармацыю аб уніі, стала правядзенне на Беларусі шэрагу навуковых канфрэнцый[235], на якіх разглядаліся не толькі гістарыяграфічна "збітыя" яе ідэалагічныя і палітычныя аспекты, але і новыя нюансы гісторыі: светапоглядныя, філасофскія, тэалагічныя, маральныя, асветніцкія, этнічныя і інш.

Новы падыход да праблемы прагучаў у выступленнях вучоных Беларусі і суседніх краін на канферэнцыях, праведзеных у 1996 г. у Брэсце. Беларуска-ўкраінскі епіскапат, паводле сцвярджэння знаўцы уніі Л.Цімашэнкі з Украіны, шляхам згоды з польскай уладай і касцёлам намагаўся абараніць сваю царкву і яе нацыянальную годнасць. Аналізуючы палажэнні "Дагавора лацінскага і рускага духавенства" 1595 года ён прыходзіць да высновы, што большасць іх мае нацыянальна-ахоўную скіраванасць (клопат пра захаванне нацыянальнага абраду, роднай мовы). С.Марозава звярнула ўвагу на адстойванне уніяцкай царквой сваёй этнакультурнай самабытнасці, чаму сугучна назіранне У.Шаставец, што пропаведзь І.Пацеям некаторых заходнехрысціянскіх догматаў не замінала яму быць абаронцам адметнасці сваёй царквы.

На думку У.Кароткага, унія стала прычынай народнаснага, канфесійнага, родавага, сямейнага і, галоўнае, культурнага раздваення. Ідэя рэлігійнага адзінства ў рэальнасці прыводзіла да двайніцтва, раздваення асобы, што нярэдка спараджала рэнегацтва – дзяржаўнае, палітычнае, нацыянальнае. Да ліку дзеячаў-рэнегатаў ён адносіць К.Тарлецкага, І.Кунцэвіча, абвергшых сістэму поглядаў, да якой раней належалі; М.Сматрыцкага, якія адмовіўся ад ім жа самім выпрацаваных пастулатаў.

[235] Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пачатку XX стст., Гродна, 28 верасня – 1 кастрычніка 1992 г. / Пад рэд. Д.У.Карава. – Гродна, 1992. – Кн. 4–5; Брэсцкая царкоўная унія і уніяцкая царква ў гісторыі народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII – XX ст. », Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г.) / Пад рэд. Д.У.Карава. – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 334 – 418; Брэсцкая царкоўная унія 1596 г.: гісторыя і культура: Тэматычны зборнік навуковых прац / Навук. рэд. С.А.Яцкевіч. – Брэст: «Бацькаўшчына», 1996; Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Рэд. А.А.Акінчыц. – Брэст: Брэсцкі дзяржаўны універсітэт, 1997; і інш.

Крывы партрэт І.Руцкага, намаляваны даследчыкамі Расійскай імперыі, паспрабаваў выправіць У.Конан, паказаўшы яго тыповым беларускім культурным дзеячам з шляхты, якая апынулася на мяжы двух культур – беларускай паводле традыцыі і польскай паводле адукацыі і выхавання.

Паводле С.Токця, існаванне уніяцкай царквы на Беларусі з’яўлялася надзвычай істотнай умовай для ўзнікнення і развіцця беларускай (ці ліцвінскай) нацыянальнай ідэі, першыя парасткі якой пачыналі ўзыходзіць у асяроддзі уніяцкага духавенства, асабліва на Беласточчыне і Гродзеншчыне, у канцы XVIII – пачатку XIX ст. Скасаванне уніяцтва, якое перашкаджала поўнай і канчатковай нацыянальна-культурнай уніфікацыі беларускіх земляў з вялікарасійскімі, спараджала брак пачуцця адрознасці ў масавай свядомасці беларусаў, што пазбаўляла нацыятворчы працэс дынамізму, надавала яму пакутліва замаруджаны характар. Адсутнасць масавых народных хваляванняў і адкрытых выступленняў у абарону ліквідоўваемай уніяцкай царквы ён тлумачыць тым, што яна ў сілу многіх абставін не змагла, не здолела, не паспела стаць па-сапраўднаму нацыянальнай царквой беларусаў[236].

Цікавыя назіранні былі выказаны на другой брэсцкай канферэнцыі[237]:

- лацінскае духавенства абвінавачвала уніятаў у культываванні ўсходняй традыцыі і прытрымліванні догматаў, якія супярэчаць каталіцкай веры (А.Міранові́ч з Польшчы);

- канфесійная дыферэнцыяцыя народа ў канцы XVI – першай чвэрці XVII ст. не перашкаджала тагачасным палемістам лічыць яго адным этнасам, які яны вызначалі этнонімам "русь" у яго розных мадыфікацыях ("рускія", "русіны", "росы" і г.д.) (В.Старасценка);

- на думку К.Каліноўскага, без уласнай веры, "якую спавядалі бацькі, дзяды і прадзеды", беларус не мог нацыянальна скансалідавацца, самавызначыцца і набыць уласны твар у шматнацыянальным асяроддзі – "у этнічным катле Заходняга края", у якім вялі барацьбу за панаванне дзве сфармаваныя моцныя нацыі – палякі і рускія. Такой верай рэвалюцыянер лічыў уніяцтва (У.Розенфельд);

[236] Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Рэд. А.А.Акінчыц. – Брэст: Брэсцкі дзяржаўны універсітэт, 1997.
[237] Брэсцкая царкоўная унія 1596 г.: гісторыя і культура: Тэматычны зборнік навуковых прац / Навук. рэд. С.А.Яцкевіч. – Брэст: «Бацькаўшчына», 1996.



- беларускамоўны патэнцыял уніяцкай царквы, хаця і аказаўся істотна падарваным у выніку жорсткай паланізацыі, але напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай быў куды мацнейшы ва уніяцкай, чым у праваслаўнай царкве. З ліквідацыяй уніі беларуская мова на доўгі час была выведзена з царкоўна-рэлігійнага жыцця (Л.Лыч);

- у змене выгляду уніяцкага храма ў XVIII ст. неправамоцна бачыць сляпое жаданне імітаваць каталіцкі ўзор і абгрунтоўваць гэта выключна працэсам лацінізацыі. Апошняя хутчэй паслужыла толькі прычынай для еўрапеізацыі вобразу святыні. Уплыў лацінізацыі на знешні выгляд культавага помніка знаходзіцца ў цеснай узаемасувязі з агульнай еурапеізацыяй стылістычнай мовай архітэктуры. Доказам таму з’яўляецца свежы дэмакратычны струмень позняга барока і ракако, якія атрымаў асаблівае распаўсюджанне ва уніяцкай архітэктуры (Н.Шэляговіч); і інш.

Сваім удзелам у міжнародных канферэнцыях у Кракаве, Любліне і Львове, прысвечаных Берасцейскай уніі[238], беларускія навукоўцы ўнеслі ўклад у фармаванне сучаснай еўрапейскай навуковай думкі адносна яе.

Аўтараў першага ў беларускай савецкай і постсавецкай гістарыяграфіі **зборніка артыкулаў аб Берасцейскай уніі**[239] аб’яднала разуменне, з аднаго боку, неардынарнасці і унікальнасці гэтай з’явы, а з другога, – яе складанасці, супярэчлівасці, а таксама імкненне да ўзважанасці, доказнасці, уліку разнастайных крыніц, пераадолення канфесійнай зададзенасці. Адной з галоўных передумоў Берасцейскай уніі Ю.Бохан і У.Шаставец лічаць крызісны стан праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай, звязаны з пагаршэннем маральнасці духавенства, падзеннем яго аўтарытэту, недахопам належнай адукацыі, супярэчнасцямі паміж царкоўнай іерархіяй і міранамі, злоўжываннямі і бязладдзем у царкве, рэфармацыйным ударам і інш., што прымушала шукаць шляхі аздараўлення царквы і спараджала ў пэўных колах прарымскія настроі, якія падаграваліся езуіцкай прапагандай. Палітычны фактар, які спрыяў ідэі уніі, меў, на думку У.Шаставец,

[238] Unia Brzeska. Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich / Pod red. R.Lużnego, F.Ziejki, A.Kępińskiego. – Kraków, 1994; Unia brzeska z perspektywy czterech stuleci: Materiały międzynarodowego sympozium naukowego, Lublin, 20–21/IX 1995 r. – Lublin, 1998; Polska–Ukraina: 1000 lat sąsiedztwa. – T. 4: Katolickie unie kościelne w Europie Srodkowej i Wschodniej – idea a rzeczywistość. – Przemyśl, 1998; і інш.
[239] З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С.Марозава, Т.Казакова, Ю.Бохан і інш.; Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996.

другаснае значэнне. Жыццястойкасць антыуніяцкай апазіцыі даследчыца тлумачыць здаровым кансерватызмам, прывязанасцю і павагай да традыцый продкаў і імкненнем да універсальнай уніі, заключанай не з умовай прымата папы і прабачэння за сваю схізму, а на роўных правах.

У.Конан паказаў асобу мітрапаліта І.Руцкага як энергічнага і ўмелага будаўніка уніяцкай царквы, па-еўрапейску адукаванага тэолага і рэфарматара адукацыі, які дамогся адноснай стабілізацыі сваёй царквы ў дзяржаве. Пры ім адбываецца пераход ад барацьбы за яе існаванне да пераважна мірнай, творчасцвярджальнай дзейнасці. Заслугай Руцкага з'яўляецца стварэнне дапасаванага да сацыяльна-палітычных і царкоўна-культурных умоў ВКЛ базыльянскага ордэна. Ордэнскую школу прайшла значная частка асветнікаў і творчай інтэлігенцыі Беларусі эпохі барока і класіцызму. Базыльянскія навучальныя ўстановы паўплывалі на фармаванне першай плыні беларускага нацыянальнага Адраджэння ў XIX ст., хоць у склададзеных этна-палітычных канфліктах Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі яна не здолела пайсці па шляху беларускай культурнай самаідэнтыфікацыі.

А.Самусік асвятліў няўдалы праект адкрыцця ў Полацку уніяцкай духоўнай акадэміі. Ён лічыць, што стварэнне ўласнага цэнтра асветы такога ўзроўню змагло б умацаваць структуру уніяцкай царквы і зрабіць яе другой па значнасці сілай (пасля каталіцкай) ва ўсіх заходніх губернях імперыі.

Я.Анішчанка і У.Сосна ўвялі ва ўжытак новыя факты супраціву дэунізацыі канца XVIII – першай чвэрці XIX ст. Уніяцтва, зрабіў выснову У.Сосна, само па сабе не было патрэбна ні польска-каталіцкім, ні тым больш праваслаўна-расійскім вялікадзяржаўніцкім сілам.

Канферэнцыі, дыскусіі і публікацыі 90-х г. унеслі істотныя карэктывы ў разуменне феномена уніяцтва, узбагацілі яго і прынеслі ў гістарыяграфію шэраг новых пазіцый. Сярод іх: аб наяўнасці ўнутраных фактараў у заключэнні уніі; прызнанне уніяцкіх ідэолагаў і дзеячаў літаратурнымі аўтарытэтамі і іх ролі ў развіцці нацыянальнай культуры, а самой уніі важнай састаўной часткай гісторыі культуры; прызнанне ідэалагічна-мастацкіх вартасцяў літаратурнай спадчыны М.Сматрыцкага уніяцкага перыяду жыцця і гуманістычнага характару прац І.Пацея; назіранне, што перайманне каталіцкага вопыту не перашкаджала уніяцкай царкве адстойваць сваю адметнасць; падвергнута сумненню палажэнне аб уніяцкай царкве як сродку асіміляцыі беларусаў; "легалізацыя" яе ўкладу ў развіццё архітэктуры, жывапісу, музыкі, асветы; прызнанне факта небезбалеснасці ліквідацыі царквы для беларускага народа і яго культуры і г.д.



Стала відавочным, што, нягледзячы на неабсяжнае мора кніг і артыкулаў пра унію, яна застаецца яшчэ малавядомай; што дарэвалюцыйныя расійскія і савецкія гісторыкі пісалі гісторыю не уніі, а антыуніі; што працяг гістарыяграфіі ў рамках старых падыходаў на падставе ўжо адпрацаваных крыніц, без уліку дасягненняў вучоных замежных краін бесперспектыўны.

Аднак у бачанні падзеі 1596 г. і яе наступстваў сярод гісторыкаў краіны няма адзінства. 200-гадовая традыцыя ганьбавання уніі спачатку ў жыцці, а потым у навуцы выпрацавала ў шэрагу вучоных і дзеячаў царквы сапраўдны "антыберасцейскі сіндром". Спроба перагляду ранейшых схем прывяла да рэзкай контратакі ахоўнага кірунку гістарыяграфіі, схільнага ігнараваць найноўшыя навуковыя напрацоўкі. Гаворачы пра неабходнасць пераасэнсавання гістарычнага вопыту беларускага народа ў сувязі са зменай грамадска-палітычных умоў у Рэспубліцы Беларусь, якія ў цяперашні час дазваляюць гэта зрабіць, акадэмік **М.П.Касцюк** адзначыў: "... Ёсць памкненні пэўных грамадскіх сіл і прадстаўнікоў гістарычнай навукі не дапусціць аб'ектыўнага пераасэнсавання тых гістарычных старонак, якія не адпавядаюць праўдзе жыцця. І гэта нават заканамерна. У пераходныя перыяды, адзін з якіх мы перажываем сёння, заўсёды знаходзяцца прыхільнікі старога. Іх імкненне захаваць усё па-ранейшаму абумоўлена і інертнасцю мыслення, непрыняццем новых рэалій, і нежаданнем аб'ектыўна перагледзець тое, што рабілася імі раней, ... і шэрагам іншых прычын"[240].

Гістарыяграфічныя навацыі 90-х гадоў выклікалі зразумелыя нараканні і незадавальненне праваслаўных царкоўных гісторыкаў і патрыётаў праваслаўнай царквы, якія зыходзяць з тэзы аб ісціннасці толькі іх веры, яе перавазе над іншымі канфесіямі і ўспрымаюць гісторыю уніяцтва толькі з пазіцый яго супрацьстаяння з праваслаўем. Берасцейская унія для іх – гэта праява спрадвечнай, стала ідучай з Захаду пагрозы для пазнаўшых вышэйшую каштоўнасць грэка-візантыйскай традыцыі і ўласную

[240] Касцюк М.П. Гістарычны вопыт беларускага народа: вывучэнне і выкарыстанне // Гуманітарныя і сацыяльныя навукі на зыходзе XX стагоддзя. – Мн., 1998. – С. 323.

культурную асобнасць праваслаўных беларусаў, іх нацыянальны вораг.

Гэта гістарыяграфічная плынь у цэлым не пайшла далей за сваіх аўтарытэтаў – Бантыш-Каменскага, Каяловіча і інш., бярэ факты і аргументы з іх прац, а не з архіўных матэрыялаў, апошнімі далёка не вычарпаных. Будучы таму не ў стане даць новыя грунтоўныя працы і трактоўкі Берасцейскай уніі, яна стала на шлях перавыдання прац сваіх "класікаў"[241].

Інерцыя ў ацэнцы уніі вельмі моцная і ў свецкай навуцы. Так склалася, што гістарыяграфічная традыцыя лічыцца ісцінай. Разбурыць створаны ў XIX–XX ст. намаганнямі многіх пакаленняў гісторыкаў адмоўны імідж уніі нялёгка. Традыцыйная канцэпцыя сёння прымаецца многімі на веру, без звароту да крыніц, часта аказваецца мацнейшай за ўсялякія навуковыя довады.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што гістарыяграфічную традыцыю, якая ўзаконіла ганьбаванне уніі, наследавалі тыя гуманітарыі, якія самі не падвяргалі праблему спецыяльным даследаванням, не вывучалі па ёй архіўныя матэрыялы, а працуюць на аснове другаснага, значыць, ужо адпрацаванага матэрыялу і грунтуюць свае палажэнні на выбарачных "класічных" фактах і паблёклых аўтарытэтах папярэднікаў. У намаганнях сучасных паслядоўнікаў Каяловіча рэанімаваць яго погляд на беларускую гісторыю справа даходзіць да тэрміналагічнай блытаніны ("ненависть русских белоруссов к униатско-католической культуре"[242], вокрыкаў замест навуковай дыскусіі, навешвання ярлыкоў[243] і сапраўдных гістарыяграфічных недарэчнасцяў (перадрук раздзела "Беларуская" "народная" рэлігія" з брашуры Л.Абэцэдарскага пад іншым прозвішчам[244]) . З поля зроку гэтых гісторыкаў і філосафаў часцей за ўсё выпадае шэраг абставін, прызнаных нават іх дарэвалюцыйнымі калегамі: наяўнасць моцнай плыні за захаванне этнакультурнай самабытнасці уніяцкай царквы ў саюзе з

[241] Флеров И.И. О православных церковных братствах, противоборствовавших унии в Юго–Западной России в XVI, XVII и XVIII столетиях. СПб., 1857. Репринтное издание. – Мн., 1996; Коялович М.О. История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. – Мн., 1997; Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн., 1999.

[242] Анцыповіч М. Гульні ў «путаніцу» // Літаратура і Мастацтва. – 1995. – 24 лістапада. – С. 3.

[243] Гайдук М. Шоў няпраўды і нянавісці // Przegląd Prawosławny. – 1995. – № 3. – S. 19–20.

[244] Параўн.: «Беларуская» «народная» рэлігія // Абецадарскі Л.С. У святле неабвержных фактаў. – Мн., 1969. – С. 58 – 65; Волошин А. О «белорусской» «народной» религии // 7 дней. – 1996. – 20 студзеня.



Рымам, масавага супраціву скасаванню уніяцкай веры ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. і інш.

Такім чынам, айчынная навука не змагла выпрацаваць адзінага зладжанага і ўзгодненага погляду на пытанне аб месцы і ролі уніяцкай царквы ў лёсе беларускага народа і яго культуры. У гістарыяграфіі XIX–XX ст. ацэнкі Берасцейскай уніі мяняліся. Яны вагаліся ад прызнання яе "орудием искоренения" беларускай народнасці да прызнання сродкам выжывання нашага этнасу ва ўмовах паланізацыі XVII–XVIII ст. і русіфікацыі XIX ст. Наўнасць сёння супярэчлівых, узаемавыключных ацэнак толькі падкрэслівае складанасць праблемы. Неадназначнасць гэтай з'явы, наяўнасць у ёй розных плыняў, раскол, унесены ў 1720 г., незавершанасць працэсу развіцця уніяцтва, штучны яго абрыў у 1839 г. разам з ідэалагічнай і канфесійнай заангажаванасцю многіх даследчыкаў, якая зыходзіць з рэлігійнай, ідэалагічнай і культурнай раз'яднанасці беларусаў, ускладняюць фармаванне адзінай канцэпцыі, з'яўленне якой мела б для станаўлення беларускай нацыянальнай гістарычнай навукі вялікае практычнае і навуковае значэнне. Яе адсутнасць перашкаджае беларускай гістарыяграфіі стаць крыніцай кансалідацыі нацыі, чым з'яўляюцца, напрыклад, польская і руская гістарыяграфіі для сваіх народаў.

# Глава 8

## Спроба філасофскага асэнсавання праблемы

Паколькі ў плоскасці гістарычнага даследавання не ўдаецца спасцігнуць сутнасць з'явы уніяцтва і месца яго дзеячаў у несупярэчлівай, неантынамічнай форме пазнання, то ці нельга іх спасцігнуць з дапамогай вышэйшага, філасофскага асэнсавання? Такія спробы на Беларусі ўжо прадпрымаюцца. Для гродзенскіх філасофаў Берасцейская унія – гэта арганічны прадукт уласцівага беларускай культуры адмаўлення ад крайнасцяў[245].

Фармаванню сучаснага навуковага ўяўлення па праблеме спрыяюць працы **У.М.Конана**[246], які лічыць Берасцейскую унію адной з форм выяўлення беларускай ідэі. "У духоўна-рэлігійным аспекце, – піша ён у адной з іх, – беларуская ідэя самабытна выявілася ў праектах сусветнай царкоўнай уніі XV – XVI ст., якія часткова рэалізаваліся ў рэгіянальнай Брэсцкай уніі 1596 года. Яна праіснавала каля двух с паловай стагоддзяў, стаўшы па сваёй сутнасці беларускасялянскай царквою, трэцяй духоўнай сілай паміж нацыяналізаванымі ў XVII–XVIII ст. расійскім праваслаўем і польскім каталіцтвам"[247].

Новым сюжэтам у гістарыяграфіі стала пастаноўка пытання "Беларусь паміж Усходам і Захадам"[248], на якім да нядаўняга часу ляжала негалоснае табу, а выснова аб спрадвечнай прыналежнасці Беларусі да еўрапейскай цывілізацыі, якая напрошвалася ў кантэксце дылемы Усход – Захад, лічылася варожай і таму антынавуковай. Асэнсаванню феномена уніяцтва ў гэтым кантэксце прысвечаны працы **С.А.Падокшына**[249]. Значнай вяхой на гэтым шляху стала адзначаная новымі падыходамі і трактоўкамі кніга "Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска–гістарычны аналіз)"[250].

Аўтар зыходзіць з палажэнняў аб адметным характары заходняга, беларуска-ўкраінскага праваслаўя і гістарычнай перадвызначанасці Берасцейскай уніі геапалітычным становішчам ВКЛ, якое прымушала шукаць шляхі захавання палітычнай і духоўна-культурнай незалежнасці дзяржавы; але заганнасці ідэі і практыкі лакальнай уніі і рэлігійнага прымусу як першароднага граху саюза 1596 г. Вучоны лічыць патрэбным пазбавіцца ад трактоўкі прыхільнікаў уніі – прадстаўнікоў спецыфічнага тыпу дзеячаў "на мяжы культур" – як банальных здраднікаў, якія, кіруючыся амбіцыямі і карысцю, адмаўляліся ад сваіх рэлігійных і духоўна-культурных каранёў.

Паводле канцэпцыі С.А.Падокшына, у 70-80-я гады XVI ст. у ВКЛ склаліся дзве альтэрнатыўныя мадэлі духоўнага жыцця: ліберальная, рэнесансна-гуманістычная, падставай для якой з'яўляліся канфесійны плюралізм, верацярпімасць, інтэлектуальная свабода; і кансерватыўная, дзяржаўна-ахоўная, контррэфармацыйная, ў аснове якой ляжала ідэя уніі. Адмова ад першай, больш дасканалай і гістарычна перспектыўнай, і курс на унітарную, прымусовую і гістарычна немэтазгодную мадэль грамадска-рэлігійнага жыцця быў гістарычнай памылкай урада Рэчы Паспалітай і вялікай трагедыяй для беларуска-ўкраінскага грамадства. Замест чаканай кансалідацыі унія дэстабілізвала грамадства, адштурхнула ад улад знач-

---

[245] Асновы філасофіі: Курс лекцый / Рэд. А.В.Бадакоў, Ч.С.Кірвель, А.А.Бародзіч. – Гродна, 1994. – С. 216.

[246] Конан У.М. Беларуская культура XIII–XVII ст. і праблема нацыянальнага Адраджэння // Наш Радавод: Материалы международной научной конференции «Культура народов Великого княжества Литовского и Белоруссии», Гродно, 22–24.10.1991. – Гродно, 1991. – Кн. 3, ч. 2. – С. 293–298.; Конон В. Вера и нация: христианство в судьбе белорусов // Неман. – 1994. – № 5. – С. 156–164; Конан У. Уніяцтва на Беларусі: да праблемы рэлігійнай адаптацыі ў нацыянальнай культуры // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII – XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г.). – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 334–336; Конон В.М. Типология белорусской культуры в летописную эпоху: XI–XVII вв. // Русь – Литва – Беларусь: Проблемы национального самосознания в историографии и культурологии. – М., 1997. – С. 56–64; Конан У.М. Хрысціянства ў гістарычным лёсе Беларусі // Беларуская думка XX ст.: Філасофія, рэлігія, культура: Анталогія. – Варшава, 1998; Конан У.М. Драматычны шлях хрысціянства // Голас Радзімы. – 2000. – 5 студзеня; і інш.

[247] Конан У.М. Беларуская нацыянальная ідэя: гістарычны аспект і сучасныя праблемы // Літаратура і Мастацтва. – 1998. – 12 чэрвеня. – С.5.

[248] Подокшин С.А. Проблема «Восток – Запад» в общественно – философской мысли Белоруссии и России XVI–XVII вв. // Кніжная культура Беларусі: Зборнік навуковых прац. – Мн., 1991. – С. 40–44.

[249] Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. – Мн.,1990; Проблема религиозного выбора в общественной жизни Белоруссии XVI – XVII в. // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пачатку XX стст». – Гродна, 1992. – Кн. 4, ч. 2. – С. 453–461; Падокшын С.А. Падмурак дзяржаўнасці. Беларускае Адраджэнне XVI – пачатку XVII ст. // Літаратура і Мастацтва. – 1999. – 1 студзеня. – С. 5, 12; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска–гістарычны аналіз). 2–е выд. – Мн., 2000; Падокшын С.А., Сокал С.Ф. Палітычная і прававаая думка Беларусі XVI – XVII ст.ст. – Мінск, 2000. 2–е выд., дап.; Падокшын С.А. Іпацій Пацей: Царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох. – Мінск, 2001; і інш.

[250] Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска–гістарычны аналіз). – Мн., 1998; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска–гістарычны аналіз). 2–е выд. – Мн., 2000.

ную частку праваслаўнага насельніцтва і дапамагла расійскай экспансіі на Захад, выклікала грамадзянскі канфлікт такой моцы, які садзейнічаў разбурэнню дзяржавы. Прыхільнікі контррэфармацыйнай ідэі уніі па сутнасці ставілі ўсходнехрысціянскія духоўна-культурныя каштоўнасці ў залежнае становішча ад каштоўнасцяў заходнехрсціянскіх, а культурна-рэлігійны сінтэз на першым этапе ажыццяўляўся з дапамогай прымусу.

Прызнаючы здабыткі нацынальна-культурнай дзейнасці на базе уніяцтва, філосаф у той жа час перакананы, што яна не змагла кампенсаваць страты, панесеныя беларускай культурай у выніку рэлігійна-інтэлектуальнай нецярпімасці, канфесійнай дыскрымінацыі, пераследу іншаверцаў. Альтэрнатыўны Берасцейскай уніі "кіевамагілянскі" шлях інтэграцыі з Захадам, які грунтаваўся на добраахвотнасці, паступовасці, захаванні этнічнай і рэлігійнай адметнасці і свабоды, паводле сцвярджэння С.А.Падокшына, даў для беларускай культуры больш.

На пытанне, ці стала уніяцкая царква нацыянальнай, даследчык не адважваецца даць пэўны адказ. На яго погляд, існавала толькі тэндэнцыя яе пераўтварэння ў беларускую нацыянальную царкву, рэалізацыі якой перашкодзілі паланізацыя і каталізацыя "вярхоў", забарона уніяцтва на Полацкім саборы, палітыка царызма. Як, дарэчы, у сілу розных гістарычных абставін за некалькі апошніх стагоддзяў не ўдалося стаць агульнанацыянальнай ніводнай з існых у Беларусі хрысціянскіх канфесій. У канцы XVIII – першай палове XIX ст. уніяцкая царква стала ахвярай той неталерантнасці, якой сама дыскрэдытавала сябе на першым этапе сваёй гісторыі ў адносінах да праваслаўя. 1839 год, як і год 1596, у трактоўцы С.А.Падокшына, – катастрофа ў гісторыі беларускага народа, яго духоўна-рэлігійныма жыцці, акты знешняга ўмяшання ў натуральна абумоўлены працэс гістарычнага развіцця.

Шэсць савецкіх дзесяцігоддзяў замоўчвання дзейнасці уніяцкіх хрысціянскіх лідараў Беларусі і Украіны, дыскрэдытаваных канфесійна заангажаванай гістарыяграфіяй Расійскай імперыі, змяняліся ў беларускай гуманістыцы цікавасцю да іх персаналій. У "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі"[251] і энцыклапедычным даведніку "Рэлігія і царква на Беларусі"[252] кожнаму з іх прысвечаны артыкул. Філолагі сёння па-новаму перачытваюць творчую спадчыну уніяцкіх пісьменнікаў. У другой палове 90-х г. найбольшую ўвагу навукоўцаў прыцягнуў рэфарматар уніяцкай царквы Іосіф Руцкі[253]. Даследчыцкімі намаганнямі С.А.Падокшына ў навуку і гістарычную памяць беларускага грамадства вернута і часткова рэабілітавана імя галоўнага "архітэктара" Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. Іпацiя Пацея[254]. Звяртае на сябе ўвагу, што са старонак найноўшых прац згададзеныя постаці паўстаюць найперш як буйныя дзеячы культуры, што за імі прызнавалі нават іх праваслаўныя біёграфы XIX – пачатку XX ст. і ў чым ім адмаўляла савецкая гістарыяграфія.

Прыйшоў час, канстатуе філосаф, аб’ектыўнай, ідэалагічна неангажаванай, навуковай гісторыі, якая не падзяляе сваіх дзеячаў на "святых" і "грэшнікаў", "прагрэсіўных" і "рэакцыйных", а разглядае іх у адзінстве супрацьлегласцяў. У яго кнізе І.Пацей пададзены выдатным царкоўным, грамадска-палітычным дзеячам Беларусі і Украіны, арыгінальным мысліцелем і таленавітым пісьменнікам. Аўтар шэрагу высокамастацкіх публіцыстычна-палемічных і рытарычных твораў, напісаных на бліскучай, дасканалай беларускай мове канца XVI – пачатку XVII ст., носьбіт ідэі незалежнай беларуска-ўкраінскай царквы, І.Пацей паказаны ў той жа час супярэчлівай, як супярэчлівая і сама з’ява уніі, постацю, чые тэарэтычна-экуменічныя погляды разыходзіліся з яго практыкай.

У сваіх апошніх працах С.А.Падокшын распрацоўвае новую для беларускай гістарыяграфіі канцэпцыю гістарычнага дзеяча і мысліцеля "на пераломе эпох" і "мяжы культур" – тыпа царкоўнага і свецкага дзеяча са спецыфічным адметным менталітэтам, што склаўся на працягу IX–XVI ст. у духоўным жыцці Беларусі і Украіны, якія воляю гістарычнага лёсу апынуліся на цывілізацыйна-

[251] Казуля С. Кішка Леў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. / Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш. – Мн., 1997. – Т. 4. – С. 188; Лаўрык Ю. Пацей Іпацій // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. / Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш. – Мн., 1999. – Т. 5. – С. 454–455; Казуля С. Смагаржэўскі Ясон // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. / Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш. – Мн., 2001. – Т. 6. – Кн. 1. – С. 356; Казуля С. Сялява Антоній // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. / Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш. – Мн., 2001. – Т. 6. – Кн. 1. – С. 464; і інш.

[252] Рэлігія і царква на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік / Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш. – Мн., 2001.

[253] Конан У. Тэалагічныя і асветніцкія погляды Язэпа Руцкага // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнар. навук. канф. – Брэст, 1997. – С.23–27; Конан У.. Язэп Руцкі – будаўнік беларускай царквы // Крыніца. – 1996. – С. 3–15; Конан У. Я.Руцкі і станаўленне уніяцкай царквы // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / Пад рэд. М.В.Біча і П.А.Лойкі. – Мн., 1996. – С. 54–71; Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. – Мн., 1994; Конан У. Праект сваёй патрыярхіі // Голас Радзімы. – 1994. – № 9–12.

[254] Падокшын С.А. Іпацій Пацей: Царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох. – Мінск, 2001.

культурным памежжы, на раздарожжы хрысціянскага Усходу і Захаду. Характэрнай асаблівасцю менталітэту гэтага тыпу дзеячаў з'яўляецца імкненне да культурнага дыялогу, рэлігійнай згоды ў межах хрысціянства, інтэграцыі і сінтэзу паміж Усходам і Захадам. Прадстаўнікамі такога тыпу, паводле С.А.Падокшына, ў той ці іншай ступені былі Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Андрэй Волан, Стэфан і Лаўрэнцій Зізаніі, пэўны час Леў Сапега і Мялецій Сматрыцкі, кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі, навагародскі ваявода Фёдар Скумін-Тышкевіч, з некаторымі карэктывамі Фама Іеўлевіч, Пётр Магіла, Сільвестр Косаў і інш.

У кантэксце гэтай тэорыі ў разглядаецца і постаць шляхціца з Берасцейшчыны, берасцейскага пісара (з 1566 г.), удзельніка Люблінскага сойма 1569 г., чый подпіс стаіць пад актам уніі, і Лівонскай вайны, берасцейскага земскага суддзі (з 1576 г.) і кашталяна, сенатара Рэчы Паспалітай (з 1588 г.), епіскапа ўладзімірскага і берасцейскага (з 1593 г.), кіеўскага уніяцкага мітрапаліта (1599–1613 г.) Іпація Пацея і "Пацеева уніяцтва". Самім лёсам яму было наканавана жыць, дзейнічаць і тварыць у пераходны перыяд паміж Адраджэннем і Рэфармацыяй, з аднаго баку, і Контррэфармацыяй і Барока, з другога. Супярэчлівы характар пераломy эпох наклаў адбітак на яго светапогляд і творчасць і праявіўся ў калейдаскапічнай змене веравызнанняў, у наяўнасці ў самасвядомасці і паводзінах побач з шчырай рэлігійнасцю і палітычным рэалізмам, патрыятызмам, законапавагай схільнасці да рэлігійнага і грамадскага насілля, царкоўна-палітычнага інтрыганства, неправавых дзеянняў, непавагі да іншаверства і іншадумства.

З канца 1580-х г. ідэя аднаўлення, рэфармавання беларуска-украінскай праваслаўнай царквы на шляхах уніі, да якой, па меркаванню С.Падокшына, Пацея хутчэй за ўсё прыцягнуў Канстанцін Астрожскі, становіцца дамінуючай у светапоглядзе берасцейскага кашталяна, а потым епіскапа, рухаючай сілай яго дзейнасці.

У беларуска-ўкраінскіх інтэлектуальных колах на мяжы 80-90-х г. XVI ст. выношваюцца два праекты царкоўнай уніі. Першы варыянт – глабальнай, універсальнай уніі, прапанаваны К.Астрожскім, прадугледжваў аб'яднанне з Рымам не толькі беларуска-ўкраінскага, але і грэчаскага, маскоўскага, а таксама паўднёвага праваслаўя, згоду на гэты хаўрус Канстанцінопальскай і Маскоўскай патрыярхій. Гэты варынт, як трактуе яго С.А.Падокшын, меў рэнесансны, экуменічна-



гуманістычны характар, грунтаваўся на прынцыпах усеагульнасці і добраахвотнасці і супрацьстаяў контррэфармацыйнаму варыянту ўладзімірска-берасцейскага епіскапа, які меў лакальны характар – рэгіянальнай уніі, сінтэзу праваслаўя з каталіцтвам у межах Рэчы Паспалітай – і характар дэкрэтыўны. Пры ўсёй сваёй сімпатыі да першага варыянта уніі аўтар прызнае ўтапічнасць, нерэалістычнасць ідэі універсальнай уніі і ў той час, і сёння. Вучоны лічыць больш рэальнай ацэнку наяўнай палітычнай сітуацыі Пацеем – прыхільнікам "абмежаванай" уніі – і адзіна магчымым у тых гістарычных абставінах менавіта яго варыянт згоды. Значная ўвага ў працы ўдзелена гэтаму канцэптуальнаму канфлікту Пацея з Астрожскім, што растлумачвае нам яшчэ адзін нюанс гісторыі даберасцейскай Беларусі і Украіны.

Аўтар асуджае дэкрэтыўнае, звязанае з прымусам, увядзенне уніі, якое раскалола беларускую і ўкраінскую нацыі, вымусіла праваслаўных шукаць падтрымкі ў Маскве і, нарэшце, кінула ў яе абдымкі. Гаворачы пра прымус як "галоўную прыладу" "аб'яднальнай" дзейнасці Пацея, С.А.Падокшын прызнае, што ён карыстаўся не толькі сілавымі супрацьпраўнымі метадамі на ніве царкоўнай уніі, але спалучаў прымус з апеляцыяй да права, судовых устаноў, сеймікаў і соймаў. Даследчык перакананы, што нельга атаесамліваць практычную царкоўна-палітычную дзейнасць Пацея і яго дзейнасць інтэлектуальную, пісьменніцкую, тэарэтычную, светапогляд. Так, мітрапаліт стаяў ля вытокаў нараджэння уніяцкай сістэмы адукацыі з даволі выяўленай нацыянальнай тэндэнцыяй і шмат зрабіў для развіцця беларускага кнігадрукавання.

Пацееву ідэю інтэграцыі з заходнехрысціянскай царквой і культурай філосаф прызнае плённай і перспектыўнай, але практыку яе рэалізацыі лічыць заганнай. Замест міру і згоды, якія ён абвяшчаў, яго дзейнасць "з пазіцыі сілы" прынесла ў царкоўна-грамадскае жыццё беларускага і ўкраінскага народаў раскол, варажнечу, канфрантацыю; замест сінтэзу ўсходняй і заходняй культурна-рэлігійнай традыцыі – урэшце рэшт аднабаковую пераарыентацыю на заходнія каштоўнасці і культуру. У яго было шмат прыхільнікаў і не менш праціўнікаў, але ніхто з іх не адмаўляў яго вялікія здольнасці і талент.

Выпрацаваную Пацеем канцэпцыю грамадскага і духоўнага жыцця беларускага і ўкраінскага народаў, якая аддавала прыярытэт

заходняму кірунку духоўна-культурнага развіцця, С.А.Падокшын называе настолькі своеасаблівай, наколькі спрэчнай. Даследчык перакананы, што ў адрозненне ад праваслаўя, каталіцтва, пратэстанцтва уніяцтва – не рэлігійна-царкоўны, але больш шырокі, грамадскі, духоўна-культурны, сацыяльна-палітычны і ў пэўнай ступені нацыянальны рух. Унія, як разумеў яе Пацей, павінна была скрануць з месца традыцыйныя духоўныя асновы народнага жыцця, у значнай ступені змяніць менталітэт нацыі, раставіць новыя арыенціры і акцэнты ў яе рэлігійна-царкоўных і палітычных прыхільнасцях. Але, на думку аўтара, зрабіўшы такі лёсавызначальны крок, нацыянальна арыентаваныя уніяцкія дзеячы, пры ўсіх іх суб'ектыўных памкненнях збудаваць нацыянальную царкву, не змаглі ўтрымаць канфесійную незалежнасць ва ўмовах падначалення такой моцнай і ўплывовай царкоўнай уладзе, як папства. Падпарадкаванне беларуска-ўкраінскай царквы рымскаму першасвятару, паводле С.А.Падокшына, паскорыла працэс паланізацыі духоўнага жыцця беларуска-ўкраінскага грамадства, яго дэнацыяналізацыю.

У Пацеевай канцэпцыі уніі вучоны бачыць наступныя кампаненты: праблема "згоды"; ідэя вяршэнства папскай улады; непрымірымая барацьба з усякім рэлігійна-царкоўным іншаверствам; ідэя "направы", аднаўлення рэлігійна-царкоўнага і духоўна-культурнага жыцця беларускага і ўкраінскага народаў, магчымая толькі ў межах уніяцтва; ідэя ператварэння уніяцкай царквы ў царкву агульнанацыянальную; і інш. Аднак, неаднаразова падкрэслівае вучоны, тэарэтычная уніяцкая праграма Пацея рэзка разыходзілася як з яго практычнай дзейнасцю, так і наогул з тым, як рэалізоўвалася уніяцкая ідэя ў наступных стагоддзях. Сямён Аляксандравіч зыходзіць з заганнасці уніяцкай, беларуска-ўкраінскай мадэлі згоды, якая, па-першае, з'яўлялася лакальнай, па-другое, дэкрэтыўнай, значыць, нядобраахвотнай, прымусовай. Пацеева згода на самай справе прадугледжвала не кампраміс, а капітуляцыю свайго апанента.

У кнізе асуджаецца ўзятая творцамі уніі лінія на разрыў сувязяў беларуска-ўкраінскай уніяцкай царквы з Канстанцінопальскім і Маскоўскім патрыярхатамі, што было непрымальным для большасці праваслаўных беларусаў. У той жа час прызнаецца факт перамогі пасля інкарпарацыі Беларусі і Украіны ў склад Расійскай імперыі пазіцыі яе поўнага зліцця з рускай праваслаўнай царквой.



Філосаф адзначае ў светапоглядзе Пацея наступныя элементы нацыянальнай самасвядомасці: 1) імкненне адасобіцца ад грэка-візантыйскага і маскоўскага праваслаўя, выпрацаваць пэўную адметную – і ад праваслаўя, і ад каталіцтва – канфесію, хоць і залежную ад Рыма; 2) ідэя "направы" рэлігійна-царкоўнага і духоўна-культурнага жыцця беларуска-ўкраінскага рэгіёна, якая прадугледжвае развіццё адукацыі, кнігадрукавання, багаслоўя на роднай мове; 3) апеляцыя да айчыннай духоўна-культурнай традыцыі, заклік дбаць "на продкі свае", "на старожитность, на давность, на повшехность"; 4) уздым у творах праблем, якія з'яўляюцца адлюстраваннем беларускага менталітэту: праблем згоды, цярпімасці, палітычнай свабоды, міжканфесійных адносін, узаемадзеяння Усходу і Захаду і інш.; 5) напісанне асноўных твораў на тагачаснай літаратурнай беларускай мове. Гэтыя пяць пунктаў, на думку С.А.Падокшына, даюць даследчыкам падставу гаварыць і пісаць пра Пацея як пра ў большай ці меншай ступені нацыянальна арыентаванага царкоўнага дзеяча, мысліцеля і пісьменніка. Нягледзячы на уніяцкую тэндэнцыйнасць і нецярпімасць, заключае аўтар, культуралагічныя погляды Пацея мелі пэўны прагрэсіўны характар, арыентавалі на адраджэнне нацыянальнай духоўнай культуры, развіццё роднай мовы, свецкіх ведаў, адукацыі.

Пры нязгодзе з аўтарам па шэрагу пазіцый, трэба прызнаць, што прадпрынятае С.А.Падокшыным новае канцэптуальнае, гісторыка-філасофскае асэнсаванне жыцця, дзейнасці і творчасці Іпація Пацея – знакавая з'ява беларускай гістарыяграфіі, бо ўводзіць постаць уніяцкага мітрапаліта ў кантэкст айчыннай думкі і літаратуры, дае магчымасць гэтай неардынарнай, па-еўрапейску адукаванай асобе заняць адпаведнае і пачэснае месца ў гісторыі беларускай культуры.

Вызначальную ролю царкоўна-рэлігійнага фактара ў фармаванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў XVI–XVII ст. улічвае яе даследчык **В.У.Старасценка**[255], які развівае ідэі С.А.Падокшына. Ён зыходзіць з таго, што ў айчыннай грамадскай думцы складваюцца рознанакіраваныя тэндэнцыі разумення агульнага дабра і шляхоў далейшага развіцця беларускага этнаса, нятоесныя грамадска-

[255] Старостенко В.В. Белорусская мысль XVI–XVII вв. и становление национального самосознания: Дис. … канд. филос. наук / Ин–т филос. и права НАН Беларуси, 1996; Старостенко В.В. Общественно–философская мысль и национальное самосознание белорусов XVI–XVII вв.: Очерки истории. Учебное пособие. – Могилев, 1999.

палітычныя, этнакультурныя і рэлігійна-канфесійныя арыентацыі. Нягледзячы на палітычную зададзенасць, унія тэарэтычна ўтрымлівала пазітыўную ідэю царкоўнага прымірэння і духоўна-культурнага сінтэзу цывілізацыйных дасягненняў Усходу і Захаду, якая трывала замацавалася ў самасвядомасці адукаванай і прагрэсіўна думаючай часткі народа ў XVI – пачатку XVII ст. Праўда, услед за сваім настаўнікам ён лічыць праваслаўны варыянт сінтэза ўсходніх і заходніх каштоўнасцяў больш прыймальным для беларускага і ўкраінскага народаў.

Ускладнёная ўвядзеннем Берасцейскай уніі сацыяльна-палітычная і рэлігійна-канфесійная сітуацыя, паводле В.Старасценкі, наклала адбітак на характар грамадскай і нацыянальнай самасвядомасці гэтых народаў – на мяжы XVI–XVII ст. у іх менталітэце ўзмацняецца роля рэлігійна-канфесійнага кампанента. Аднак справакаваная уніяй канфрантацыя – вынік беспрэцэдэнтнага падаўлення рэлігійнай свабоды і сацыяльна-палітычнай дыскрымінацыі праваслаўных (уяўляецца, што аўтар у пэўнай меры пайшоў на паваду ў праваслаўных палемістаў і хадатаяў у Маскву, якія гіпербалізавалі прымус пры ўвядзенні уніі) – прывялі да таго, што грамадская свядомасць прасякаецца духам варожасці, рэлігійнай нецярпімасці; страчваецца несумненнае дасягненне эпохі Адраджэння і Рэфармацыі – рэлігійная і інтэлектуальная цярпімасць, дыялог, законапаслухмянасць, грамадская згода; а ў свядомасці насельніцтва ўсходняй часткі Беларусі нараджаецца ідэя палітычнай інтэграцыі з Расіяй, якую, аднак, істотна падарвала вайна 1654-1667 г.

Філосаф бачыць дзве тэндэнцыі ў канфесійнай і культурнай дзейнасці уніяцтва – беларусізацыі, якая выявілася ў фармаванні элементаў нацыянальнай культуры і нацыянальнай самасвядомасці, і адыгрываўшую па сутнасці дэнацыяналізатарскую ролю тэндэнцыю лацінізацыі-паланізацыі, якая найбольш ярка выявілася ва ўласна канфесійным жыцці і светапоглядзе. Пры ўсёй неадназначнасці і супярэчлівасці ўздзеяння уніяцтва на захаванне і развіццё нацыянальна-культурнай самабытнасці беларускага этнаса, заключае ён, на пэўных этапах сваёй гісторыі яно аб'ектыўна адыгрывала нацыянальна-ахоўную ролю і з'яўлялася перашкодай як масавай паланізацыі, так і русіфікацыі.



Аналізуючы ўплыў палемічнай літаратуры на станаўленне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў[256], даследчык адзначае, што пры ўсёй рознасці светапоглядных установак і культурна-рэлігійных арыентацый аўтараў, для ўсіх іх уласціва заклапочанасць гістарычным лёсам свайго народа. Адзначаецца, што шэраг палемістаў і грамадскіх дзеячаў (Канстанцін Астрожскі, Клірык Астрожскі, Захарыя Капысценскі, Хрыстафор Філалет) не выступалі супраць ідэі уніі як гэтакай, але мыслілі яе буйнамаштабным экуменічным актам.

У сваіх працах В.Старасценка няраз звяртаецца да пытання нацыянальна-культурнай арыентацыі І.Пацея як адной з ключавых постацяў публіцыстыкі і грамадскага жыцця на зломе XVI–XVII ст.[257] і прыходзіць да высновы, што яго літаратурная спадчына сведчыць пра беларускую ("рускую" па тэрміналогіі разглядаемага часу) самаідэнтыфікацыю берасцейскага епіскапа, пра даволі аб'ектыўную ацэнку стану праваслаўнай царквы на "Русі" канца XVI ст. – як драматычнага. Будучы прыхільнікам рэлігійна-культурнай пераарыентацыі "Русі", Пацей у той жа час вялікае значэнне надаваў захаванню нацыянальнай мовы, якую лічыў роднай, выдаў на ёй многія палемічныя трактаты і напісаў духоўны запавет; не ігнараваў і царкоўнаславянскай мовы.

Такім чынам, філасофска-гістарычны падыход да даследавання гісторыі Берасцейскай уніі канца XVI – першай паловы XVII ст. прывёў аўтараў (С.А.Падокшына, В.У.Старасценку), якія асуджаюць яе за прымус і падзяляюць праваслаўную праграму духоўна-культурнага аздараўлення тагачаснай "Русі", да прызнання наяўнасці ўнутраных фактараў для прарастання уніяцкай ідэі, дзвюх ліній развіцця уніяцкай царквы (беларусізацыі і лацінізацыі-паланізацыі) і здабыткаў нацынальна-культурнай дзейнасці на базе уніяцтва.

Аналізуючы праблему суадносін уніяцтва і духоўнай культуры,

[256] Старасценка В.В. Палемічная літаратура як крыніца вывучэння працэса станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларусаў // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 220–223.

[257] Старостенко В.В. Национальная самоидентификация и проблемы национальной жизни белорусов в творчестве И.Потея // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў Заходнім рэгіёне Беларусі: Гісторыя і сучаснасць: Матэрыялы рэспубл. навук. канф., Гродна, 5–6 снежня 1997 г. – Гродна, 1998. – С. 222–224.

філосаф **І.Ф.Рэкуц**[258] вылучае дзве тэндэнцыі яго развіцця: першая, вядучая – трансфармацыя і рэпрадуцыраванне ў праваслаўна арыентаванае асяроддзе каштоўнасцяў заходняй культуры; другая, больш слабая, – тэндэнцыя "самавызначэння", якая абапіралася на ўсходнюю праваслаўную культуру і выражала кансерватыўна-ахоўныя функцыі адносна падвергнутага каталіцкай экспансіі з Заходу традыцыйнага культавага мастацтва. Носьбітамі першай тэндэнцыі ў мастацка-творчай праяве уніяцтва былі замежныя майстры або акаталічаныя і спаланізаваныя мясцовыя мастакі, другой – выхадцы з дэмакратычных слаёў беларускага народа.

Як духоўна-культурная з'ява, паводле І.Рэкуца, уніяцтва не нарадзіла і не змагло нарадзіць уласнага мастацтва як цэласнай сістэмы мастацка-вобразнай творчасці са спецыфічнай ідэйна-тэарэтычна-тэалагічнай базай і адпаведнымі тыпалагічнымі асаблівасцямі, бо не ўяўляла сабой стройнага веравучыцельна-культавага адзінства, было ўнутрана супярэчлівым, стратным і недасканалым у духоўна-светапоглядных адносінах, пастаянна раздзіралася канфліктамі. Меўшыя месца спробы уніяцкай царквы ўнесці ў сферу мастацтва навaўвядзенні плёну не мелі. На справе яны ні да чаго не прыводзілі, акрамя як да стварэння па-мастацку няпэўных, нязграбных, бязлікіх у кананічных і мастацка-сімвалічных адносінах помнікаў. Тыя рэдкія мастацкія творы, як сцвярджае аўтар, якія з пэўнымі агаворкамі можна аднесці да твораў "уніяцкага мастацтва", характарызаваліся ярка выражаным эклектызмам, змяшаннем стыляў, сімбіёзнымі мастацкімі формамі антаганістычнага характару. Ён адмаўляе стваральную будаўнічую дзейнасць уніяцкай царквы – яна зводзілася да пераабсталявання інтэр'ера і архітэктонікі захопленых праваслаўных храмаў, што вяло да знявечвання іх вонкавага выгляду. Маляванне уніятамі абразоў на палатне і паперы ён лічыць прафанацыяй і вульгарызацыяй імі самога іканапісу, а "насаджэнне" ў храмах "матчынай мовы", насычанай паланізмамі, – прафанацыяй беларускай мовы.

Процілеглую ацэнку уніяцкага сакральнага мастацтва, у прыватнасці, жывапісу, дае філосаф **Т.І.Глушакова**[259]. Яна схільная бачыць ва уніяцкім іканапісанні з яго сакральным дэмакратызмам, парушэннем канона, у настойлівых спробах беларускіх майстроў XVII ст. перанесці біблейскія падзеі ў абставіны мясцовага асяроддзя, звыклыя воку вернікаў, не іх прафесійную няздольнасць і правінцыйнасць, але "жывапісны эквівалент нацыянальнай сістэмы мыслення" – жаданне наблізіць свой народ і сваю зямлю да сакральнай гісторыі, увядзенне ў беларускі абраз побач з агульначалавечым і нацыянальнага. Збліжэнне уніяцкага сакральнага жывапісу з мастацтвам Захаду адбывалася не за кошт адмовы ад свайго і набыцця чужога – візантыйская першаснова беларускага мастацтва не знікла. З візантыйскай канцэпцыі іконы беларускія майстры пераймаюць надзвычай высокую натхнёнасць вобразаў, але адмаўляюцца ад прынцыповай адхіленасці, архаізацыі стылю. Накіраваная на першапачатковае, непадзеленае хрысціянства, духоўна-рэлігійная традыцыя пасляберасцейскага перыяду абумовіла зварот іканапісу да сваіх вытокаў – прынцыпаў раннехрысціянскага мастацтва, супрацьпастаўленых як заходняму натуралізму, так і ўсходняй схаластыцы. Наступныя 50–60 гадоў ідуць пошукі разумных кампазіцыйных, стылявых, дэкаратыўных кампрамісаў, бачна імкненне да спалучэння ўсходне- і заходнехрысціянскіх традыцый ("Уваскрасенне Хрыстова"). Найперш пераймаюцца тыя рысы і ідэі ўсходняга і заходняга рэлігійнага жывапісу, якія найбольш адпавядалі менталітэту маладога беларускага этнасу.

Філосаф **І.Бугрова** вызначае уніяцтва як спробу арганізаваць лакальную прастору паміж еўразійствам і еўрапейскасцю, узмацніўшы тым самым тып культуры[260].

**Н.А.Кутузава** даказвае, што развіццё уніяцкай царквы ў 1620-я гады ідзе ў рэчышчы агульнаеўрапейскай тэндэнцыі – імкненне да ўмацавання дзяржаўнасці і аўтакефаліі. План І.Руцкага заснаваць уласны патрыярхат пацвярджаў прэтэнзіі уніяцкай царквы ВКЛ на ролю нацыянальнай, дзяржаўнай і прадугледжваў стварэнне монацаркоўнай, монаідэалагічнай дзяржавы[261].

[258] Рекуц И.Ф. Униатство и духовная культура Беларуси: Учебное пособие для студентов философско-экономического и исторического факультетов по одноименному спецкурсу. – Мн.: Белгосуниверситет, 1996.
[259] Глушакова Т.И. Религиозная живопись Беларуси позднего средневековья как объект социально–философского анализа (16–17 вв.): Автореф. дис. ... канд. филос. наук: / Бел. гос. ун–т. – Минск, 1993.

[260] Бугрова І. Ідэнтычнасць Беларусі: З вопыту «разумеючай» паліталогіі // Грамадзянская альтэрнатыва. – 1999. – № 1. – С. С. 37.
[261] Кутузова Н.А. Нация, религия и государственность в полемической литературе Беларуси конца XVI – первой половины XVII вв.: Учебное пособие / Научн. ред. Е.С.Прокошина. – Мн., 1998. – С. 63–64.

# Глава 9

## Публікацыі крыніц

Гісторыя Берасцейскай царкоўнай уніі на Беларусі нядрэнна забяспечана крыніцамі, што дае шырокія магчымасці для працягу яе даследавання. Унія, якая раней пачала выкладацца на паперы, чым была ўведзена на справе, пакінула багатую дакументальную спадчыну, толькі невялікая частка якой, аднак, засталася ў нашай краіне. Астатнія або страчаны ад часу, пажараў, войнаў, міжканфесійных звадаў, рэнегацтва духавенства і мэтанакіраванага знішчэння або месцяцца ў замежных архівах. "Уніятыка" складаецца з разнастайных, разнародных і разнамоўных крыніц беларускага і замежнага (украінскага, літоўскага, польскага, італьянскага, расійскага, французскага і інш.) паходжання. У распараджэнні даследчыка пісьмовыя помнікі наратыўныя і дакументальныя, царкоўныя і свецкія, канфідэнцыйныя і публічныя, прадузятыя і аб'ектыўныя, створаныя ў розных лагерах. Праз іх з намі размаўляюць людзі рознага сацыяльна-прафесійнага складу і канфесійнай арыентацыі, якія ўжо даўно адышлі ў нябыт: лідары сусветных цэнтраў хрысціянства, кіраўнікі дзяржаў і дыпламаты, вышэйшыя саноўнікі і прадстаўнікі мясцовых свецкіх і духоўных уладаў, вучоныя, пісьменнікі і мастакі, святары і манахі, магнаты і шляхта, гараджане і, радзей, сяляне.

Для рэканструкцыі падзей і працэсаў, звязаных са стварэннем, функцыянаваннем і ліквідацыяй уніяцкай царквы на Беларусі, можа быць выкарыстана ўся відавая разнастайнасць пісьмовых крыніц: летапісы, палемічныя творы, жыццяпісы, заканадаўства, знешнепалітычная дакументацыя, актавыя матэрыялы, справаводства, гаспадарча-статыстычныя апісанні, мемуары, эпісталярная спадчына, перыёдыка і г.д., а таксама помнікі уніяцкага кнігапісання і кнігадрукавання, творы сакральнага мастацтва і інш. Даследчык уніі запавінен імкнуцца да максімальнага ўліку фактаграфіі, зафіксаванай у крыніцах, і пры гэтым прыслухоўвацца да довадаў не толькі апанентаў рэлігійнага адзінства, якім толькі, як правіла, давярала большасць усходнеславянскіх навуковых аўтарытэтаў, але і да крыніц уніяцкага паходжання.



Вялікія комплексы крыніц па гісторыі уніяцкай царквы сканцэнтраваны ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу (фонды 797 "Канцылярыя обер-пракурора Сінода", 823 "Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў" і 824 "Беларуска-літоўская духоўная калегія Сінода"), у Нацыянальным гістарычным архіве Літвы ў Вільнюсе (фонд 634 "Літоўская грэка-уніяцкая кансісторыя" і інш.), Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў Львове (фонд 201 "Грэка-каталіцкая мітрапалічая кансісторыя ў Львове", фонд 408 "Протаігуменат манастыроў ордэну Васіля Вялікага ў Львове" і інш.), Архіве Санкт-Пецярбургскага філіяла Інстытута расійскай гісторыі Расійскай акадэміі навук (фонд 52 "Калекцыя П.Н.Дабрахотава"[262]), у фондах культавых устаноў Беларусі і губернатарскіх канцылярый ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску (фонд 3245 "Беларуская грэка-уніяцкая кансісторыя", фонд 2617 "Тадулінскі манастыр" і інш.) і Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне. Каштоўны збор актавых крыніц па тэме зберагаецца ў фамільным архіве Радзівілаў у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве (Архіў Радзівілаў, аддзел VIII "Духавенства"). Разрозненыя, але ад гэтага не менш цікавыя дакументы знаходзяцца ў рукапісных аддзелах бібліятэк Вільнюса, Львова, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Вроцлава.

Асноўны комплекс дакументаў па гісторыі уніяцкай царквы – умоўна званы "Архіў уніяцкіх мітрапалітаў" – фармаваўся ў працэсе яе дзейнасці на працягу XVI–XIX ст. на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны. Цяпер ён у значнай сваёй частцы захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу ў выглядзе фонда 823, дзе сабрана 5850 адзінак захавання за 1470–1839 гады. Частка дакументаў гэтага архіва знаходзіцца на Украіне, у Літве і Польшчы.

Частка гэтага унікальнага збору была надрукавана ў другой палове XIX – пачатку XX ст. ў трох тамах "Актов, относящихся к истории Западной России", у першых двух тамах "Актов, относящихся к истории Южной и Западной России", "Вестнике Юго-Западной и Западной России". Выйшла 2-томнае "Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов"[263] з іх анатацыямі, урыўкамі, а часам і поўным тэкстам.

[262] Колекція та архів епископа Павла Доброхотова. – Київ, 1992.
[263] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 1: 1470–1700. – СПб., 1897; Т. 2:1701–1839. – СПб., 1907.

Другая палова XIX – пачатак XX ст. былі асабліва багатымі на выданне крыніц па гісторыі уніі Аднак выбарачны падбор дакументаў, ігнараванне тых, што не ўпісваліся ў тагачасныя ідэалагічныя ўстаноўкі, падмена навуковай археаграфіі палітычнай, прадузятасць анатацый і заўваг да іх давалі чытачу шматлікіх дакументальных зборнікаў падставы рабіць высновы зусім не навуковага характару, навязвалі афіцыёзныя гістарыяграфічныя ўстаноўкі, паводле якіх беларусы ўяўлялі неад'емную частку расійскай народнасці, якая была дэфармавана накінутай ім звонку уніяй. Даверлівыя адносіны да тэндэнцыйна падабраных фактаў, што зыходзілі, як правіла, з лагера ворагаў уніі, стваралі ў даследчыкаў перабольшанае ўяўленне пра гвалт і пакуты і этнакультурнае шкодніцтва пры яе распаўсюджанні. На гэтым фоне няцяжка было стварыць ілюзію пра 1839 год як пра выпраўленне гістарычнай памылкі і аднаўленне гістарычнай справядлівасці. Старонкі такіх зборнікаў былі прасякнуты апалагетыкай праваслаўя і самаўладдзя як выратавальнікаў беларусаў ад паглынання заходняй цывілізацыяй. Найбольш адыёзнымі ў гэтым плане былі "Сборник документов, уясняющих отношение латино-польской пропаганды к русской вере и народности"[264], "Документы, объясняющие историю Западно-русского края и его отношения к России и к Польше"[265], "Памятники православия и русской народности в Западной России в XVII – XVIII вв."[266].

Значнай базай крыніц для даследчыка уніі з'яўляюцца, пры ўсёй іх вялікадзяржаўна-ахавальнай накіраванасці, публікацыі Віленскай, Санкт-Пецярбургскай і Кіеўскай археаграфічных камісій ("Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси", "Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею", "Акты, относящиеся к истории Западной России", "Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России"), шмат- і аднатамовыя дакументальныя зборнікі: "Историко-юридические материалы", "Белорусский архив древних грамот"[267], "Собрание

[264] Сборник документов, уясняющих отношения латино–польской пропаганды к русской вере и народности (Из исторических материалов, помещенных в «Вестнике Западной России»). – Вып. 1–2. – Вильна, 1865–1866.
[265] Документы, объясняющие историю Западно-русского края и его отношения к России и к Польше / Сост. М.Коялович. – СПб., 1865.
[266] Памятники православия и русской народности в Западной России в XVII–XVIII вв./ Под ред. Ф.Титова. – Киев, 1905. – Т. 1.
[267] Белорусский архив древних грамот / Сост. И.И.Григорович. – М., 1824. – Ч. 1.



древних актов и грамот городов Минской губернии"[268], "Памятники полемической литературы в Западной Руси"[269] і інш., серыйныя выданні ("Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете", "Труды Киевской духовной академии"). Шматлікія крыніцы былі тады надрукаваны ў часопісах ("Вестник Юго-Западной и Западной России", "Вестник Западной России", "Литовские епархиальные ведомости" і інш.), змешчаны ў якасці дадаткаў да манаграфій і мемуараў. Гэтыя публікацыі склалі дакументальную базу вялікадзяржаўна-манархічнай версіі гісторыі Беларусі, якая на доўгі час запанавала ў навуцы.

Апошняму перыяду існавання уніяцкай царквы пашанцавала ў нядрэнным мемуарным адлюстраванні. Дзяржаўныя чыноўнікі, якія па роду сваёй службы займаліся аправаслаўліваннем уніятаў, – Г.Дабрынін[270] і І.Жыркевіч (віцебскі губернатар)[271] – пакінулі ўражваючыя старонкі пра гэтыя акцыі і рэакцыю на іх сялянства. Пазіцыю духавенства з найніжэйшых прыступак іерархічнай лесвіцы, прыціснутага польска-каталіцкім прыгнётам і ўбачыўшага выхад у далучэнні да праваслаўя, адлюстроўваюць запіскі Я.Чабодзькі[272]. Пра зламаныя лёсы праціўнікаў "ўз'яднання" сведчаць унікальныя, пранікнутыя крыўдай і рэлігійным патрыятызмам мемуары рэпрэсіраваных: пароха Р.Міцэвіча з Камянца[273], запісы відавочнікаў карных аперацый супраць уніятаў у 1838-1858 г.[274] і інш.

З запісак бясконца ўпэўненых у праваце сваёй справы "ліквідатараў" уніяцкай царквы ва ўсёй непрыгляднасці паўстае дэнацыяналізатарская дзейнасць і вандалізм галоўнага акцёра ў акцыі

[268] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам. – Мн., 1848.
[269] Памятники полемической литературы в Западной Руси. – Птб., 1878–1903. – Кн. 1–3 (Русская историческая библиотека.. – Т. 4, 7, 19).
[270] Добрынин Г. Истинное повествование или жизнь Гавриила Добрынина, им самим писанная в Могилеве и Витебске 1752–1823. – СПб., 1872.
[271] Жиркевич И.С. Записки генерала Ивана Степановича Жиркевича // Русская старина. – 1890. – Т. 67. – С. 225–277, 665–705.
[272] Чебодько Я.А. Из воспоминаний об унии в Белоруссии в начале XIX века // Русский архив. – 1903. – Вып. 12. – С. 537–544.
[273] Ks. Micewicz i jego towarzysze // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 120–129. Поўны рукапіс мемуараў Г.Міцэвіча захоўваецца ў Рукапісным аддзеле Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве (Спр. 4294 / II).
[274] Akta męczeńskie unji // Rocznik Towarzystwa Historyczno–Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 108 –155.

"ўз’яднання" літоўскага епіскапа Іосіфа Сямашкі[275] і рэнегацтва яго паплечнікаў А.Зубко[276], Н.Сушкова[277] , несумленныя метады ціску на апазіцыйных святароў беларускага епіскапа Васілія Лужынскага[278]. Прыведзеныя імі факты і канфідэнцыйныя матэрыялы часам гаво-рацъ зусім не тое, што хацелі сказаць іх аўтары. А параўнанне зместу гэтай групы мемуараў з прызнаннямі вышэйзгададзеных ахвяр іх аўтараў дае магчымасць убачыць абодва бакі – трыумф і трагедыю – падзей 1833–1839 гадоў.

XX ст. не можа пацягацца з дарэвалюцыйным часам інтэнсіўнасцю абнародавання дакументаў па гісторыі уніі. Асобныя з іх друкаваліся ў "Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах"[279], зборніках "Белоруссия в эпоху феодализма"[280], "Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии. Конец XIV в. – 1648 г."[281]. У 60–80-я гады з’явіліся спецыяльныя зборнікі: "Правда про унию"[282], "Львовский церковный собор: Документы и мате-риалы. 1596 – 1946"[283].

Шэраг крыніц першаступеннай важнасці былі надрукаваны ў XIX–XX ст. у Польшчы у дакументальных зборніках "Relacje nuncuyszów apostolskich i innych osób o Polsce"[284], "Archiwum domu Sapiehów"[285], "Z meczęńskich dziejów Unii"[286] і асобнымі выданнямі ("Plan zniesienia kościoła grecko–unickiego w Rosyi"[287], "Jak z Unitami

[275] Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 1–3. – СПб., 1883.
[276] Воспоминания архиепископа Антония. – СПб., 1889.
[277] Сушков Н.В. Воспоминания о митрополите Литовском и Виленском Иосифе и об уничтоже-нии унии в России. – М., 1869.
[278] Записки Василия Лужинского, архиепископа полоцкого. – Казань, 1885.
[279] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. – Мн., 1936. – Т. 1
[280] Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов: В 4 т. – Мн., 1959–1979. – Т. 1–4.
[281] Социально – политическая борьба народных масс Белоруссии: Конец XIV в. – 1648 г.: Сбор-ник документов и материалов / Сост. З.Ю.Копысский и др. – Мн., 1988. – Т. 1.
[282] Правда про унію: Документи і матеріали. – Львів, 1968; Правда про унію: Документи і ма-теріали. Вид. 3–е, доп. – Львів, 1981.
[283] Львовский церковный собор: Документы и материалы. 1946-1981. – М., 1982; The Lvov church council: Documents and materials. 1946–1981. – Moscow, 1983.
[284] Relacye nunciuszow apostolskich i innych osob o Polsce od roku 1548 do 1690. – Berlin – Poznan, 1864. – T. 2.
[285] Archiwum domu Sapiehów / Oprac. A.Prochaska. – Lwów, 1892. – T. 1: Listy z lat 1575–1606.
[286] Z meczęńskich dziejów Unii / Wyd. i oprac. W.Chotkowski. – Poznań, 1888. – T. 1; Kraków, 1891–1893. – T. 2–6.
[287] Plan zniesienia kościoła grecko–unickiego w Rosyi: Dokument historyczny przez T.I.Martynowa. Przekł. z franc. – Kraków, 1882.



obchodza się w Rosyi?: Korespondencya dyplomatyczna"[288], "Unici: Wspomnienia z dziejów męczeństwa"[289], "Ekthesis"[290], "Antirresis" Hipacija Pocieja[291], "Księga wizyty dziekanskiej dekanatu podlaskiego"[292], "Katalog druków supraskich"[293] і інш.). Асобныя крыніцы па гісторыі уніяцкай царквы друкаваліся ў Францыі ("Unici na Litwie i Białorusi: Memoryał ... Piuszowi IX"[294], "Akta męczeńskie unji"[295] і інш.), ЗША ("Collected works of M.Smotrycki"[296], Lev Krevza’s A Defence of Church Unity and Zaxarija Kopystenskyj’s Palinodia[297] і інш.), Англіі ("Religious persecution in Poland"[298], "The Pontifical Liturgy of Saint John Chrysostom"[299] і інш.).

Надзвычайную каштоўнасць для даследавання праблемы маюць дакументы, надрукаваныя ў рамках буйнамаштабнай выдавецкай праграмы, разгорнутай з сярэдзіны стагоддзя базыльянскімі гістор-ыкамі на чале з А.Вялікім, у Ватыкане і ў значнай ступені пачарпну-тыя з яго архіваў: дакументы Берасцейскай уніі[300], акты Кангрэгацыі прапаганды веры[301], справаздачы апостальскіх нунцыяў[302], перапіска

[288] Jak z Unitami obchodza się w Rosyi?: Korespondencya dyplomatyczna. – Kraków, 1877.
[289] Mościcki H. Unici: Wspomnienia z dziejów męczeństwa. – Warszawa, 1918.
[290] Broniewski M. Ekthesis, abo krotkie zebranie spraw, ktore się dziaty na partykularnym, to jest pomiastnym Synodzie w Brześciu Litewskim. Opracowali J. Byliński i I.Dlugosz. – Wrocław, 1995.
[291] Pociej Hipacy. Antirresis abo Apologia przeciwko Krzysztofowi Philaletowi, który niedawno wydał książki imieniem starożytnej Rusi religiej greckiej przeciw książkom o synodzie brzeskim, napisanym w roku Pańskim 1597 / Oprac. J.Byliński i J.Dlugosz. – Wrocław, 1997.
[292] Księga wizyty dziekanskiej dekanatu podlaskiego w roku 1773 miesiąca Novembra dnia 17 sporzadzonej. – Białystok, 1996.
[293] Cubrzyńska – Leonarczyk M. Katalog druków supraskich. – Warszawa, 1996.
[294] Unici na Litwie i Białorusi: Memoryał przesłany jego świętobliwości Piuszowi IX na ręce najprzewielebniejszego arcybiskupa poznańskiego i gnieznieńskogo. – Paryż, 1862.
[295] Akta męczeńskie unji // Rocznik Towarzystwa Historyczno–Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 108 –155.
[296] Collected Works of Meletij Smotryckyj. – Cambridge, 1987. – T. 1.
[297] Lev Krevza’s A Defence of Church Unity and Zaxarija Kopystenskyj’s Palinodia. – Part I-II. – Cambridge, 1995.
[298] Religious persecution in Poland // The Catholic Magazine. – 1839. – November. – Vol. VIII. – P. 707–711.
[299] The Pontifical Liturgy of saint John Chrysostom: A manuscript of the 17th century in the Slavonic text and Latin translation / Edited by C.Sipovic. – London, 1978.
[300] Documenta Unionis Berestensis Eiuque Auctorum (1590–1600) / Edit. A. Welykyj. – Romae, 1970.
[301] Acta Sacrae Congregationis de Propaganda Fide ecclesiam catholicam Ukrainae et Bielarusjae spectantia / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1954. – Vol. I: 1622–1667; Vol. II: 1667–1710; Vol. III: 1710–1740; Vol. IV: 1740–1769; Vol. V: 1769–1862.
[302] Litteriae Nuntiorum Apostolicorum Historiam Ucrainae illustrantes / Ed. A.Welykyj. – Roma, 1959. – Vol. 1– 2.

кіеўскіх уніяцкіх мітрапалітаў[303], скаргі уніяцкага духавенства Беларусі і Украіны ў Рым[304], перапіска базыльян[305] і інш., закліканыя пераканаць чытача, што ідэя уніі нарадзілася ў асяроддзі праваслаўнай іерархіі, апраўдаць экспансію Ватыкана на праваслаўным беларуска-ўкраінскім усходзе яго клопатам пра гэтыя народы. Гэта выдавецкая праграма аказвае навуцы вялікую паслугу. Яна ўключае публікацыю крыніц і з недаступных беларускім гісторыкам ватыканскіх архіваў, якія адлюстроўваюць абмеркаванне пытанняў бягучага царкоўна-рэлігійнага жыцця Беларусі ў апостальскай сталіцы і яе стратэгічных мэтаў і маюць неацэннае значэнне для вывучэння нашай царкоўнай і нацыянальна-культурнай мінуўшчыны (інструкцыі нунцыям, у якіх акрэслівалася праграма дзеяння і мэты папства; іх справаздачы – рэляцыі, запыты, лісты і інш.). З сярэдзіны XX ст. публікацыя крыніц ажыццяўляецца ў межах шматтомнага серыйнага выдання "Analecta Ordinis Sancti Basilii Magni". З публікацый апошніх гадоў вялікую каштоўнасць уяўляюць 8 рэдакцый артыкулаў-умоў Берасцейскай уніі[306], на аснове якіх стваралася і дзейнічала новая царкоўная арганізацыя.

Аб'ём яшчэ не ўцягнутай ў навуковае абарачэнне інфармацыі па гісторыі уніяцкай царквы яшчэ вельмі вялікі. У другой палове XIX – пачатку XX ст. М.Каяловіч, П.Баброўскі, П.Гаручка, С.Рункевіч, Г.Кіпрыяновіч і Г.Шавельскі карпатліва ўзворвалі паступіўшую ў Вільню і Пецярбург уніяцкую дакументальную цаліну. Па прапрацоўцы архіўных матэрыялаў ніхто з наступных беларускіх даследчыкаў уніі не пераўзышоў і нават не дасягнуў ўзроўню сваіх дарэвалюцыйных калег.

[303] Epistolae Josephi Velamin Rutskyj, Metropolitae Kiovensis Catholici (1617–1637) / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1956; Epistolae metropolitarum Kiovensium Catholicorum Raphael Korsak, Antoni Sielava, Gabrielis Kolenda (1637–1674) / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1956; Epistolae metropolitarum Kiovensium Catholicorum Cypriani Zochovskyj, Leonis Slubicz Zalenskyj, Georgii Vynnyckyj (1674–1713) / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1958; Epistolae metropolitarum Kiovensium Catholicorum Leonis Kiśka, Athanasii Szeptyckyj, Floriani Hrebnyckyj. 1714–1762 / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1959; Epistolae Jasonis Junosza Smogorzevskyj metropolitae Kiovensis Catholici (1780–1788) / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1965; Epistolae Feliciani Philippi Wolodkovycz metropolitae Kiovensis Catholici (1762–1778) / Ed. A.Welykyj. – Vol. 1-2. – Romae, 1967–1969; Epistolae metropolitarum Kiovensium Catholicorum Theodosii Rostockyj, Heraclii Lisovskyj, Gregorii Kochanovicz, Josaphat Bulhak (1788–1838) / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1980.

[304] Supplicationes Ecclesiae Unitae Ukrainae et Bielarussjae / Red. A.Welykyj. – Romae, 1960. – Vol. 1: 1600–1699; Supplicationes Ecclesiae Unitae Ukrainae et Bielarussjae / Red. A.Welykyj. – Romae, 1962. – Vol. 2: 1700–1740; Supplicationes Ecclesiae Unitae Ukrainae et Bielarussjae / Red. A.Welykyj. – Romae, 1965. – Vol. 3: 1741–1769.

[305] Litterae basilianorum in terris Ucrainae et Bielarusjae / Ed. A.Welykyj. – Romae, 1979. – Vol. 1: 1601–1730.

[306] Патріло І. Артикули Берестейськоі унii // Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Sectio II.– Рим, 1996. – Т. XV. – С. 47–102.



Не далі прарыву ў гэтым плане і 90-я гады. Слабым месцам новага канцэптуальнага асэнсавання берасцейскага працэсу з'яўляецца інэртнасць многіх даследчыкаў у пошуку і ўвядзенні ў навуковае абарачэнне новых крыніц, у чым яны, на жаль, не могуць пацягацца са сваімі папярэднікамі. Адны абмежаваліся выкарыстаннем дарэвалюцыйных публікацый дакументаў, для іншых ролю крыніц і наогул выконваюць працы знаўцаў уніі часоў Расійскай імперыі. Гэта часта абарочваецца адсутнасцю належнай глыбіні пранікнення ў складаную уніяцкую праблематыку, апісальнасцю і дэкларатыўнасцю шэрагу публікацый, аперыраваннем адзінкавымі класічнымі, але ўжо "зацяганымі" фактамі і састарэлай аргументацыяй. Часткова гэта тлумачыцца цяжкадаступнасцю асноўных дакументальных комплексаў па праблеме – ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску і Гродне захавалася толькі невялікая частка крыніц.

У абстаноўцы грамадска-палітычнай і навукова-тэарэтычнай актуалізацыі пытання аб месцы і статусе Беларусі ў сям'і хрысціянскіх народаў у мінулым і цяпер паўстала задача забяспечыць даследчыкаў для пачатку нейкім мінімумам дакументальных публікацый па гісторыі Берасцейскай уніі і даць у іх рукі ключы ад скарбаў архіўнай "уніятыкі". Такія дакументы сталі з'яўляцца ў часопісах і зборніках[307], пачалося даследаванне крыніц па гісторыі уніі[308].

[307] Сапега Л. Письмо канцлера Великого княжества Литовского Льва Сапеги архиепископу Юзафату Кунцевичу от 12. III. 1622 // Памятники философской мысли Белоруссии XVII – первой половины XVIII в. / В.В.Дубровский, М.В.Кашуба, С.А.Подокшин и др. – Мн., 1991. – С. 76–80; Деяние Полацкаго собора 12 февраля 1839 г. Материалы к истории униатской церкви на Полотчине: Документ без комментариев // Полоцкий летописец. – 1993. – № 1. – С. 80–81; Як спрабавалі «ўз'яднаць» сялян-уніятаў (з запісак Г.Дабрыніна). Прадмова і пераклад У.Сосны // Спадчына. – 1993. - № 2. – С. 78–81; Сматрыцкі М. Ліст Мялеція Сматрыцкага, русіна, архіепіскапа Полацкага, да святога Пана нашага Папы Урбана VIII … 5 жніўня 1630 г. // Крыніца. – 1994. – № 11. – С. 10–16; О «старой» и «новой» унии / Публікацыя А.Каўкі // Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік. – Вып. 3 / Уклад. А.Каўка. – Масква–Мінск–Смаленск, 1997. – С. 165–181; Кішка Л. Жыццё мужа божага несьмяротнае памяці Іпація Пацея, мітрапаліта ўсяе Русі, біскупа Уладзімірскага і Берасцейскага // Спадчына. – 1998 – № 4. – С. 149–176; і інш.

[308] Палуцкая С.В. Інвентары базыльянскіх манастыроў як крыніца па гісторыі культуры Беларусі // Тэзісы міжнар. навук.–тэар. канф. «Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі: стан і перспектывы», 1–2 снежня 1993 г. – Ч.1. – Мінск, 1993. – С. 147–151; Палуцкая С.В. Каложскі архіў і яго значэнне для краязнаўчых даследаванняў // Гістарычнае краязнаўства – дзейсны фактар інтэнсіфікацыі навучальнага працэса ў школе і ВНУ: Тэз. рэсп. навук.–метад. канф., Гродна, 27–28 кастр. 1994 г. – Гродна, 1994. – С. 102–105; Марозава С.В. Спроба сістэматызацыі крыніц па гісторыі уніяцтва на Беларусі (1596–1839 гг.) // Гістарычныя

Пачатак грунтоўнай археаграфічнай работы ў гэтым кірунку можна звязаць з выхадам зборніка **"Унія в документах"**[309]. У яго ўвайшла падборка даўно стаўшых бібліяграфічнай рэдкасцю дакументаў за 1385–1839 г., узятых галоўным чынам з публікацый XIX–XX ст. Заклікаеная комплексна адлюстраваць перадумовы, прычыны, прынящце і эвалюцыю царкоўнай уніі, гэта падборка, на жаль, сваёй функцыі не выканала ў поўнай меры і не дае ўсебаковага аб’ектыўнага ўяўлення пра гэту гістарычную з’яву, якая была больш складанай, чым яе паказваюць дакументы зборніка.

З’явілася першая тэматычная публікацыя дакументаў **"Полацкія пакутнікі"**[310], якія расказваюць пра адзін з трагічных сюжэтаў гісторыі уніяцкай царквы – расправу цара Пятра I з полацкімі базыльянамі ў 1705 г.

Зусім нядаўна беларускім даследчыкам стаў вядомы збор арыгінальных, аутэнтычных і капійных крыніц XVI–XIX ст. (як актавых, так і гісторыка-літаратурных, рукапісных кніг) па гісторыі уніяцкай царквы, каштоўнасць якога цяжка пераацаніць. Ён захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу ў архіве Інстытута расійскай гісторыі ў фондзе 52 "Дабрахотаў Пракоп Нілавіч (Павел, епіскап аланецкі і петразаводскі, прафесар Жыровіцкай духоўнай семінарыі)" (714 адзінак захоўвання). П.Дабрахотаў, які займаў пасады рэктара некалькіх семінарый і архімандрыта шэрагу манастыроў Беларусі і Літвы, збіраў рукапісы па гісторыі уніяцкай царквы ў перыяд яе ліквідацыі, калі архівы скасаваных епархій, закрытых манастыроў, цэркваў, прыходаў распыляліся, знішчаліся, раскрадаліся, вывозіліся або проста занядбаліся. Дакументы траплялі або ў Пецярбург, або мясцовай уладзе, бібліятэкам, прыватным асобам, букіністам. У букіністычных магазінах іх тады часам прадавалі проста на вагу. У гэтых умовах адукаванаму прафесару збіраць калекцыю па гісторыі Берасцейскай уніі было не цяжка. Ён метадычна і мэтанакіравана збіраў "уніятыку" з матэрыялаў, якія бясследна знікалі, знішчаліся, разыходзіліся па сотнях рук. Збор такога роду дакументаў не ўхваляўся тагачаснай праваслаўнай духоўнай уладай. З часам яго захапленне стане адным з повадаў для

крыніцы: праблемы класіфікацыі, вывучэння і выкладання. Матэрыялы да Міжнар. навук.–практ. канф., прысвечанай 120–годдзю з дня нараджэння У.І.Пічэты. – Мн., 1998. – С. 33–36; Конфессиональные архивы // Шумейко М.Ф., Козак К.И., Селемнев В.Д. Архивоведение Беларуси. – Ч. 1. – Мн., 1998. – С. 99–111.

[309] Уния в документах: Сборник / Сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. – Мн., 1997.

[310] Полацкія пакутнікі: Зборнік дакументаў / Уклад. і апрац. М.Баўтовіча. – Полацк, 2000.



абвінавачання прафесара ў неправаслаўных поглядах. Калекцыя Дабрахотава – добра падабраны корпус дакументаў XVI–XIX ст. З пераводам у 1845 г. Літоўскай семінарыі з Жыровіцаў у Вільню туды былі вывезены і сабраныя рарытэты. Пазней разам з уладальнікам збор перавандраваў у Полацк, Магілёў. Пасля смерці Дабрахотава ўладальнікам яго вялізарнай калекцыі стаў святар з Петразаводска, ад якога яна трапіла ў бібліятэку Акадэміі навук, а потым у архіў, дзе захоўваецца і цяпер. З складам і зместам гэтай унікальнай дакументальнай калекцыі даследчыкаў пазнаёмілі ўкраінскі знаўца ўсходнеславянскай царкоўнай гісторыі В.І.Ульяноўскі ў сваёй кнізе "Колекція та архів епископа Павла Доброхотова"[311] і **С.Паўловіч** у артыкуле **"Царкоўная старажытнасць"**[312].

Усведамляючы вялікае інфармацыйнае значэнне ў справе асэнсавання і ўразумення канфесійнай гісторыі Беларусі і далёка не вычарпаны даследчыцкі патэнцыял архіва уніяцкіх мітрапалітаў, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы сумесна з Беларускай грэка-каталіцкай царквой, зацікаўленай у грунтоўным і аб’ектыўным даследаванні ўласнай гісторыі, у асобе полацкай грэка-каталіцкай грамады выдалі два каталогі-даведнікі дакументаў па гісторыі царквы на Беларусі XV–XIX ст. пад агульнай назвай **"Архіў уніяцкіх мітрапалітаў".** У першую кнігу ўвайшлі звесткі пра дакументы, што захоўваюцца ў фондзе 823 "Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі" Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбурзе[313], што аблягчае і адкрывае доступ да гэтай невычэрпнай крыніцы інфармацыі аб дзейнасці нашых продкаў. Другі даведнік уключае пералік спраў па гісторыі царквы на Беларусі з архіва уніяцкіх мітрапалітаў, якія захоўваюцца ў архівах Украіны: Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў Кіеве і ў Львове[314]. Архіўныя сігнатуры (пошукавыя дадзеныя) ў гэтых даведніках дадуць магчымасць даследчыкам на Беларусі рабіць адбор дакументаў паводле неабходнай тэматыкі.

[311] Колекція та архів епископа Павла Доброхотова. – Київ, 1992.

[312] Царкоўная старажытнасць / Прадмова і публікацыя С.Паўловіч // Спадчына. – 1995. – № 4. – С. 211–234.

[313] Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Дакументы па гісторыі царквы ў Беларусі XV–XIX стст. у фондзе «Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі»: Даведнік / Склад. С.І.Паўловіч, Т.М.Мальцава. – Мінск-Полацк, 1999.

[314] Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Дакументы па гісторыі царквы ў Беларусі XVI–XX стст. у фондах гістарычных архіваў Украіны: Даведнік / Склад. С.І.Паўловіч, Т.М.Мальцава. – Мінск-Полацк, 2001.

Вывучэнне масіву вартых даверу архіўных, далёка не вычарпаных папярэднімі пакаленнямі даследчыкаў, і апублікаваных крыніц, пры адмове ад іх падзелу на зручныя і нязручныя, дасць штуршок для новых навуковых распрацовак гэтай адвечнай тэмы беларускай гістарыяграфіі.



# Заключэнне

Такім чынам, сучаснаму даследчыку Берасцейскай царкоўнай уніі не прыйдзецца ісці па гістарыяграфічнай цаліне. На гэтай навуковай ніве асабліва плённа папрацавалі ў многім прадстаўленыя ўраджэнцамі Беларусі гісторыкі Расійскай імперыі другой паловы XIX – пачатку XX ст., якія падводзілі "навуковы грунт" пад скасаванне уніі. Вялікую цікавасць да уніяцкай праблематыкі праявілі беларускія вучоныя 20-30-х г. XX ст., хоць спецыяльных даследаванняў па ёй і не вялі, і канца XX ст. Шмат зрабілі таксама украінскія і польскія даследчыкі на мяжы XIX–XX і XX–XXI ст. і ватыканскія гісторыкі другой паловы XX ст.; іх навуковая спадчына – прадмет асобнага разгляду, які не ўваходзіў ў нашу задачу. "Прайсціся" па гісторыі уніі, яе спецыяльна не вывучаючы, лічыў для сябе дазволеным практычна кожны даследчык беларускай мінуўшчыны XVI–XIX ст. Прарывы ж ва уніязнаўстве рабілі адзінкі: М.Каяловіч у Расійскай імперыі, Э.Лікоўскі ў Польшчы, С.Голубеў, А.Лявіцкі і М.Грушэўскі на Украіне, В.Ластоўскі, А.Савіч і С.Падокшын на Беларусі.

Гістарыяграфія уніі прайшла доўгі, склададзены і поўны супярэчнасцяў шлях. Лічыцца, падзеі ацэньваць тым лягчэй, чым на большай адлегласці ад нас яны знаходзяцца. Наўрад ці гэта палажэнне можна распаўсюдзіць на Берасцейскую унію. Яе хвалілі, лаялі, абыходзілі маўчаннем. Афарміліся два канцэптуальныя падыходы, паміж якімі вось ужо пятае стагоддзе ідзе барацьба. Гістарыяграфія Расійскай імперыі асудзіла уніяцкую царкву, не абцяжарваючы сябе вывучэннем працэсаў, якія адбываліся ўнутры яе. У апошняй трэці XIX – першай трэці XX ст. афарміўся альтэрнатыўны гістарыяграфічны кірунак, які, аднак, у 30-я гады быў разгромлены. Савецкая навука 30–80-х гадоў не пасунула пытання наперад, але звузіла і затармазіла яго вывучэнне, працягваючы тым не менш фармаваць нелаяльнасць да уніі. Ніводная, відаць, з падзей беларускай гісторыі не падвяргалася такой масіраванай дыскрэдытацыі і ахайванню ў расійскай і савецкай гістарыяграфіі двух апошніх стагоддзяў, як Берасцейская унія.

Разнадумства даследчыкаў у многім зыходзіць з іх палітычнай і ідэалагічнай арыентацыі, дзяржаўнай, нацыянальнай і асабліва канфесійнай прыналежнасці, залежыць ад іх спосабу мыслення і кампе-

тэнтнасці, вынікае з прычыны адсутнасці адзінага крытэрыя ў падыходзе да праблемы. Трактоўка гісторыкаў Польшчы і Расіі зыходзіла найперш з інтарэсаў іх дзяржаў. Пазіцыя беларускіх і ўкраінскіх даследчыкаў, як правіла, падзялялася паміж адстойваннем нацыянальных інтарэсаў і правядзеннем у навуку заходнерусісцкай канцэпцыі уніі. Калі расійская гістарыяграфія XIX–XX ст. адназначна адмоўна ацэньвала унію, то беларуская, украінская і польская – дапускалі іншатлумачэнні.

Зняцце ідэалагічнага прэсінгу з усходнееўрапейскай гістарычнай навукі пасля двух стагоддзяў цкавання уніі спачатку ў жыцці, а потым у навуцы, прывяло да новага вітка даследчыцкай цікавасці да уніяцкай праблематыкі і пашырэння гарызонта беларускай гістарыяграфіі ў яе бачанні. У пошукі адказу на яе шматлікія пытанні ўключыліся таксама філосафы, рэлігійныя дзеячы, мастацтвазнаўцы, філолагі і інш. Даследчыкі апошняга дзесяцігоддзя зрабілі важкія крокі на шляху пераасэнсавання вынікаў Берасця з пазіцый сучаснага гістарычнага бачання. Не застаюцца абыякавымі да праблемы і вучоныя іншых краін. З’явіліся працы, здольныя "перавярнуць" традыцыйныя ўяўленні (ў многім прама супрацьлеглыя) свецкай гістарыяграфіі (канфесійная гістарыяграфія ў сілу сваёй спецыфікі і сутнасці застаецца на традыцыйных пазіцыях).

Салідная гістарыяграфія і колькасць уведзеных у навуковае абарачэнне крыніц сёння дазваляюць нам лепш разумець Берасцейскую унію, чым нашым папярэднікам. Пры вялікім аб’ёме навуковай прадукцыі яны тым не менш з прычыны панавання пэўных стэрэатыпаў і догмаў (тэорыя афіцыйнай народнасці, партыйна-класавы падыход, спрошчана зразуметая ідэя славянскага адзінства) не змаглі раскрыць усю паўнату феномена уніяцтва, этнакультурная і царкоўна-рэлігійная сутнасць якога была больш складанай, чым гэта нам ўяўлялася да нядаўняга часу. Канфесійная антыпатыя дарэвалюцыйнай расійскай, а пазней савецкай гістарыяграфіі, а таксама цяжкадаступнасць крыніцавай базы, распатрашанай па архівасховішчах розных краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы, абумовілі **недастатковую вывучанасць цэлых тэматычных і храналагічных зрэзаў**. Даследаванне уніі раней замыкалася вузкім гарызонтам палітыкі і ідэалогіі. У яе даследаванні рэдка выходзілі ў свет этнічнасці і культуры.

Не абагульнена ўся шматстайнасць фактараў, што прывялі кіраўніцтва Кіеўскай мітраполіі да заключэння Берасцейскай уніі.



Патрабуюць далейшага асэнсавання яе карані. Папярэдняя гістарыяграфія акцэнтавала ўвагу на тэндэнцыі збліжэння і зліцця уніяцкай царквы з рымска-каталіцкай. Другая плынь – на адстойванне сваёй самабытнасці ў межах інтэграцыі з Ватыканам – да нядаўняга часу зусім не распрацоўваліся. З’яўленне ў бібліятэках Беларусі публікацый ватыканскіх крыніц адкрывае магчымасць аналізу уніяцкай палітыкі папства канца XVI – першай паловы XIX ст. на аснове іх арыгінальных дакументаў. Яшчэ шмат нявысветленых аспектаў у зігзагах дзяржаўнай канфесійнай палітыцы адносна уніяцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай. Цікавым уяўляецца пытанне аб уніяцкай "карце" ў імперскай палітыцы Расіі на Беларусі. Наспела неабходнасць даследавання пытанняў аб ролі канцлера ВКЛ Льва Сапегі і навагрудскага ваяводы Ф.Скуміна-Тышкевіча ў заключэнні і распаўсюджанні уніі, аб перыпетыях лёсу уніяцкай царквы ў сувязі з пазіцыяй і настроямі беларускай шляхты. Бясконцыя дыскусіі і спрэчкі будзіць постаць Мялеція Сматрыцкага. Не ацэнена, як яна таго заслугоўвае, роля царкоўнага (у прыватнасці, уніяцкага) фактару ва ўключэнні Беларусі ў еўрапейскі культурны час, яго ўплыў на сістэму еўрапейскіх міжнародных адносін. Пара пераасэнсаваць ролю вонкавага фактару (польскага, расійскага) у жыццядзейнасці уніяцкай царквы. У пачатковай стадыі знаходзіцца вывучэнне яе месца ў развіцці адукацыі, кніжнапісьмовай культуры, бібліятэчнай і архіўнай справы, музычнага мастацтва Беларусі. Перспектыўнай бачыцца далейшая распрацоўка пытання аб месцы уніяцкай царквы ў этнамоўных працэсах XVII–XIX ст. Патрабуе даследавання роля уніяцтва ў фармаванні менталітэту нашага народа. Нездавальняючым, супярэчлівым з’яўляецца вырашэнне пытання аб этнічнай тоеснасці уніятаў. Падлягаюць пераглядУ адносіны беларускага народа да дэмантажу уніяцкай царквы. Яшчэ ніхто спецыяльна не даследаваў рух супраць дэунізацыі 1830-х гадоў. Яшчэ далёкія ад асэнсавання месца уніяцтва ў канфесійнай структуры насельніцтва Беларусі і яго сацыяльная база. Пара паглядзець на канфесійныя працэсы і з пункту погляду статыстыкі. Толькі пастаўлена праблема аб ролі уніяцкай інтэлектуальнай эліты першай трэці XIX ст. у зараджэнні беларускай нацыянальнай ідэі. Пантэон беларускіх дзеячаў культуры і навукі ўзбагаціцца пасля даследавання і ўвядзення ў яго персаналій выхадцаў з уніяцка-базыльянскага асяроддзя. Уяўляе цікавасць зусім нераспрацаванае пытанне аб міжна-

